Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б



## № 11

ЛІСТАПАД

МЕНСК — 1928

В. Гантман

# Пад азнакай ленінскай згуртаванасьці радоў партыі

Мы яшчэ ня маем поўных і вычэрпваючых матар'ялаў, якія-б характарызавалі ўсебакова бягучую справаздачную і перавыбарчую кампанію парторганаў. Пакуль што маюцца досыць ня поўныя матар'ялы і паведамленьні прадстаўнікоў ЦК і ЦКК, якія прымалі ўдзел у правядзеньні перавыбараў.

Перш за ўсё кідаецца ў вочы аграмадны рост актыўнасьці амаль ва ўсіх нашых партыйных арганізацыях. Меўшыя месца ў частцы арганізацыі даклады і перавыбары парторганаў з поўнай яскравасьцю паказалі, што ў актыўную партыйную работу ўцягнуўся новы шырокі слой самай маладой часткі партыі.

Шматлікія выступленьні радавых партыйцаў працуючых за станком, цьвярозы дзелавы падыход да рознага роду самых сур'ёзных палітычных пытаньняў сёнешняга часу, выступленьні па справаздачах Бюро парт'ячэек і райкомаў у шмат якіх выпадках ня меншай паловы ўдзельнікаў партсходаў і партконфэрэнцый сьведчаць аб вялікай палітыка-выхаваўчай рабоце, праведзенай у парторганізацыі, аб заметным палітычным росьце і павышэньні палітычнага ўзроўню камуністых.

За досыць нязначнымі выключэньнямі—мы назіраем рашучую крытыку нашых недахопаў, сьмелае выяўленьне ўсіх балячак, няшчаднае разаблачэньне элемэнтаў у радох партыі, што адарваліся ад пралетарскае масы. Поруч з гэтым ёсьць і паасобныя факты яўнага неразуменьня самакрытыкі, прамога выкрыўленьня ўказаньняў нашай партыі ў пытаньні разгортваньня самакрытыкі. Клясычны прыклад у даным выпадку прадстаўляе сабою Нараўлянскі сельскі райком, які лічыць, што крытыкаваць недахопы райкому можна толькі з блаславеньня райкому, што на гэту крытыку патрэбен асобы дазвол.

У кожным выпадку, гэтыя факты незразуменьня, нават калі-б іх было і ня так многа, дыктуюць неабходнасьць правядзеньня ў далейшым паглыбленай растлумачальнай работы ўва ўсёй арганізацыі, асабліва ў яе сельскай частцы. Яны гавораць аб неабходнасьці далейшага ўсваеньня буйнейшага значэньня пытаньня аб самакрытыцы, падрабязнай праработкі адозвы ЦК УсеКП(б) і рашучай барацьбы з усялякага роду зьявамі, што перашкаджаюць шырокаму разьвіцьцю самакрытыкі, у якой-бы форме яны ні выяўляліся.

Грунтоўныя пытаньні, вакол каторых канцэнтравалася ўвага большасьці партсходаў і раённых канфэрэнцый—гэта пытаньні і задачы гаспадарчага будаўніцтва, недахопы гэтага будаўніцтва, пытаньні рабочага снабжэньня, пытаньні колектывізацыі і сельскай гаспадаркі цалкам. Можна лічыць, што ўсе важнейшыя гаспадарчыя пытаньні бягучай паласы мелі адбітак на партсходах і конфэрэнцыях. Аднак-жа, як адзін з буйнейшых недахопаў, які варта адзначыць,—гэта замыканьне

ў кола пытаньняў свайго прадпрыемства, свайго сяла. З аднаго боку гэта і ня кепска, паколькі гэта спрыяла конкрэтызацыі дакладаў і тых спрэчак, што вяліся па іх. Але з другога боку ў такой пастаноўцы ёсьць і вялікі мінус, паколькі конкрэтныя задачы данага прадпрыемства ня ўвязваліся з агульна-палітычнымі задачамі, якія стаяць перад усёй партыяй і рабочаю клясаю. І сапраўды, цэлы рад таварышоў зьбіваўся на шлях вузкага „дзелячаства", забываючы ў той-жа час аб агульных партыйных і палітычных задачах. Гэта асабліва датычыцца першага пэрыоду справаздачнай і перавыбарчай кампаніі, пазьней, к часу раённых партконфэрэнцый, гэтая буйнейшая памылка была ў значнай меры выпраўлена.

Ніяк нельга прайці міма і другога самага грунтоўнага недахопу, які меў месца асабліва ў першы пэрыод ходу перавыбараў. Тут маецца на ўвазе недастатковае завастрэньне ўвагі цэлым радам партячэек і раённых партконфэрэнцый на правай небясьпецы. Калі і ўпаміналася аб правай небясьпецы, дык рабілася гэта вельмі асьцярожна, нясьмела. Невыстарчальна і няглыбока ўскрывалася падаплёка правай небясьпекі, яе сутнасьці, а таксама прымірэнцкіх адносін да правае небясьпекі. Праўда, у рэзалюцыях амаль усюды падкрэсьлівалася правая небясьпека і неабходнасьць рашучай барацьбы з гэтым ухілам, але адлюстраваньне гэтага пытаньня ў спрэчках мы не знаходзім у радзе партячэек.

Якія-ж папярэднія вывады можна зрабіць аб адносінах нашае партарганізацыі да правага ўхілу? Мы бяз сумненьня маем згуртаваньне радоў усяе КП(б)Б вакол палітычнай лініі Цэнтральнага Камітэту. Але было-б вялікай памылкай гаварыць аб тым, што мы ў радох КП(б)Б адняя маем асобных камуністых выяўляючых тыя ці іншыя хістаньні і адбіваючых, часам несьвядома, не заўважаючы гэтага, правы ўхіл у большай або меншай ступені. Выступленьні паасобных камуністых, працуючых у вёсцы, выявілі незразуменьне і недаацэнку клясавай барацьбы або недастатковае чоткае зразуменьне пераажываемых гаспадарчых цяжкасьцяй.

Таму, а ні ў якім выпадку нельга абмежавацца адным прыняцьцем рэзалюцыі, асуджаючай правы ўхіл, а неабходна энэргічна працягваць пачатую паглыбленую работу па выяўленьню і раскрыцьцю правага ўхілу, прымірэнцтва да яго, дабіцца глыбокага ўсваеньня пагалоўна ўсёй арганізацыяй асноўных задач і шляхаў нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

Да ўсяго гэтага трэба ўлічваць, што правы ўхіл ва многіх выпадках ня мае характару чагось аформленага. Ён можа праяўляцца і праяўляецца ў форме хістаньняў і памылак па паасобных пытаньнях палітычнай лініі (як, напрыклад: недаацэнка работы з беднатою, „няма ў нас кулака", „ня трэба сварыцца з кулаком" і г. д.). Таму грубейшай памылкай зьяўляецца пастанова сьвіслацкай райпартконфэрэнцыі аб тым, што там „няма ні правых, ні левых ухілаў, а ёсьць толькі неразуменьне іх".

І апошні важны момант, які павінен быць адзначан,—гэта правядзеньне выбараў пры строгім захаваньні ўнутрыпартыйнай дэмократыі. У пераважнай большасьці ячэек ня было папярэдняга абгаварэньня кандыдатаў у склад бюро, выбары праводзіліся бяз жадных сьпіскаў. Праўда, ёсьць некаторыя выключэньні, маюцца паасобныя ячэйкі, якія парушылі дырэктыву ЦК, абгаварвалі пярэдня склад бюро, але такіх выключэньняў ня так многа. Трэба сказаць наогул, што перавыбары даказалі правільнасьць дырэктывы і ЦК і тая боязьнь, якая ў некаторых была наконт выпадковага складу бюро, што можа быць выбрана

непрацаздольнае бюро, што нібы гэтым мы адмаўляемся ад кіраўніцтва— гэтая боязьнь аказалася беспадстаўнай.

Наадварот, адмаўленьне ад папярэдняга абгаворваньня кандыдатур значна павысіла адказнасьць, узьняла зацікаўленасьць да перавыбараў кіруючых органаў усяе партыйнае масы і наогул значна ўзьняла актыўнасьць навакол перавыбараў.

Практыка даказала, што наша партыйная маса патолькі палітычна вырасла, што здольна правільна і непамылкова падбіраць кандыдатуры ў склад кіруючых парторганаў, дзелавіта адбіраць і адстойваць лепшыя, партыйна вытрыманыя кандыдатуры і рашуча адводзіць непадыходзячыя кандыдатуры. Мы можам сказаць, што перавыбары ў выніку ўжо далі і бадай дадуць далейшае палепшаньне якаснага складу кіруючых парторганаў.

Такім чынам, можна ўжо папярэдня сказаць і зрабіць беспамылковы вывад аб тым, што перавыбарчая кампанія парторганаў дасьць у выніку далейшую зьлітнасьць шэрагаў усёй партарганізацыі. Значна пабольшаўшая актыўнасьць, палітычны рост, разгортваньне самакрытыкі, паглыбленьне ўнутры-партыйнай дэмакратыі, рашучае засуджэньне і барацьба супроць правай небясьпекі і прымірэнцтва,—такія папярэднія вынікі ня поўнасьцю скончанай справаздачнай і перавыбарчай кампаніі. Балянс у агуле атрымліваецца салідны і станоўчы.

Але самы асноўны вывад, які мы можам зрабіць, заключаецца ў тым, што справаздачная і перавыбарчая кампанія парторганаў праходзіць пад знакам Ленінскае зьлітнасьці нашых бальшавіцкіх шэрагаў.

---

Я. Лясоцкі.

# Эканамічнае становішча рабочае моладзі ў Польшчы і барацьба КСМП

## Фашысцкі націск на пралетарскую моладзь

Прыход да ўлады фашызму два гады таму значна пагоршыў і так вельмі дрэннае становішча працоўнае моладзі ў Польшчы. Праводзімая фашысцкім урадам стабілізацыя вялікім цяжарам лягла на плечы як рабочае клясы ў цэлым, гэтак і рабочае моладзі ў асобку.

Атака фашызму ідзе па дзьвёх лініях як па палітычнай, гэтак і па эканамічнай. Фашысцкі ўрад для правядзеньня гэтае атакі ўводзіць спэцыяльныя дэкрэты, задачаю якіх зьяўляецца даць мажлівасьць капіталістым яшчэ мацней эксплёатаваць працоўную моладзь.

Гэтую дзейнасьць ураду Пілсудзкага мы павінны раней за ўсё разгледзець, бо яна дае *базіс* для эканамічнае атакі тае клясы, інтарэсы якога выражае і абараняе фашызм, г. ё. капіталістаў.

## Атака на арганізацыю рэвалюцыйнае моладзі.

Польскаму фашызму зусім упоўне ясна, што немагчыма эканамічнае прыдушэньне рабочых без разгрому іхных арганізацый. Вось таму фашысцкі ўрад Пілсудзкага ўзьвёў на гэткую вышыню палітыку тэрору, на якой яна яшчэ ніколі ня бывала.

Рэпрэсіі ў адносіне да падпольнага Камсамолу Польшчы, да ўсіх левых рабочых („Сіла“ і інш.) і сялянскіх („Орка“) саюзаў моладзі нязвычайна ўзмацніліся.

Адначасова фашызм падрыхтоўвае дэкрэт супроць палітзьняволеных, у тым ліку і маладых, які адбірае некаторыя іхныя прывілеі ў параўнаньні з крымінальнымі—такім чынам фашызм хоча застрашыць рэвалюцыйную моладзь.

Гэтага, аднак, фашызму мала. Ён хоча адабраць у пралетарскае моладзі наогул *права арганізавацца.* Для гэтае мэты ўрад выпрацаваў спэцыяльны дэкрэт аб сходках. Дэкрэт гэты яшчэ не прыняты, але што гэта значыць для фашысцкага ўраду?—бо-ж „свой“ парлямэнт прыме закон, а таму яго ўжываюць да прыняцця. Ужо цяпер ня пушчаюць моладзь да 18 год на легальныя сходы левага блёку, напрыклад, у часе перадвыбарчае кампаніі ў парлямэнт 25 сакавіка г. г. былі арыштаваны кіраўнікі сэкцыі моладзі пры прафсаюзе дрэвапрацоўшчыкаў у Варшаве. На Заходняй Беларусі ўрад патрабуе выключэньня з прафсаюзаў моладзі да 18 год (у Пінску), ня прызнае права належаць да Таварыства Беларускае Школы моладзі нават да 23 год. У Вільні, Беластоку і Пінску над сэкцыямі моладзі ўстаноўлены непасрэдны паліцэйскі нагляд (не дазваляюць ім праводзіць масавак). Таксама ўзмацніліся рэпрэсіі ў адносіне эканамічных і культурна-асьветных рэвалюцыйных арганізацый моладзі: сэкцыі моладзі пры прафсаюзах і клюбах.

Усе гэтыя крокі ўраду капіталістаў і памешчыкаў накіраваны толькі супроць рэвалюцыйнае моладзі: канечна, і гутаркі няма пра забарону моладзі да васемнаццаці год належаць—да адкрыта фашысцкіх і сацыял-дэмакратычных юнацкіх арганізацый. Гэтыя апошнія стваруюцца за пэрыяд улады Пілсудзкага ў вялікім ліку пры пратэктарстве і за грошы ўраду і капіталістаў, становячыся вялікаю небясьпекаю для рэвалюцыйнае барацьбы рабочых. Напрыклад, у часе апошняе забастоўкі тэкстыльшчыкаў у Лодзі спартыўныя клюбы рабочых выступалі супроць забастоўшчыкаў, а частка маладых рабочых рабіліся за штрэйкбрэхэраў.

Як разгром рэвалюцыйных арганізацый і забарона арганізоўвацца моладзі да 18 год, гэтак і стварэньне і насаджваньне антырэвалюцыйных патрыётычных, рэакцыйных саюзаў моладзі зьяўляецца сродкам для таго, каб падначаліць моладзь капіталу, зачыніць ёй рот, адабраць у гэтае актыўнае часткі рабочае клясы мажлівасьць змагацца супроць капіталу, які наступае.

## Сацыял-згоднікі дапамагаюць буржуазіі

Памочнікі фашыстым у выкананьні іхніх плянаў—сацыялісты з ППС і „Бунду“. І гутаркі няма цяпер аб тым, каб правадыры сацыялістаў змагаліся нават хоць-бы на словах супроць законаў, скіраваных супроць працоўнае моладзі. Напрыклад, правадыры пэпээсаўскае арганізацыі моладзі „Тур“ адкрыта дапамагаюць ураду мілітарызаваць моладзь; пэпээсаўскія правадыры прафсаюзаў забараняюць моладзі да 18 год належаць да сэкцыі моладзі пры прафсаюзах, зачыняюць іх, усямерна перашкаджаюць іх узьнікненьню. Гэтак сама пры выбарах у „дэлегацыю“ на фабрыцы „Будова паровуз“ у Варшаве („дэлегацыя“—нешта накшталт фабкому—дзе-ні-дзе існуюць у Варшаве) яны паадбіралі ў 115 чалавек моладзі восемнаццаці год права голасу. Усё гэта паказвае, што пэпээсаўцы зьяўляюцца ярымі паклоньнікамі няпрынятага яшчэ дэкрэту аб сходах.

15 сакавіка на канфэрэнцыю Цэнтральных Камітэтаў усіх прафсаюзаў зьявілася дэлегацыя моладзі з заводаў і сэкцыі моладзі. Дэлегацыя патрабавала разьвіць барацьбу супроць фашысцкага закону, аб павялічэньні зарплаты моладзі і паўсюдышнае арганізацыі сэкцыі моладзі. Сацыял-здрадніцкія прафсаюзныя правадыры збаяліся голасу пралетарскае моладзі і дэлегацыі на канфэрэнцыю ня пусьцілі.

Трэба тут яшчэ адзначыць здрадніцкую ролю правадыроў яўрэйскае сацыял-згодніцкае арганізацыі моладзі „Цукунфт“, якая разам з сваімі сябрамі—польскімі сацыял-здраднікамі разьбівае адзіную барацьбу моладзі супроць капіталу—ніжэй пра гэта яшчэ будзе гутарка.

Як відаць, сацыял-згоднікі, якіх не дарэмна клікаюць сацыял-фашыстымі, і ў гэтым пытаньні адкрыта паказваюць, што зьяўляюцца часткаю фашысцкага лягеру. Барацьба супроць фашысцкае палітыкі ёсьць дзеля таго аднначасова барацьбою супроць сацыял-згоднікаў.

## Прамысловы закон—кайданы на працоўную моладзь

З усіх законаў, якімі ўрад Пілсудзкага хоча „ашчасьлівіць“ працоўную моладзь (аб сходах, аб найме і іншыя), самым цяжкім, які мацней за ўсё б'е па ёй, зьяўляецца гэтак званы „прамысловы закон“. Закон гэты ўводзіць урад у сувязі з правадзімай буржуазіяй, рацыяналізацыяй прадукцыі. Закон гэты, які ўвайшоў у жыцьцё 15-га сьнежня мінулага году, але які праводзіцца толькі паступова, аддае рабочую моладзь непасрэдна ва ўладу фабрыканта і майстра. Гэтыя апошнія

маюць права на свой погляд пасадзіць за непаслухмянасьць маладога рабочага на два тыдні ў турму ці патрабаваць 100 злотых (12 рублёў) штрапу. Па гэтым законе час практыкі на заводзе да атрыманьня кваліфікацыі павялічваецца да 4, а фактычна і да 5 год.

„У працягу трох месяцаў—кажа закон,—прадпрыемца мае права зьняць з работы вучня ў любы момант“. „Нельга прыняць вучня ў тую галіну прамысловасьці, у якой гэты вучань ужо працаваў, калі яго першы прадпрыемца ня дасьць на гэта свае згоды“. Вучань жадаючы атрымаць званьне кваліфікаванага работніка, павінен унесьці пэўную суму, каб яго пусьцілі на экзамін. У экзамінацыйную камісію ўваходзяць толькі майстры, якія, канечна, будуць імкнуцца павялічыць час практыкі. Праца вучняў ня конча аплачваецца і вучням забараняецца належаць да прафсаюзаў. Вельмі важна яшчэ тое, што закон уводзіць карпоратыўныя таварыствы для фабрыкантаў; таварыствы гэтыя маюць правы ўтвараць профшколы, утрымліваць нагляд над рабочаю моладзьдзю, рэгуляваць працяжнасьць практыкі і г. д. Закон б'е асабліва моцна па беларускай, украінскай і яўрэйскай моладзі. Ён патрабуе дапушчаць да іспытаў у веданьні польскае мовы.

Мы ня можам тут пашырацца на ўсе пункты гэтага закону, але ўжо з гаворанага відаць, чым зьяўляецца ён для працоўнае моладзі. Ён поўнасьцю аддае моладзь у рукі капіталістым, ён дарэшты зьнішчае існаваўшыя раней у капіталістычнай Польшчы некаторыя граніцы эксплёатацыі юнацкае працы. Дзякуючы гэтаму драконскаму закону капіталістым удаецца не дапушчаць атрымліваць кваліфікацыю тым вучням, якія маглі-б упоўне працаваць ужо як кваліфікаваныя рабочыя. Такім чынам, капіталіст зможа аплачваць кваліфікаваную працу як некваліфікаваную. Не дарма гэты фашысцкі закон называе рабочая моладзь Польшчы цэхавым законам, бо ён уводзіць фактычна адносіны між прадпрыемцамі, майстрамі і вучнямі, што існавалі за сярэднявяковыя часы.

Закон гэты часткова ўжо ўведзены ў жыцьцё як у каранной Польшчы, гэтак і на ўскраінах (напрыклад, у Бярэсьці), не ўважаючы на масавыя пратэсты супроць яго рабочае моладзі.

## „Прыгожасьці“ капіталістычнае рацыяналізацыі

Рацыяналізацыя вытворчасьці азначае ў Польшчы ў значна большай ступені, чымсь у іншых заходня-эўрапэйскіх краінах, не ўвядзеньне тэхнікі, а простае павялічэньне эксплёатацыі рабочае клясы. Хоць, канечна, праводзіцца ў Польшчы—і нават у адносна вялікіх памерах—рацыяналізацыя шляхам палепшаньня тэхнікі, шляхам пераабсталяваньня—аднак у большасьці выпадкаў пад відам рацыяналізацыі капіталісты праводзяць простае павялічэньне націску на рабочых: фабрычныя газэты польскага камсамолу падаюць поўна фактаў, што паказваюць, як выглядае гэтая капіталістычная рацыяналізацыя. Пакажам толькі на некаторыя з іх. Напрыкад, у шахце „Сілезія“ ўведзены новыя ваганеткі на вугаль, якія месьцяць у сабе на семдзесят пяць кілё больш вугалю. У тэкстыльнай фабрыцы „Відзееўская мануфактура“ (Лодзь) дапаможная сіла, якая абслугоўвала раней 16 варстатаў, цяпер павінны абслугоўваць 12 варстатаў заміж 4-х у 1924 годзе. Тое-ж самае маем і ў іншых галінах прамысловасьці: у мэталюргічнай і г. д.

У выглядзе тэй-жа рацыяналізацыі ўведзены ў шахтах і фабрыках нячувана жорскія штрапы. Дзе-ні-дзе існуе нават табэль штрапаў (Лодзь). У Верхняй Сілезіі за спазьненьне на 10 хвілін вылічваюць палову, а ў некаторых выпадках нават цэлы заработак за дзень. Так-

сама маецца вялікі рост штрапаў у іншых галінах прамысловасьці па ўсей краіне. Надзвычайна вырас за апошні год на фабрыках і заводах тэрор: У Верхняй Сілезіі б'юць кіямі маладых рабочых, тое-ж самае адзначаюць фабрычныя газэткі ў Варшаве і іншых буйных гарадох. Лаянка з боку майстроў уведзена ў сыстэму. Усе гэтыя меры маюць сваёю мэтаю выціснуць з рабочае моладзі астатні пот.

Разгледзім яшчэ ўплыў рацыяналізацыі на ўжываньні юнацкае працы. Рацыяналізацыя, канечна, выціскае кваліфікаваную працу і замяняе яго меншаю ці напоўкваліфікаванаю рабочаю сілаю. Такім чынам становіцца зразумелым, што апошнім часам павялічваецца лік рабочае моладзі. Такім спосабам, у Лодзі, у тэкстыльнай прамысловасьці вельмі павялічваецца лік дзяўчат, якія працуюць. У Дамброўскім басэйне скарачэньне ліку рабочых не зачапіла моладзі. На гэтай глебе расьце антагонізм між дарослымі рабочымі і моладзьдзю, антагонізм, які капіталісты сьвядома распальваюць і павялічваюць часта шляхам ужываньня ў адносіне дарослых рабочых зьдзельнае работы, а ў адносіне моладзі падзённае. На глебе гэтае палітыкі капіталу меліся у апошні час выпадкі боек паміж дарослымі рабочымі і моладзьдзю—па ініцыятыве дарослых рабочых і наадварот (напрыклад, „Відзееўская Мануфактура" ў Лодзі, шахта „Немцы" ў Верхняй Сілезіі).

Трэба адзначыць тут ужываньне ня толькі ў дробнай, але і ў буйной прамысловасьці дзіцячае працы. Есьць факты, калі працуюць дзесяцігадовыя дзеці. Рабочыя карэспандэнты апавядаюць, што „на гутах працуюць 10-12-гадовыя дзеці"; тое-ж самае даведваемся пра вугольную прамысловасьць з Дамброўскага басэйну.

Быўшы інспэктар працы гіжа Крахельская дае ў сваей кніжцы „Працы моладзі ў Польшчы" (1923 год) даныя аб працы дзяцей, частку чаго мы падаемо. У Варшаве за 10 месяцаў 1927 году адзначана Інспэкцыяй Працы 1.112 выпадкаў ужываньня дзіцячае працы. Аказваецца, што дзяцей ад 8 да 12 год працавала 2% ад усяго ліку дзяцей. Дзеці гэтыя ў першы год працы ў большасьці выпадкаў зусім не аплачваюцца. Няма чаго і гаварыць, што ў рамесьніцтве ўжываньне дзіцячае працы яшчэ больш частае.

### Працяжнасьць рабочага дня моладзі

Як адбіваецца капіталістычная рацыяналізацыя на працяжнасьці рабочага дня моладзі? Фармальна абавязковы у Польшчы закон аб 8-гадзінным рабочым дні. Але на справе закон гэты зьяўляецца толькі *фікцыяю*. Таксама фікцыяю зьяўляецца прыняты ў 1924 годзе закон аб абароне працы моладзі, які вызначаў на навучаньне моладзі адну гадзіну, г. ё. вызначау ей 7-гадзінны рабочы дзень. Згодна волі капітала, увядзеньне ў жыцьцё гэтага закону некалькі разоў адкладвалася (апошні раз на 1928 г.). Тым самым дагэтуль абавязковы стары *царскі* закон ад 1816. Трэба, аднак, сказаць, што нават ён не прымяняецца ў фашысцкай Польшчы. Відаць, для сягоньняшніх гаспадароў Польшчы царскі закон надта ліберальны... Толькі на невялікай колькасьці заводаў выконваецца гэты закон, а то і яны абыходзяць яго фактычна ценгля па правіле, уводзячы 2-гадзінны звышурочных (напрыклад, самы вялікі ў Варшаве мэталюргічны завод „Лільпоп"). У вогуле ўва ўсёй Польшчы ўведзена выпраставаньне працяжнасьці часу працы дарослага рабочага і моладзі. У буйной прамысловасьці на большасьці заводаў працуюць 10 гадзін, хоць і тут маюцца адхіленьні ў бок павялічэньня. У мэталюргічнай прамысловасьці ў Верхняй Сілезіі моладзь працуе 10 і 12 гадзін, у тэкстыльнай прамысловасьці ў Лодзі і на буйных фаб-

рыках працуюць 9-12 гадзін, на дробных—12-14 гадз.; маюцца выпадкі калі моладзь працуе па 16 гадзін.

У часопісі „Глос працы“ маецца карэспандэнцыя з фабрыкі Клэйна (Дамброўскі басэйн),—падаемо з яе вытрымку: „прадпрыемца прымушае нас працаваць 16, а інагды і 20 гадзін у суткі. Ніводзін з маладых рабочых не наведвае школ“.

Даныя, якія маюцца ў нас, гавораць, што яшчэ горш, чым на фабрыках і заводах, справа ёсьць з працяжнасьцю рабочага часу ў рамесьніцтве. Тут наогул ніколі не дапасоўваўся ў Польшчы 8-гадзінны рабочы дзень. Але з прыходам да ўлады Пілсудзкага прышоў для гаспадароў гэтых майстэрань „Залаты“ час: ня існуе наогул ніякога абмежаваньня працяжнасьці працы вучня. У Варшаве, у цэнтральным горадзе Польшчы, працуюць у літаграфіі 13 гадзін, у пякарнях—13 і 14 гадз., на дзяржаўным заводзе „Поціск“ моладзь працуе праз цэлую ноч, а што-ж казаць пра дробныя горады, дзе няма каго баяцца?

Карэспандэнцыя, зьмешчаная яшчэ ў мінулым годзе ў аднэй камсамольскай часопісі апавядае пра тое, што у кравецкіх і шавецкіх майстэрнях рабочы дзень моладзі расьцягваецца на 18 гадзін. Чым-жа гэта не сярэднявякоуе?

І за пастаяннае парушэньне закону аб забароне карыстацца з начное працы моладзі суд наклаў на „Поціск“ штрап—10 злотых. Параўнайце гэта з прапануемым для вучняў штрапам „за непаслумянасьць“—100 зл.

Калі ў Савецкім Саюзе пераходзяць на 6-гадзінны рабочы дзень, калі забаронена праца моладзі да 14 год, моладзь 14 і 16 год працуе 4 гадзіны, ад 16 да 18 год—6 гадзін у суткі—тады ў буржуазнай Польшчы ў вытворчасьць уцягнута ня толькі моладзь, але нават і дзеці, тады у панскай Польшчы моладзь працуе у сярэднім 10-12 гадз., а ёсьць выпадкі і—16 і 18 гадзін! Гэта параўнаньне робіць ня толькі сьвядомы член Камсамолу Польшчы, яго ўсе часьцей робіць малады рабочы—і ня можа яго не рабіць. Вынікі гэтага параўнаньня ня прымусяць сябе доўга чакаць.

## Зарплата працоўнае моладзі

Велічыня зарплаты моладзі і рух яе як ня трэба лепш, ясьней і рэальней за ўсе паказваюць у якім неймаверна цяжкім эканамічным становішчы знаходзіцца працоўная моладзь у Польшчы. Пры павялічэньні вытворчае працы і росьце працяжнасьці рабочага дня моладзі фашызм адначасова праводзіць сыстэматычнае *зьніжэньне* яе зарплаты.

Гэтак званы пражытачны мінімум на адзін дзень складае ў Польшчы пад 4 злотых (1 рубель — $4^1/_2$ зл.) Параўнаем з ім зарплату моладзі ў асноўных галінах прамысловасьці (даныя з лютага 1928 году):

Варшава, мэталюргічная прамысловасьць, завод „Хэнеберг“—1,5—2 зл., зав. „Обрэмскі“—10 зл. на тыдзень (у 1927 г.).

Верхняя Сілезія, вугальная прамысловасьць „Гута Банкова“—дзеці ад 16 да 19 год— 0,9—1,6 зл., моладзь ад 19 да 21 году—1,7—2 зл.

Лодзь, тэкстыльная прамысловасьць: І катэгорыя—2,5 зл., ІІ -1,8 зл., ІІІ—1,5 зл.

Поўна выпадкаў, калі моладзь зарабляе пад 25 злотых на месяц. У шкляной прамысловасьці—ад 0,9 да 1,8 зл. на дзень.

Мы падалі некалькі характэрных даных. Трэба сказаць, што тычацца яны толькі некаторых заводаў. Маецца вялікая колькасьць заводаў, дзе на першым годзе вучобы малады рабочы наогул не аплачваецца. Гэта тычыцца і буйное (мэталюргічнае) прамысловасьці і тым

больш дробнае. Падамо для ілюстрацыі маленькую вытрымку з карэспандэнцыі: „Майстар (кравец) ня плаціць вучню наогул нічога, дае толькі кватэру і ежу, а практыкант быў прыняты 6 месяцаў таму Для таго, каб яго прынялі на практыку, практыкант унес краўцу *500 злотых*". „Мы—кажа другая карэспандэнцыя аднае практыканткі у крауца пасьля двух год вучобы атрымліваем 20 злотых на месяц".

Не ўважаючы на даражыню, якая ўзрастае (афіцыйныя даныя гавораць, што за апошні год маецца рост цэн на прамысловыя тавары на 7%, на сельска-гаспадарчыя—на 36%), капіталісты ня толькі ня хочуць павялічыць зарплаты, але усямерна імкнуцца паменшыць ці хоць-бы пакінуць на ранейшым узроўні, што на справе пры даражыні, якая ўзрастае, азначае зьмяншэньне рэальнае зарплаты моладзі.

Трэба адзначыць сьвядомую палітыку капіталістаў, што імкнуцца шляхам розных мэтадаў аплаты дарослых рабочых і моладзі, разьвіць антагонізм між імі. У тэкстыльнай прамысловасьці, напрыклад, дарослыя рабочыя працуюць на вырабатак, а моладзь—падзенна. Моладзь даводзіцца падганяць са усяе сілы, каб, як дапаможнай сіле, не застацца ззаду з выкананьнем свае работы.

У лютым 1928 году ўведзены ў Верхняй Сілезіі новыя тарыфы (т. зв. клясыфікацыя), па якіх зарплата нармуецца ў вугальнай прамысловасьці па ўзросту, а не па кваліфікацыі і якія зьніжаюць зарплату моладзі на 15—30 проц.

Для таго, каб разьвіць нацыянальны антагонізм унутры пралятарскае моладзі ўва ўладзе (у Бярэсьцейскай акрузе) на гуце капіталіст плаціць польскім маладым рабочым 1,56 зл. на дзень, беларускім-жа і яурэйскім 0,9 зл.

Для таго, каб рабочую сілу зрабіць яшчэ больш таннаю і павялічыць розьню паміж моладзьдзю і дарослымі—у 1928 г., некаторыя капіталісты (у Варшаве—Янушкевіч), прымаюць маладых рабочых на завод праз майстраў-брыгадыраў: капіталісту не даводзіцца плаціць тады ані проценту ў больнічную касу, а ні лічыцца з якімі кольвек законамі.

Ня хочучы быць безработным, малады рабочы часта прымушаны на такіх умовах прымаць работу.

## Становішча вучняў у прафэсыяльных школах і безработнае моладзі

Значная частка рабочае моладзі набывае кваліфікацыю на заводах і ў майстэрнях. Як мы ўжо паказвалі, час іхнае практыкі ўсе павялічваецца. Застаецца ўсё-ж вялікая колькасьць моладзі, якая вучыцца у прафэсыянальных школах і моладзь безработнае, эканамічнага становішча якіх мы вышэй не чапалі.

Паглядзім бегла на яго становішча.

Школ прафэсыяльных у Польшчы маецца мала, як у гэтым сазнаецца і буржуазія. Моладзь у іх ня толькі ніякага заработку ня мае, а павінна плаціць за сваю вучобу. Пераважна пралятарскі склад гэтых школ, усё больш жорсткія мэтады, якія ўжываюцца ў гэтых школах (за ня ўдзел на вуроку 2 зл. штрапу) у адносіне да вучняў, робіць з гэтае моладзі элемэнт рэвалюцыйны (у Варшаве ў аднэй школе была забастоўка).

Безработная моладзь налічвае некалькі дзесяткаў тысяч. Як мы ўжо паказвалі, моладзь да 18 год не атрымлівае ніякага падсобку, звыш 18 год -атрымлівае толькі на некалькі тыдняў. Настрой яе вельмі рэвалюцыйны.

### Рост рэвалюцыйных настрояў рабочае моладзі

З усяго пададзенага матар'ялу відаць які нячувана цяжкім зьяўляецца эканамічнае становішча рабочае моладзі ў Польшчы. Мы бачылі, да якое паупэрызацыі гэтую моладзь давёў крывавы фашысцкі рэжым у Польшчы. Паказьнікам гэтага, як адбіваюцца цяперашнія варункі працы і жыцьця рабочае моладзі на апошняй, могуць служыць даныя аб няшчасных выпадках. Падамо толькі некаторыя. У Лодзі што дзень абамлевае блізка пад 120 жанчын і дзяўчат. У Верхняй Сілезіі мелася: у 1913 г.—49 няшчасных выпадкаў і 3.160 параненых, а 1927 г. 149 выпадкаў з 12.400 параненымі.

Абамлеваюць сыстэматычна ад стомленасьці і зморы маладыя шахцеры як аб гэтым гавораць карэспандэнты з Верхняй Сілезіі і Дамброўскага басэйну.

Вынікам гэтага росту сьмярцей, параненьняў, абамленьняў і хвароб (кожны семы малады рабочы ў Польшчы хварэе на сухоты), вынікам гэтае „рацыяналізацыі“ прадукцыі на плячах рабочых і ў прыватнасьці маладых рабочых зьяўляецца вялізарны рост нездаваленьня паляваньня рабочых мас і працоўнае моладзі. За апошні год, калі фашысцкі рэжым усё відней паказвае свой анты-пралетарскі твар, гэтае палявеньне набыло самыя шырокія памеры. Рост актыўнасьці выказваецца і ў росьце забастовак, ва удзеле моладзі ў палітычных кампаніях і ва ўсей барацьбе, што рабочыя масы моладзі, якія растуць, вядуць пад кіраўніцтвам камсамолу.

Усе гэтыя факты азначаюць сабою *поваратку* ў настроі працоўнае моладзі, поваратку, якая мае вялікае значэньне для разьвіцьця эканамічнае барацьбы польскага пралетарыяту.

### Камсамол Польшчы вядзе барацьбу ў абарону працоўнае моладзі.

Арганізатарам контр-атакі пралетарскае моладзі супроць наступу буржуазіі, які бязупынна ўзмацняецца, зьяўляецца Польскі Камсамол. Толькі Камсамол Польшчы, пад кіраўніцтвам Кампартыі Польшчы, арганізуе рабочую моладзь на эканамічную барацьбу і ў паўсядзённых схватках і забастоуках супроць капіталу, падрыхтоўвае яе да канчатковае перамогі. Для выкананьня гэтае задачы, Камсамол Польшчы прарабіу раней за усе вялізную работу па падрыхтоўцы свае арганізацыі для гэтае барацьбы. Польская сэкцыя КІМ'а мае параўнаўча вялікі вопыт у эканамічнай барацьбе, аднак шмат якія фабрычныя ячэйкі Польскага Камсамолу ня умелі досыць цесна зьвязацца з масаю пралетарскае моладзі на заводах, ня ўмелі досыць чула прыслухацца да запатрабаваньняу гэтае моладзі. Таксама сярод польскіх камсамольцаў ня было досыць зразуменьня ўсяе важнасьці работы ў прафсаюзах: прафсаюзы, якія трымаюцца пераважна ў руках згоднікаў, адпіхалі ад сябе рэвалюцыйную моладзь. Польскаму Камсамолу давялося прарабіць грунтоўную работу ў сваіх шэрагах, каб пераканаць польскіх камсамольцаў у канечнай патрэбнасьці работы ў прафсаюзах. У выніку вялізная большасьць рабочых камсамольцаў зноў зьвернулася ў прафсаюзы і ўзяліся за работу ў сэкцыях моладзі. Таксама вялізны крок наперад зрабіў Камсамол Польшчы ў уменьні прыслухоўвацца да голасу масы моладзі на заводах, уменьне зьвязацца з ёю і кіраваць яе барацьбою. Паказьнікам таго могуць быць хоць-бы фабрычныя газэткі польскага камсамолу, якія выдаюцца шмат якімі ячэйкамі ўва ўсіх буйных (а таксама і ў больш дробных) рабочых асяродках. Гэтыя падпольныя фабрычныя газэткі, што друкуюцца на гэктографе ў ліку 200—300 экзэмпляраў нават у некаторых выпадках, газэткі, у якіх поўна

карэспандэнцый, поўна апавяданьняў з жыцьця фабрыкі, поўна запатрабаваньняў чыста фабрычнага маштабу, праробваюць вылатную агітацыйную работу сярод моладзі, мабілізуючы яе навакол Камсамолу.

Эканамічныя патрабаваньні польскага камсамолу наступныя: 6-гадзінны рабочы дзень для моладзі ад 16 да 18 год і 4-гадзінны з 14 да 16 год, павялічэньне зарплаты ўсёй рабочай моладзі на 35%, супроць фашысцкае зьмены тарыфаў для моладзі, месячны водпуск для моладзі, забарона дзіцячае працы, двохгадовая вучэбная практыка і г. д. Не ўважаючы на тое, што прыняты буржуазным польскім парлямэнтам і ня ўведзены дасюль закон аб працы моладзі шмат у чым не адказвае інтарэсам моладзі, польскі Камсамол патрабуе увядзеньня яго у жыцьцё, паказваючы такім чынам моладзі, што буржуазія нават свайго закону ня думае выканаць. Акром таго, польскі Камсамол патрабуе павялічэньня колькасьці прафэсіянальных школ і прыему у гэтыя школы безработнае моладзі. Асноўным патрабаваньнем у адносіне да гэтае апошняе зьяўляецца выдача падсобку па безрабтнасьці моладзі да 18 г., чаго не прадбачваюць фашысцкія законы.

Зусім ясна, што польскія камсамольцы змагаюцца пад кіраўніцтвам Кампартыі Польшчы таксама за агульныя патрабаваньні пралетарыяту ў кожнай забастоўцы і г. д., імкнучыся ўсямерна дапамагчы ў выкананьні яе задач.

## Барацьба супроць цэхавага закону

У апошні час на чале эканамічнае барацьбы польскага Камсамолу было пастаўлена пытаньне барацьбы з цэхавым законам, пра які мы казалі вышэй. Кампанія разгарнулася ў пачатку гэтага году і была зьвязана з выбарчаю кампаніяю Кампартыі. Вялікае значэньне мае той факт, што ў выбарчай праграме Кампартыі былі высунуты патрабаваньні, якія датычаць моладзі і ў прыватнасьці аб цэхавым законе. Выкананьне кампаніі дало найлепшыя вынікі. Напрыклад, у Варшаве было арганізавана некалькі дзесяткаў сходаў, на якіх прысутнічала пад пяць тысяч моладзі. Перад заводамі былі наладжаны сходы, пасьля якіх адбыліся невялічкія дэманстрацыі з пяяньнем. Паўсюды кампанія была увязана з канкрэтнымі варункамі жыцьця моладзі на даным заводзе, паўсюды кампанія супроць гэтага закону станавілася часткаю агульнае барацьбы супроць фашысцкага ураду. У часе гэтае кампаніі Камсамол сумеў разьвіць таксама у яшчэ больш шырокім памеры сваю чыннасьць у прафсаюзах, у сэкцыях моладзі. Сэкцыі моладзі значна вырасьлі, не ўважаючы на тэрор з боку сацыял-фашысцкіх правадыроў, лік іх павялічыўся. Яны адыгралі значную ролю ва ўсёй кампаніі, паказаўшы сваю жыцьцяздольнасьць і актыўнасьць. Яны дапамаглі таксама ў значнай меры выкрываць і агаляць прафсаюзных правадыроў адкрытымі лістамі, патрабуючы клясавае барацьбы. Вельмі важна адзначыць удзел сэкцыі моладзі у рэалізацыі канфэрэнцыі беспартыйнае моладзі, гэтае зусім новае, якая выявілася толькі у часе гэтае кампаніі, формы эканамічнае барацьбы пралетарскае моладзі.

## Кампанія за канфэрэнцыю рабочае моладзі

Лёзунг скліканьня канфэрэнцыі рабочае моладзі быў высунуты польскім Камсамолам параўнальна даўно, але толькі ў 1928 годзе Камсамолу ўдалося часткова пакуль ажыцьцёвіць гэты лёзунг. Скліканьне канфэрэнцыі рабочае моладзі ў Варшаве, у Верхняй Сілезіі, у Дамброўскім басэйне і Кракаве, шырокая падрыхтоўка па скліканьню іх у іншых рабочых асяродках зьяўляецца паказьнікам таго, які жывы

водгук знашлі лёзунгі польскага Камсамолу сярод беспартыйнае моладзі. Варшауская канфэрэнцыя, на якой прысутнічалі прадстаўнікі самых буйных заводаў у Варшаве (разам было 36 дэлегатау), выканала сваю вялікую задачу мабілізацыі моладзі супроць фашысцкага закону, не уважаючы на тое, што канфэрэнцыю гэтую паліцыя арыштавала. Пасьля шырокае кампаніі пад лёзунгам вызваленьня „36", паліцыя вымушана была вызваліць іх, што зьяўляецца доказам вялікага ўплыву гэтае кампаніі сярод мае моладзі. Ня менш добра прайшла і Верхня-Сілеская канфэрэнцыя, якая таксама адзінагалосна выклікала моладзь на барацьбу супроць фашысцкага закону і выбрала знарок камітэт для кіраўніцтва гэтаю барацьбою і па скліканьню агульнае канфэрэнцыі. Трохі пазьней, 25 сакавіка, адбылася канфэрэнцыя рабочае моладзі Дамброўскага басэйну. У канфэрэнцыі узяло удзел 17 дэлегатоў, хоць усяго выбраных было 25 чалавек (частка па тэхнічных прычынах на канфэрэнцыю не папала). У кампаніі для выбарау дэлегатаў удзельнічала звыш 3.000 рабочае моладзі. Канфэрэнцыя акром рэзалюцыі па эканамічных пытаньнях (паперад галасавалі супроць прамысловага дэкрэту) прыняла таксама і палітычныя рэзалюцыі, якія заклікаюць да барацьбы супроць фашысцкага ўраду.

Паказьнікам таго, як разьвіваецца кампанія польскага Камсамолу, зьяўляецца таксама канфэрэнцыя ў Кракаве (19 красавіка гэтага году). На канфэрэнцыі прысутнічала больш за 100 маладых рабочых і работніц. Канфэрэнцыя ухваліла аналегічныя рэзалюцыі і выбрала Камітэт. Як мы ужо паказвалі, у іншых асяродках таксама ідзе падрыхтоўка да скліканьня канфэрэнцыі (праведзены ўжо некаторыя нарады, на некалькіх заводах выбраны дэлегаты). Трэба меркаваць, што вядучы у далейшым таксама энэргічна кампанію за усеагульную канфэрэнцыю, камсамол не уважаючы на свае падпольнае становішча—здолее выканаць пастауленую перад сабою задачу скліканьня гэтага зьезду.

### Трэба яшчэ больш разгарнуць эканамічную барацьбу

Мы паказалі шмат якімі прыкладамі, як на фоне пагоршаньня эканамічнага становішча працоунае моладзі наступае рост актыўнасьці гэтае моладзі, як яна больш рашуча выступае супроць сваіх клясавых ворагау. Тут мы павінны яшчэ адзначыць меушыя за апошні час забастоўкі моладзі. Усе яны бязумоўна кіруюцца камсамолам. У Бярэсьці была праведзена забастоука маладых плотнікаў, якая дала павялічэньне зарплаты на 20—30 проц. У Горадні была праведзена забастоука тандэтнікаў, якая цягнася тры тыдні і была выйграна моладзьдзю. Асабліва важнае значэньне некалькіх забастовак, у якіх вельмі энэргічна выступала моладзь з спэцыяльнымі патрабаваньнямі разам з дарослымі рабочымі. Гэтыя каардынiраваныя выступленьні адзіным фронтам дарослых і маладых рабочых немаль усюды прыводзілі да перамогі. Напрыклад: ва Ўлацлауску забастоўка краўцоў дала павялічэньне зарплаты дарослым рабочым на 15—25 проц., а моладзі нават на 40 проц. Гэтак сама апошнія забастоўкі ў Варшаве: на шакаляднай фабрыцы Фукса, у краўцоў і г. д. далі добрыя вынікі, і павялічылі сэкцыі моладзі.

У некаторых галінах прамысловасьці ў Вільні праз рэвалюцыйныя сэкцыі пры дапамозе прафсаюзау праводзілася рэгуляваньне зарплаты моладзі.

Адначасова з ростам барацьбы супроць буржуазіі заўважваецца таксам адыход моладзі ад сацыял-згоднікаў. Здрадніцкая роля іх становіцца ўсе больш яснаю. Арганізацыя польскае сацыялістычнае моладзі

Тур нават не палічыла за патрэбнае прыняць удзел у кампаніі супроць фашысцкага закону; выбраная сэкцыямі моладзі дэлегацыя на канфэрэнцыю прафсаюзаў ня была прынята сацыял-фашысцкімі правадырамі. Ня менш здрадніцкую ролю адыгралі маладыя яўрэйскія згоднікі. Манэўруючы, яны згодзіліся узяць удзел у канфэрэнцыі, але будучы на ёй, яны ня згодзіліся дапусьціць да ўдзелу прадстаўнікоў польскіх сэкцый моладзі, а таксама запярэчылі супроць прыняцьця якое-кольвек рэзалюцыі. Гэтым самым яны паказалі свой твар здраднікаў, якія зрываюць усякую барацьбу з капіталам і фашысцкім урадам.

Эканамічная барацьба, якую вядзе рабочая моладзь пад кіраўніцтвам камсамолу, дала значныя вынікі. Трэба, аднак, сказаць, што праробленая вялікая работа зьяуляецца яшчэ далека ня поўнаю супроць тых вялікіх эканамічных задач, якія стаяць перад польскім Камсамолам.

У гэтай рабоце стаіць перад Камсамолам адхіліць шмат недахопаў. Пакажам хоць-бы на адзін з самых вялікіх недахопаў - прафсаюзную работу. Дасюль большасьць рабочае моладзі ня лічыцца ў прафсаюзах. Успамянутая Крахельская лічыць, што ў мэталюргічнай, дрэваапрацоўчай і інш. галінах прамысловасьці арганізавана толькі [1] з моладзі, якая працуе. У прафсаюзе краўцоў арганізавана 14 проц. моладзі, тады калі ў адпаведнай галіне прамысловасьці працуе 34 проц. моладзі. У сэкцыях моладзі ў Заходняй Беларусі арганізавана усяго толькі пад 1.600 маладых рабочых. Трэба таксама адзначыць, што знарок важна, гэта што у буйной прамысловасьці % арганізаванае моладзі куды меншы, чымсь у дробнай. Камсамолу патрэбна ў далейшым выканаць вялікую задачу арганізацыі моладзі ў прафсаюзы, але для гэтага трэба яму зараней больш увагі аддаць самой рабоце у сэкцыях моладзі, якія далекаў недастатковай ступені сталі арганізацыямі эканамічнае барацьбы моладзі.

Яшчэ адным буйным ворагам працоўнае моладзі, з якім прадстаіць вялікая барацьба, зьяуляюцца арганізацыі моладзі фашысцкага характару, здолеушыя пацягнуць за сабою некаторую, хоць і нязначную, частку працоўнае моладзі.

КСМП сумеў заваяваць сымпатыі актыўнае часткі рабочае моладзі, сумеў паказаць, што ён зьяуляецца адзіным абаронцам эканамічных інтарэсаў усяе працоўнае моладзі. Атака фашызму, якая расьце, самавыкрываньне згоднікаў, як падможнікаў капіталу, пры ўмельнай тактыцы КСМ, пры ўмельстве зьвязваць эканамічную барацьбу з палітычнаю, прывядуць к таму, што камсамол здолее заваяваць таксама і менш актыўныя часткі рабочае моладзі, здолее стаць правадыром пралетарскае моладзі.

Ю. Браткоўскі

# Шляхамі нацыяналізму, апартанізму і здрады*)

*(Разлом у КПЗУ)*

## Справа Сельробу

У адносінах да масавых рабоча-сялянскіх арганізацый заданьне партыі у тым, што яна бярэ на сябе ролю гегэмона, вызначае ім шляхі барацьбы, вядзе іх за сабою. Адсюль, зразумела, неабходнасьць рашучай крытыкі усялякіх нацыяналістычных і апартуністычных памылак, зробленых правадырамі гэтых арганізацый. Толькі гэткім спосабам можна выраўноўваць лінію гэтых арганізацый, правадыры якіх вышлі з дробна-мяшчанскага асяродзьдзя і па ідэалегічных поглядах у значнай ступені яшчэ не адрозьніваюцца ад яго. Гэта таксама адзіны шлях да праўдзівае кансалідацыі антыфашысцкага лягеру, да аб'яднаньня ўсіх рэвалюцыйных сіл для барацьбы з фашысцкай дыктатурай, за рабоча-сялянскі урад, за зямлю бяз выкупу, за самавызначэньне аж да аддзяленьня. Нарэшце, толькі шляхам крытыкаваньня ўсялякіх дробнамяшчанскіх памылак і хістаньняў можна ствараць такія новыя кіраўніцкія кадры, якія самі выраслі з працоўных мас і арганічна з імі зьвязаны.

Ужываць зброю бальшавіцкае крытыкі супроць памылак, зробленых кіраўнікамі Сельробу, гэта асабліва неабходная справа, калі зьвярнуць увагу на пахаджэньне гэтае арганізацыі. Абедзьве групы, у выніку злучэньня якіх зьявіўся Сельроб—Сялянскі Саюз і Народная Воля не зьяўляліся масавымі арганізацыямі, у поўным разуменьні гэтага слова. Аснову Сельсаюзу стварыў дэпутацкі выбарчы апарат, а партыя Народнай Волі ў першую чаргу абапіралася на чытачоў „Волі Народу". Вось-жа, гэта былі перш за усе *арганізацыі вярхоў*, а гэта яшчэ больш *узмацняла* ўплыў дробнамяшчанскага асяродзьдзя на правадыроў абедзьвюх груп. Калі казаць аб мінулым, дык правадыры Сельсаюзу вышлі з лягеру украінскага нацыяналізму пятлюраўскага тыпу, а ранейшыя волянародаўцы яшчэ некалькі год таму ўяўлялі сабою складаную частку усходнягаліцкага масквафільства. Тыя і другія прынесьлі з сабою у Сельроб скуткі свайго мінулага.

Калі казаць пра правадыроў ранейшага Сельсаюзу, дык іхны нацыяналізм і апартунізм выяўляўся аднолькава і ў ідэалёгічным кіраўніцтве тых органаў прэсы, якія былі ў іхных руках, і ў доўгім шэрагу паасобных выступленьняў.

Ідэалёгію ранейшых сельсаюзаўскіх правадыроў надзвычайна яскрава характарызуе тое, што пісала ў перадавым артыкуле 26 чэрвеня 1927 г. Холмскае „Наше Життя", рэдагаванае ранейшым дэпутатам сойму Макаўкаю:

*) Гл. „Бальшавік Беларусі" № 9 і 10

„Мы прызнаем нацыянальную еднасьць і накіроўваемся да яе. Але для нас разуменьне народу павінна пакрывацца разуменьнем рабоча-сялянскае клясы і кіраўнічую ролю павінны адыгрываць прадстаўнікі сялян і рабочых. А украінскія панкі, гэта кропля вады ў сялянска-рабочым моры, павінны адыйсьці на задні плян“. Ці-ж гэта не нагадвае нам разуменьне пэпэсаўцаў, якія бароняць фашысцкую „дэмакратыю“, бо не жадаюць адбіраць палітычныя правы „ўсялякіх панкоў“. „Наше Життя“ ня хоча зьнішчаць буржуазію, а толькі вызначыць ёй у агульным нацыянальным фронце далейшае месца. Гэткае тыповае сацыял-патрыётычнае разуменьне справы клясавае барацьбы знаходзім і ў шмат якіх іншых выступленьнях „Нашого Життя“, і яго на падгалоска, львоўскага „Нашого Слова“.

„Наше Життя“ ня раз піша пра „праўдзівы і фальчывы патрыётызм“, закідваючы ундоўцам і радыкалам, што гэтыя палітычныя шахраі толькі запінаюцца украінскім нацыяналізмам і патрыётызмам (24 ліпеня 1927 г.). Правадыры ранейшых сельсаюзаўцаў маюць прэтэнзію частаваць „праўдзівым“ нацыяналізмам і патрыётызмам.

Адыходны пункт у ідэалёгіі ранейшых сельсаюзаўскіх правадыроў, гэта тэза, што нацыянальную праблему трэба ставіць, як *роўнарадную* з сацыяльнай праблемай. Атакуючы ранейшых волнародаўцаў за раскол, „Наше Життя“, адным з галоўных закідаў па іхнаму адрасу, прыводзіць тое, што яны нацыянальную справу падначальваюць клясавай барацьбе пралетарыяту. І тут пазыцыя „Нашаго Життя“ супадае з пазыцыяй ППС, якая вызнае эвангельлем „польскага сацыялізму“ *роўнараднасьць* лёзунгаў „сацыялізм і незалежнасьць“. Ясна, што гэтая нібыта роўнараднасьць на практыцы зводзіцца да поўнага падпарадкаваньня клясавых інтарэсаў пралетарыяту, так званым агульна-нацыянальным інтарэсам, якія мецьмуць, уласна, толькі прыкрываць барацьбу капіталістаў і памешчыкаў супроць рабоча-сялянскіх мас.

З гэтай прынцыповай пазыцыі правадыроў ранейшага Сельсаюзу выходзіла *знаходжаньне з ундоўцамі ў адным Украінскім Клюбе* нежаданьне парываць з гэтым Клюбам, адсутнасьць свайго ўласнага палітычнага і арганізацыйнага твару ў сойме. Калі, пад націскам зьнізу, сельробаўскія дэпутаты пачалі пэўнае наступленьне ў супольным Клюбе, дык галоўным іхным закідам было тое, што „Украінскі Клюб страціў нацыянальны украінскі твар“ („Наше Життя“, 28 жніўня 1927 г.).

Нацыяналізм ранейшых сельсаюзаўскіх правадыроў знайшоў сабе выяўленьне ў цэлым шэрагу паасобных палітычных выступленьняў. Адным з гэтых выступленьняў быў *удзел у сацыял-згодніцкіх канфэрэнцыі нацыянальных меншасьцяў.* З красавіка 1927 г., па ініцыятыве бундаўцаў, у Варшаве адбылася канфэрэнцыя сацыялістаў нацыянальных меншасьцяў, дзе прынялі ўдзел: Бунд, ПЦ абодвых напрамкаў, Нямецкая Сацыялістычная Партыя Працы, украінскія сацыялісты-радыкалы. У гэтай канфэрэнцыі ад імя сельробаўскіх дэпутатаў прымаў удзел Макаўка—гэта была спроба даць *„сацыялістычнае“ выданьне блёку нацыянальных меншасьцяў.* Гэтая яскрава апартуністычная і нацыяналістычная камбінацыя, разьлічаная на палову мандатаў у сойм, знашла сабе надзвычайнае, мілагучнае прывітаньне на старонках „Нашого Життя“.

„Украінскія рабочыя і сяляне з радасьцю вітаюць гэта выяўленьне паразуменьня і імкненьняў да супрацоўніцтва паміж угрупаваньнямі Лявіцы няпольскіх нацыянальнасьцяў Польшчы і лічаць яго неабходную справу, як процівагу гэткаму-ж аб'яднаньню буржуазіі“. („Наше Життя“, 17 красавіка 1927 г.).

Удзел ранейшых сельсаюзаўскіх правадыроў у нацыяналістычна-„сацыялістычным" зборышчы „Світло" некалькі разоў спрабавала растлумачыць, як даўно ужо выпраўлены ляпсус дэпутата Макаўкі. Але мы дазваляем сабе сумнявацца. Бо чым-жа, як не далейшым росквітам гае самае нацыянал сацыялістычнае лініі ёсьць блёк, які ў часе выбараў у Сойм створаны быў правадырамі Сельробу Правіцы з яўрэйскімі нацыяналістымі з Поалей-Цыёну.

Яшчэ больш яскравае выяўленьне украінскага нацыяналізму далі адносіны правадыроў ранейшага Сельсаюзу да *украінскага царкоўнага зьезду.* Група ранейшых народавольцаў адразу стала на варожую пазыцыю да гэтага зьезду, які адбыўся ў Луцку 5-га чэрвеня 1927 г. выкрываючы яго ундоуска-пятлюраўскі характар („Воля Народу", 12 га чэрвеня 1927 г.). Затое ранейшыя сельсаюзаўцы альбо сталі супроць гэтага зьезду ў няпэўнае становішча, альбо выразна яго падтрымоўвалі. У самым зьезьдзе прымалі ўдзел дэпутат Казіцкі і сэнатар Пастэрнак, абодвы з групы ранейшых селсаюзаўцаў. Сельробаўскія дэпутаты прымалі удзел і ў кампаніі падрыхтоукі царкоўнага зьезду, якая працягвалася некалькі месяцаў.

Ужо 28 студзеня 1927 г., пры абгаварэньні бюджэту міністэрства веравызнаньняў і народнае асьветы, пасол Казіцкі зрабіў наступную заяву: „Украінскі праваслаўны народ вымагае сабору, каб усё гэта вычысьціць" (гутарка ішла пра царкоўную палітыку мітрапаліта Дыонісія).

На працягу шэрагу нумароў „Нашого Життя" друкавалася паведамленьне арганізацыйнага камітэту, якім склікаўся украінскі праваслаўна-царкоўны зьезд

У газ. „Наше Життя" ад 3 красавіка 1927 г. зьявіўся вялікі артыкул пад назвай „Аўтакефальны сынод і украінцы", прысьвечаны палітыцы мітрапаліта Дыонісія, ворага украінізацыі праваслаўнае царквы; гэты артыкул імкнецца абгрунтаваць патрэбу царкоўнага зьезду. Каб надаць больш моцы сваей аргумэнтацыі, аўтар спасылаецца на каноны праваслаўнае царквы.

У нумары „Нашого Життя" ад 15 мая 1927 г. зьмешчаны артыкул пад назваю „Царкоўная справа": ён заканчваецца вывадам, што працоўныя масы павінны прыняць удзел у царкоўным зьезьдзе, выкарыстоўваючы яго дзеля таго, каб „царква сталася сапраўды і выключна рэлігійнай арганізацыяй".

Як бачым, правадыры групы ранейшых сельсаюзаўцаў праводзілі у адносінах царкоўнага зьезду цалкам *пэўную лінію*, і гэтая лінія была ў поўнай згодзе з цэлым укладам іхнае сацыял-нацыянальнае, сацыял-згодніцкае ідэалёгіі.

Толькі ў палове жніўня 1927 г. ранейшыя сельсаюзаўскія правадыры прызналі за патрэбнасьць часткова адступіць ад царкоўна-зьездаўскае авантуры. Менавіта, у газ. „Наше Життя" ад 14 жніўня 1927 г. зьявіўся гэткі допіс:

„У свой час прэса паведамляла, што ў царкоўным зьезьдзе ў Луцку прымалі удзел некаторыя сельробаўцы. Як выявілася, сапраўды, некаторыя з сельробаўцаў па ўласнаму жаданьню прымалі ўдзел у тым зьезьдзе, гледзячы на яго, як на да пэўнай ступені — рэвалюцыйны чыньнік і маючы замер праводзіць на зьезьдзе сваю палітычную лінію у адносінах да царквы. Гэта была наіўнасьць, якую прызналі з працягам часу тыя, хто прымаў удзел у зьезьдзе, бо зьезд той меў характар ундоўска-пятлюраўскае палітычнае акцыі, а рысаў рэвалюцыйнага чынніка абсалютна ня меў, нават у царкоўным разуменьні. Тыя сельробаўцы, якія прымалі ўдзел у царкоўным зьезьдзе ў Луцку, самі засу-

дзілі сваю памылку, як засудзіў яе таксама ЦК Сельробу; ён нікому не даваў свае згоды на ўдзел у гэтым зьезьдзе і стаяў у адносінах да яго на крайняй—нэгатыўнай пазыцыі".

Мы прывялі гэты допіс цалкам, бо гэта ня толькі клясычная ілюстрацыя апартунізму сельсаюзаускіх правадыроў і кідае яскравы прамень на сьцьвярджэньне „Світла", што нібы Казіцкія цалькам выправілі свае нацыянал-апартуністычныя памылкі. Трэба тут адзначыць, што толькі ў верасьні—інакш кажучы, пасьля трох месяцаў на зьезьдзе і пад пагрозаю расколу ЦК сельробу прызнаў за неабходнае і то у занадта ляканічным паведамленьні, асудзіць удзел „пэўных членаў Сельробу" у царкоўным зьезьдзе („Наше Слова", 25 верасьня 1927 г.). Яскравым выяўленьнем украінскага нацыяналізму было выступленьне Казіцкага на ЦК Сельробу супроць нацыянальнае палітыкі УССР, КП(б) У і ЎсеКП. Бяручы сваім адыходным пунктам высылку Шумскага па-замежы Савецкай Украіны, Казіцкі падау рэзалюцыю, дзе па прыкладу ундоўцаў атакуе нацыянальную палітыку УССР, якая быццам зьяўляецца толькі зброяю ў руках Масквы.

Характэрна, што выступленьне Казіцкага супала ў часе з падтрыманьнем на красавіковым пленуме ЦК КП(б)У нацыяналістычнага ўхілу ў шэрагах КП(б)У.

Выканаўчы Камітэт Камуністычнага Інтэрнацыяналу ў сваёй адозьве сьцьвердзіў, што „Нацыяналістычная крытыка палітыкі КПЗУ, якая ужывалася да гэтых часоў прадстаўнікамі ундоўскага лягеру, зьяуляючыся ў сваей існасьці спосабам *палітычнае падрыхтоўкі наступленьня польскага фашызму на Савецкую Украіну*, пачала знаходзіць сабе падтрыманьне у ранейшай кіраўнічай групе ЦК КП(б)У, якая інсцэніравала выступленьне дэпутата Казіцкага ў ЦК Сельробу з пастановай, накіраванай супроць нацыянальнай палітыкі КП(б)У і на падтрыманьне ўхілу Шумскага".

Пятлюраускае выступленьне Казіцкага было першым сыгналам перасьцярогі; яно паказвала, што польскі фашызм пачынае здабываць сабе палітычных прыхільнікаў паміж паасобнымі нацыяналістычнымі правадырамі Сельробу.

Адсутнасьць месца не дазваляе нам тут спыняцца на іншых праявах нацыяналізму і апартунізму ранейшых сельсаюзаўскіх правадыроу, як скажам, тое, што сельробаускія дэпутаты падтрымоувалі Васільчука, нават пасьля яго пятлюраўскага выступленьня ў сойме, тое, што яны разам з пэпээсаўцамі падпісалі заяву ў справе дэкрэту пра друк, тое, што яны ня імкнуліся заняць якую-небудзь выразную пазыцыю пры нападзе фашысцкага ураду на правадыра НПХ, ранейшага дэпутата Ваяводзкага і г. д.

Тое, аб чым казалі мы тут, здаецца нам, мае даволі моцы каб сьцьвердзіць, што абавязкам камуністычнае партыі была сыстэматычная і нясупынная крытыка украінскага нацыяналізму—а ён-жа так глыбака прасякнуу ідэалегію ранейшых сельсаюзаускіх правадыроў. Нельга было забываць, што у сучаснай палітычнай сітуацыі *украінскі нацыяналізм* зьяуляецца ў Заходняй Украіне сябрам *польскага фашызму і імпэрыялізму* і ўяўляе з сябе найбольшую небясьпеку для вызваленчага рабоча-сялянскага руху.

Гэта звычайна не азначае, каб мы мелі выяўляць, хаця-б найменшую цярплівасьць да тых памылак і скуткаў, якія прынесьлі з сабою ранейшыя вольнанародаўцы.

Яны не адкінулі да канца свае даўнейшыя хібныя станаўленьні у нацыянальным пытаньні; гэта знайшло сваё выяўленьне у неразуменьні усяе вагі нацыянальнае справы і рэвалюцыйнае значнасьці вызвален-

чае барацьбы прыгнечаных польскаю буржуазіяю нацыянальнасьцяў. Таму якраз у цэлым шэрагу артыкулаў і выступленьняў яны ўспамінаюць, напрыклад, лёзунг самавызначэньня (між іншым у раскольніцкай „Заяве“, на жніве́ньскай канфэрэнцыі Сельробу Лявіцы).

Мала ўвагі аддавалі ранейшыя вольнанародаўцы на тое, каб мабілізаваць працоўныя масы Заходняе Украіны дзеля барацьбы за частковыя нацыянальныя правы, напрыклад, у галіне асьветы, культуры і інш. Выяўленьнем неператожанага да канца хібнага становішча ў нацыянальным пытаньні была абарона вольнанародаўцамі свайго перадваеннага „сацыялізму“ і спроба ратаваць свае памылкі спасылкамі на тое, што „нацыянальнае пытаньне“ (такое ці іншае яго разуменьне), гэта не зьяўляецца галінай „асноўных ісьцін сацыялізму“, разам з сьцьвярджэньнямі, што „нацыянальнае пытаньне,—гэта наогул вельмі складанае пытаньне“ і г. д. („Сельроб“, № 8, 6 лістапада 1927 г.).

Гэтая памылка здабывала асаблівую значнасьць дзякуючы таму, што „Сельроб“ у лістападзе 1927 г. паўтарыў тое самае, што паўтара гады таму пісала „Воля Народу“. А менавіта, у артыкуле пад назвай „У нацыянальнай справе“, зьмешчаным у „Волі Народу“ 16 мая 1926 г., чытаем наступнае:

„Нацыянальная праблема, гэта, бяручы наогул, адна з найцяжкіх, найскладаных праблем. У сацыялістычнай літаратуры яна займае вельмі паважнае месца. Нават выдатныя тэарэтыкі сацыялізму дапушчалі памылкі ў гэтай наскрозь практычнай і жыцьцёвай справе і зьмянялі, альбо характарызавалі свае погляды. Вось-жа, няма нічога дзіўнага, ці няпрыроднага, што у гэтай надзвычай *спэцыяльнай* (падкрэсьлена „Воляй Народу“) справе нам давялося таксама зьмяніць і пераацаніць сваю пазыцыю“

Бязумоўна, у тым, што ранейшыя вольнанародаўцы зьмянілі сваю даўнейшую хібную пазыцыю у нацыянальнай справе, няма нічога дзіўнага ці няпрыроднага. Наадварот, гэта было цалкам здаровае зьявішча і сьведчыла яно аб тым, што вольнанародаўцы сапраўды парываюць з лягерам рэакцыйнага галічанскага масквафільства і пераходзяць у шэрагі рабоча-сялянскае арміі. Але якраз дзякуючы гэтаму і была надта шкадлівая недаконачанасьць у гэтай справе, недаацэньваньне вялічэзнае значнасьці украінскага пытаньня, якое ішло шляхам зьвядзеньня нацыянальнае праблемы да шэрагу „практычных“ і „спэцыяльных“ спраў

Гэтым спосабам ранейшыя вольнанародаўцы імкнуліся сьцерці давядзеныя памылкі, і адначасова пашыралі фальчывы погляд, што згодна яму, нацыянальнае пытаньне, гэта нейкая другарадная, альбо трэцярадная справа на яе, нібы, у рабоча-сялянскім лягеры могуць быць розныя погляды. На справе-ж праўдзівая пазыцыя ў нацыянальным пытаньні, яднаньне мас да змаганьня супроць прыгнечаньня, да змаганьня за самавызначэньне, аж да адлучэньня, гэта асноўны лезунг пралетарыяту. Побач з барацьбою за рабоча-сялянскі урад і за зямлю бяз выкупу, яно выяўляе сабою найнатужны рухавік гістарычнае барацьбы працоўных мас супроць сваіх адвечных прыгнетацеляў. Вось-жа, той, хто сее ў масах дэзорыентацыю ў адносінах да гэтага лёзунгу, аб'ектыўна абясьсільвае лягер рэвалюцыі.

Трэба адзначыць, што ЦК Сельробу Лявіцы у лісьце да Сельробу (Правіцы) 2 студзеня 1928 г. прызнаў свае памылкі. А ў гэтым, якраз т'кі ў гэтай галіне правадырам Сельробу Лявіцы пагражае найбольшая небясьпека памылак і ухілаў, і заданьне ўсяго рабоча-сялянскага лягеру выпраўляць гэтыя памылкі братняю крытыкаю. Вялікаю шкодаю для рэвалюцыйнага руху быў раскол у Сельробе ў верасьні 1927 г.

Ён зьнядужыў рабоча-сялянскі лягер, аб'ектыўна пайшоў на карысьць буржуазіі, фашызму і ўсім яўным і замаскаваным яго агентам (аж да нацыянальных раскольнікаў з КПЗУ, якія імкнуліся як мага справакаваць ранейшых воля народаўцаў на гэты раскол).

У гэткіх умовах заданьнем камуністычнае партыі павінна была быць рашучая крытыка памылак і ўхілаў абедзьвюх груп, накіраваньне да таго, каб найхутчэй зьліквідаваць раскол і адбудаваць еднасьць на грунце вырззнае, без кампрамісаў палітычнае лініі. Зусім па іначкшаму разумелі сваё заданьне шумскісты. Яны цалкам падтрымоўвалі адну групу Сельробу—ранейшых сельсаюзаўцаў, імкнучыся канчаткова палітычна і арганізацыйна ануляваць ранейшых волянародаўцаў. Гэтым якраз яны цярпліва прымалі і захоўвалі нацыяналістычныя памылкі ранейшых сельсаюзаўскіх правадыроў, нават і самі ўздымалі ўіх нацыяналізм. Даволі ў якасьці прыкладу адзначыць тое, што ў часе кампаніі, якая працягвалася некалькі месяцаў, за ўдзел у царкоўным зьезьдзе, „Світло" аніводным словам не засудзіла тае іхнае пазыцыі, якая аб'ектыўна ішла на карысьць ундо-фашызму; таксама яно палічыла належным замаўчаць выступленьне Казіцкага з пятлюраўскаю рэзалюцыяй, накіраванаю супроць УССР і г. д.

Вестку пра раскол у Сельрабе „Світло" прыняла са зласьліва прыхованым задавальненьнем. Самы раскол яно ацаніла не як факт, які паслабляе і разьрозьнівае сілы працоўных мас, а як крок да кансалідацыі Сельробу.

„Выхад народавольцаў—пісала яно 25 верасьня 1927 г.—гэта не раскол Сельробу ці яго вярхоў; гэта нікчэмнае дэзэртырства трох генэралаў. Сельробаускія масы нічога ня страцілі на гэтым дэзэртырстве".

Падобную пазыцыю заняла і ранейшая кіраўнічая група ЦК КПЗУ. На адным з паседжаньняў ЦК КПП Васількоў проста т'кі заявіў, што раскол кансалідуе Сельроб, а выпрацаваныя групаю Васількова-Туранскага тэзісы пра „Новыя моманты ў сітуацыі на Заходняй Украіне і заданьне партыі" прызнаюць, што дзякуючы гэтаму расколу Сельроб „пазбыўся чужога элемэнту" (Бюлетэнь Палітбюро ЦК КПЗУ ад 20 лістапада 1927 г.).

Згодна з васількоўцамі, Казіцкія ўяўляюць з сябе ў Сельробе асноўны элемэнт, затое Вальніцкі з таварышамі—гэта элемэнт арганічна чужы. Ня дзіва, што пры гэткім разуменьні справы, ранейшая кіраўнічая група ЦК КПЗУ рабіла усё, каб *паглыбіць раскол у Сельробе.* Тут ужыты былі рознастайныя спосабы.

У першую чаргу, замест канкрэтнага крытыкаваньня абедзьвюх груп, пачалася фабрыкацыя і заўзятае пашырэньне розных плётак і паклёпаў—яны павінны былі выканаць прорву паміж дзьвума часткамі Сельробу. Пасьля таго, чым далей усё больш уваходзіць у абыход прыслужніцтва такімі аргумэнтамі, што, быццам Сельроб Лявіца, гэта замаскованыя масквафілы. кацапы, русацяпы, кірылаўцы (ад вялікага князя Кірыла), і інш., а да рабоча-сялянскага лягеру яны далучыліся толькі дзеля таго, каб працаваць над адбудовай даўнейшае Расіі „вялікай, непадзельнай".

Расійская прыказка кажа: „чым далей у лес, тым болей дроў". У працэсе барацьбы з ранейшымі волянародаўцамі васількоўцы і іхныя прыяцелі з „Світла" штораз больш спадалі на ўзровень выключна нацыяналістычнае аргумэнтацыі, што раз мацней, поўнымі жменямі бралі ідэолёгічную зброю з ундо-пятлюраўскага арсэналу. Увесь час арудуючы зданьню масквафільства, робячы з сучаснага быццам русацяпства ранейшых волянародаўцаў цэнтральнае пытаньне рабочага і

і сялянскага руху Заходняе Украіны, васількоўцы аб'ектыўна накіроўваліся да *аднаўленьня ў шэрагах працоўных мас нацыяналістычнае барацьбы па лініі „мазэпінства і кацапства“*—барацьбы, якая палягае ў інтарэсах ундо-фашызму.

Выступленьні супроць сучаснага быццам масквафільства ранейшых волянародаўцаў штораз усе больш станавіліся заслонаю дзеля таго, каб сеяць у масах працоўных недавер'е да УССР і СССР, а асобна да нацыянальнае палітыкі пралетарыяту-пераможцы. Кампанія супроць волянародаўцаў штораз больш станавілася *заслонаю, за якою мелася працягнуць шумскізм.*—Дык вось сто разоў быў правы Палітычны Сакратарыят Камуністычнага Інтэрнацыяналу, калі ў рэзалюцыі ад 25 сьнежня 1927 г. сьцьвярджаў: „надта цяжкае заданьне, якое стаіць перад КПЗУ, гэта барацьба супроць усіх тых, хто выступленьнямі супроць даўнейшых масквафілаў прыкрывае барацьбу супроць Савецкай Масквы, тых, хто намагаецца паслабіць сымпатыі працоўных мас да Савецкае Масквы і абараніць барацьбу варожых сацыялізму элемэнтаў супроць Масквы, як асяродку сусьветнае рэвалюцыі“.

Асьлепленыя шумскізмам васількоўцы забыліся, што самі раней пісалі пра вартасьць „масквафільскай“ аргумэнтацыі. Так, напрыклад, яшчэ ў 1923 г. („Нова Культура“ гэткім спосабам адказвала на абвінавачаньні у масквафільстве, якое стварылі па яе адрасу радыкалы:

„Парадзім апякунам Шапавала (г. зн. радыкалам) прыкласьці гэтую самую назву („масквафільства“) да францускіх, нямецкіх, польскіх, ангельскіх, індыйскіх, афрыканскіх і аўстралійскіх рабочых, якія таксама не абліваюць памыямі СССР, а глядзяць на яго, як на натхніцеля барацьбы за сацыялізм“ „Нова Культура“, № 4, жнівень 1923 г.).

Калі у 1926 г. арганізаваўся Сельроб, УНДО адразу ахрысьціла яго прозьвішчам масквафільскае арганізацыі. За гой самы аргумант ухапіўся выкінуты з Сельробу пятлюравец Васільчук. У сваім адкрытым лісьце ён пісаў, што праўдзівая прычына разрыву з Сельробам, гэта „масквафільскі напрамак ЦК Сельробу, прычынены заслонай інтэрнацыяналізму“.

Цяпер аргумэнтацыя масквафільствам, гэта адзіная зброя ў руках Казіцкіх і Крайкоўскіх; ею яны абзываюць усіх, хто не згаджаецца з іхнаю апартуністычнаю і нацыяналістычнаю лініяй.

Вось-жа, не пашкодзіць тут успомніць, што пісала Сельсаюзаўскае „Наше Життя“ пра вартасьць абвінавачваньня ў масквафільстве (№ ад 3 красавіка 1927 г.). Чытаем:

„Каб як-небудзь сябе выратаваць у гэтай прыкрай сітуацыі, УНДО закідае пэўнай частцы членаў Сельробу масквафільства. Над гэтым закідам варта спыніцца.

У чым цяпер выяўляецца тое масквафільства, якія яго канкрэтныя рысы, пра гэта ундоўцы ня кажуць, бо ўласна, няма нічога сказаць. Але яны унікаюць у мінулае пэўных асоб і зьбіраюць адтуль закіды супроць сучаснае працы некаторых членаў Сельробу, дарма, што яны працуюць цяпер для справы украінскіх рабочых і сялян, адчуваюць і прызнаюць сябе украінцамі“.

Далей аўтар робіць заяву, што УНДО абвінавачвае ранейшых народавольцаў у масквафільстве з тае толькі прычыны, што яны змагаюцца за вызваленьне украінскіх рабочых і сялян.

„Для УНДО—заканчвае „Наше Життя“ — усялякая клясавая барацьба, усялякая барацьба за інтарэсы працоўных мас ёсьць масквафільства. Так выглядае ў сьвятле ісьціны гэты астатні аргумэнт ундоўцаў у барацьбе з Сельробам“.

Бязумоўная рэч, што абвінавачваньне ў масквафільстве—аргумэнт ня толькі УНДО, а таксама польскага фашызму і заходня-эўрапэйскіх імпэрыялістых—ня мог мець якойсьці сілы перакананьня для рабочых і сялянскіх мас Заходняе Украіны.

З рабоча-сялянскіх шэрагаў штораз часьцей пачалі чуцца патрабаваньні пакінуць братазабойчую барацьбу і аднавіць адзінства Сельробу. Супроць злучэньня выступілі правадыры Сельробу (Правіцы). 18 сьнежня яны склікалі канфэрэнцыю Сельробу (Правіцы), дзе дакладчык ЦК Сельробу (Правіцы) Крайкоускі выказаўся, праўда, за злучэньне з Сельробам (Лявіцай), аднак—без яго кіраўнічае групы, а гэта на справе азначала нежаданьне злучыцца. Катэгарычна выступіў супроць злучэньня ранейшы дэпутат Казіцкі, вядомы сваімі нацыяналістычнымі выступленьнямі наогул; і яго рэзалюцыя была ўхвалена. Затое ня была прынята рэзалюцыя Дурдэлі, які вымагаў спэцыяльнага зьезду абедзьвюх партый для паразуменьня.

Праўда, некалькі дзён пасьля гэтае канфэрэнцыі ЦК Сельроба (Правіцы) абвясьціў дэклярацыю, у якой прызнае неабходнасьць злучэньня, але паставіў пры гэтым шэраг умоў, накіраваных да таго, каб ня даць магчымасьці адбыцца гэтаму злучэньню.

ЦК Сельробу (Лявіцы) выказаўся за ліквідацыю расколу. У адкрытым лісьце, агалошаным у часопісі „Сельроб“ у адказ на дэклярацыю Сельробу (Правіцы), ён крытыкуе ня толькі памылкі ранейшых сельсаюзаўцаў, але і свае ўласныя, прапануе склікаць канфэрэнцыю абодвых ЦК і выпрацаваць там пляцформу, якая-б зьліквідавала раскол. Далей ЦК Сельробу (Лявіцы) прапануе супольную выбарчую сувязь абодвых бакоў Сельробу (супольны выбарчы камітэт, супольныя сьпісы, і інш.).

Нацыяналістычныя правадыры Сельробу (Правіцы) парашылі самай высокай цаною дамагчыся недапусьціць злучэньня Сельробу і супольнае выбарчае акцыі. Гэтаму мела служыць *тактыка ўпэўняючых фактаў.* Ужо ў сьнежні яны зрабілі немажлівымі распачатыя ў свой час перамовы аб злучэньні, утварыўшы ўпэўняючы факт—вышэйазначаную канфэрэнцыю Сельробу (Правіцы), якая адбылася 18 сьнежня і ухваліла рэзалюцыю Казіцкага. Далей яны парашылі паўтарыць той самы манэўр. Новы ўпэўняючы факт, які зрываў ужо ў другі раз перамову аб злучэньні, гэта быў асобны выбарчы сьпіс Сельробу (Правіцы), укладзены за плячмі іншых аддзелаў анты-фашысцкага фронту. Аднак рабоча-сялянскі антыфашысцкі лягер паспрабаваў яшчэ раз злучыць Сельроб, бадай для супольнае выбарчае акцыі. Выяўленьнем гэтага была скліканая па ініцыятыве ППС Лявіцы канфэрэнцыя (18-га студзеня 1928 г.), дзе. акрамя ППС Лявіцы, прымалі ўдзел дэлегаты абодвых бакоў Сельробу. Але і гэтую канфэрэнцыю сарвалі прадстаўнікі ЦК Сельробу (Правіцы).

Зразумелая рэч, што гэткая тактыка правадыроў Сельробу (Правіцы), разьбіваючы адзіны фронт барацьбы з фашызмам, павінна была выклікаць адпор у нізах Сельробу (Правіцы), якія пратэставалі супроць сабатажу злучэньня і намагаліся ліквідацыі расколу. Распачаўшы акцыю за злучэньне з Сельробам (Лявіцай) таксама і адзін з членаў ЦК Сельробу (Правіцы), т. Міхайла Дурдэла. ЦК Сельробу (Правіцы) ня змогшы супроцьпаставіць гэтаму імкненьню да злучэньня істотных аргумэнтаў, павінен быў выратоўваць сябе арганізацыйнымі рэпрэсіямі, выяўленьнем якіх было між іншым адабраньне ў т. Дурдэлы правоў члена ЦК.

Наперакор правадыром Сельробу (Правіцы), *сельробаўскія масы вышлі на выбары пад лёзунгам адзінства Сельробу.* На ўсіх абшарах

украінскіх зямель пачалі ўзьнікаць Камітэты Адзінства Сельробу, у склад якіх увайшлі абодвы супярэчныя бакі Сельробу і арганізацыі ППС Лявіцы. Вярхі Сельробу не жадалі адзінства—і вось, сельробаўскія нізы самы узялі ў свае рукі ініцыятыву ліквідацыі расколу.

Ідэя адзінства Сельробу, нарэшце, знайшла сабе выяуленьне ў агалошаным выбарчым сьпісе пад назвай Адзінства Сельробу—туды ўваходзілі прадстаунікі абодвых бакоў Сельробу і ППС Лявіцы.—Відаць вялікую прывабную сілу мела тая ідэя адзінства Сельробу, бо правадыры Сельробу (Правіцы) у сваёй барацьбе супроць злучэньня сельробаўскага руху скіраваліся за дапамогаю да буржуазнага, фашысцкага лягеру. Аднак ня чым іншым, як апэляцыяй да фашызму зьяўляуся агалошаны на пасяджэньні дзяржаўнае выбарчае камісіі протэст упаўнаважанага ад сьпісу Сельробу (Правіцы) супроць назвы сьпісу „Адзінства Сельробу“. Зразумелая рэч, што прадстаўнікі буржуазных і сацыял-згодніцкіх партый у выбарчай камісіі паквапіліся падтрымаць прадстаўніка Сельробу (Правіцы), разумеючы якім небясьпечным зьяўляецца для буржуазіі адзінства сельробаўскіх мас у барацьбе за вызваленьне з пад ярма буржуазіі і фашызму.

Рэзультат выбараў у Сойм, якія былі навочным довадам шкоды ад разрозьненьня Сельробу, расплюшчыў вочы шмат каму з тых, хто даверліва ішоў за Казіцкімі і Крайкоўскімі.

Так, арганізацыя Сельробу (Правіцы) у Злочаве, на выбарах у Сойм агітуючы яшчэ за сьпіс Сельробу (Правіцы), на канфэрэнцыі 19-га сакавіка асудзіла ворагаў злучэньня з ЦК Сельробу (Правіцы) і выказалася за тэрміновую ліквідацыю расколу. Гэткія-ж пастановы былі ўхвалены ў шэрагу арганізацыі Сельробу (Правіцы).

Пра магутнасьць руху за адзінства Сельробу можам судзіць хоцьбы з таго, што за злучэньне Сельробу выказалася часопіс „Нове Життя“, якая выдавалася ранейшым дэпутатам Макоўкай і Шчэбаком замест захопленага Антонам Васільчуком „Нашого Життя“.

Кіраўніцтва руху за злучэньне Сельробу ўзяў на сябе Ініцыятыўны Камітэт Адзінства Сельробу, на чале з т. Дурдэлай. Гэты Камітэт быў вылучаны на краёвай канфэрэнцыі 14-га сакавіка 1928 г. дзе мелі свае прадстаўніцтва шэраг арганізацый Сельробу. Ініцыятыўны Камітэт Адзінства Сельробу—гэта выяўнік імкненьня сельробаўскіх мас да ліквідацыі расколу, на грунце выразнае праграмы барацьбы за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне і за адмежаваньне ад усялякіх апартуністычных і нацыяналістычных ухілаў.

26-га сакавіка 1928 г. Ініцыятыўны Камітэт Адзінства Сельробу зьвярнуўся з лістом да ЦК Сельробу (Лявіцы) і ЦК Сельробу (Правіцы), дзе прапануе злучэньне абедзьвюх арганізацый на гэткіх умовах:

1. Няўхільная барацьба супроць фашызму і буржуазнае рэакцыі, супроць наступленьня капіталу на рабочую клясу, за зямлю бяз выкупу, за самавызначэньне прыгнечаных народаў.

2. Поўнае прызнаньне неабходнасьці як найшчыльнейшае сувязі і супольнае барацьбы сялян і рабочых Заходня-Украінскіх зямель і працоўных мас усяе Польшчы. Найрашучая барацьба з масквафільствам (РУНДО*) і буржуазным нацыяналізмам, які на справе зьяўляецца зброяй фашызму (УНДО радыкалы). Перамога ўсялякіх выяўленьняў нацыяналізму і нацыянальнага нігілізму ў сельробаўскім руху.

3. Усебаковая барацьба супроць ваеннае небясьпекі. Рашучае адмежаваньне ад усяе кампаніі цкаваньня Савецкае Украіны і СССР.

*) Рундо—„Русское Народно-Демократическое Объединение“, арганізацыя расійскіх памешчыкаў і капіталістаў, якія на выбарах у Сойм правялі аднаго дэпутата (доктара Караля), сабраўшы на свой сьпіс 130.000 галасоў.

Прызнаньне бяз жадных амаўленьняў тае нацыянальнае палітыкі, якая праводзіцца цяпер у Савецкай Украіне. Рашучае асуджэньне выступленьняў супроць нацыянальнае палітыкі УССР—тых выступленьняў, якія за апошні час праводзіліся пад штандарам „Шумскізму" і знайшлі сабе водгук у Заходня-Украінскай прэсе („Світло").

Выступленьне Ініцыятыўнага Камітэту Адзінства Сельробу спатыркнулася на прыкрыты адпор правадыроу Сельробу Правіцы. Яны чым далей, усе больш патанаюць у балоце нацыяналізму. Паспрабаваўшы сьпярша лавіраваць і маскіраваць сваю сапраўдную пазыцыю, яны, прыпертыя да сьценкі, агаласілі ў канцы красавіка 1928 г. (у „Нашому Слові") „заяву", у якой цалкам падтрымоўваюць шумскізм і рэнэгатау рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Украіне. „Заява" Крайкоўскіх Валынцоў і Чучмаеў, перапоўнена нячуванымі паклепамі на УССР і КП(б)У, гэта ганебны дакумант: ен выяуляе істотную ролю правадароў Сельробу (Правіцы) у стварэньні антысавецкага буржуазнага фронту на чале з ангельскім імпэрыялізмам і польскім фашызмам.

Адповедзьдзю на здраду Крайкоўскіх і Казіцкіх быў злучаны Кангрэс Сельробу, які адбыўся у Львове 24-га мая 1928 г. Наперакор нацыяналістычным наймітам і дапамагачам фашызму адзінства Сельробу адноўлена. У яго шэрагах зноў згуртаваліся тыя, хто стаіць на грунце барацьбы з польскім фашызмам, барацьбы за рабоча-сялянскі урад, за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне Заходняе Украіны, усе тыя, хто разумее неабходнасьць мабілізацыі шырокіх працоуных мас супроць арганізаванае міжнародным імпэрыялізмам вайны з Савецкім Саюзам.

### Ашуканцы рабоча-сялянскага адзінства.

Выстаулены камуністычным лягерам у часе выбараў у Сойм *лёзунг рабоча-сялянскага адзінства* знайшоў сабе магутны водгук сярод працоўных мас усяе Польшчы. Галасаваньне за антыфашысцкія сьпісы амаль што мільёну рабочых і сялян паказала сваё разуменьне таго, што адзінства барацьбы працоўных мас—заданьне моманту

Рабочыя і сяляне Заходняе Украіны адчуваюць на ўласнай скуры кансалідацыю буржуазіі і памешчыкаў навакол фашысцкага ўраду Пілсудзкага; яны бачаць, як, не зважаючы на глыбокія антаганізмы паміж буржуазнымі дзяржавамі, злучаецца іх супольны фронт супроць пралетарыяту, як пашыраецца сетка злачынных падрыхтоуваньняу сусьветнае буржуазіі і польскага фашызму да вайны супроць СССР.

Рабочыя і сяляне разумеюць таксама, што даць ім сілу для барацьбы з клясавымі ворагамі можа толькі злучэньне шэрагаў, толькі аднастайны фронт працоўных мас.

Лёзунг „Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!", які гучэў у вуснах соцыял-згодніцкіх шарлатанаў толькі блудніцкім сказам, мацней, чым калі-небудзь адпавядае цяпер глыбока адчутым патрэбам працоўнага народу. Найпаўнейшае выяўленьне гэты лёзунг знайшоу сабе ў Камінтэрне, які яднае камуністычныя партыі розных краін у адну сусьветную Ленінскую Камуністычную Партыю.

Якраз на гэта адзінства барацьбы міжнароднага пралетарыяту і на яе кіраўніка і правадыра—Камінтэрн узьнялася рука групы нацыяналістычных рэнэгатаў. Набраўшы сабе поўны рот радыкальных сказаў, яны імкнуцца разьбіць па нацыянальнай лініі рэвалюцыйны рух у Заходняй Украіне, адарваць яго ад барацьбы пролетарыяту ўсяе Польшчы і ад яго кіраўніка—КПП, разрозьніць з рэвалюцыйным рухам цэлага сьвету, аб'яднаным у Камуністычным Інтэрнацыянале.

Звычайна, праўдзівы напрамак сваіх патуг васількоўцы імкнуцца схаваць ад працоўных мас. Звычайна, яны са ўсім сваім цынізмам становяцца ў позу барацьбітоў ленінізму і бальшавізатараў ня толькі КПП, але і усяго Камінтэрну. Але-ж паміж усялякімі здрадніцкімі камуністычнага руху цьвёрда ўжо ўкараніўся звычай выдаваць сябе за праўдзівых ленінцаў. Так рэклямуюць сябе і Суварын, і Корш, і Маслоў, і іншыя прыбочнікі міжнароднае сацыял-дэмакратыі і імпэрыялізму. Чаму-ж павінны быць горшымі за іх нашы сацыялістычныя рэнэгаты?

Як выяўляецца цяпер, група Васількова-Туранскага здаўна ўжо падрыхтоўвала замах на адзінства пралетарскага руху Заходняе Украіны. Мы маем у руках ліст аднаго з сучасных раскольнікаў, датаваны 17 сьнежня 1927 г., дзе ён піша пра раскол, які мае, быццам, у хуткім часе надыйсьці. Таксама вядома нам, што ў канцы сьнежня 1927 г. адбылася нарада Васількова, Максімовіча і некалькіх іхных давераных на якой ухвалена зрабіць раскол і сабраць на гэтую патрэбу грошы.

Зразумела, група Васількова-Туранскага правяла раскол з поўнай развагаю. Да выкананьня ўзятае раней ухвалы яны ўзяліся тады, калі ЦК КПП і Выканкому Камінтэрну паставілі ім умову цьвёрда праводзіць у жыцьцё лінію Камінтэрну, рашуча адмовіцца ад практыкаванае, на працягу некалькіх месяцаў, палітыкі ўмысловага сабатажу пастаноў вышэйшых партыйных арганізацый.

Раскольніцкае выступленьне групы Васількова было такім чынам *непасрэдна накіравана супроць КПП і Камінтэрну*, было довадам таго, што ранейшая кіраўнічая група ЦК КПЗУ не прызнае асноўнага прынцыпу ленінскае арганізацыйнае палітыкі—адзінае камуністычнае партыі ў кожнай дзяржаве з адзіным кіраўніцтвам і цьвердае цэнтралізацыі міжнароднага камуністычнага руху.

Раскольніцкія пастановы нацыяналістычных рэнэгатаў былі *рэцыдывам іхнага палітычнага і арганізацыйнага сэпаратызму*, які знайшоў сабе зусім выразнае афармленьне у артыкуле Васількова, зьмешчаным у „Нашай Праўдзе“ у сьнежні 1923 г. А у тым, сэпаратызму гэтага ў адносінах з усяе КПП група Васількова да канца ніколі не перамагала. Па гэтай самай прычыне 4-ы зьезд КПП, у поўным паразуменьні з Камінтэрнам, павінен быў асудзіць „надмэрны аўтанамізм, які праводзіўся кіраўніцтвам КПЗУ супроць КПП“

Ранейшае кіраўніцтва ЦК КПЗУ ня раз на паперы рабіла пастановы пра неабходнасьць шчыльнейшае сувязі паміж рабочым рухам Заходняе Украіны і усяе Польшчы. Але гэта было ёй патрэбна не дзеля чаго іншага, як толькі дзеля выкананьня сваіх абавязкаў. На справе яна нічога не рабіла, каб зьдзейсьніць ухваленыя па гэтаму пытаньню рэзалюцыі. Жнівенскі пленум ЦК КПЗУ ў рэзалюцыі аб працы 8-га пленуму ЦК КПЗУ сьцьвярджае наступнае:

„Большасьць ЦК ня ставіла перад партыяй, як адно з галоўных яе заданьняў пры фашысцкім рэжыме, неабходнасьць як найбольшага злучэньня працоўных мас Заходняе Украіны з пралетарыятам і сялянствам усяе Польшчы, для супроцьстаўленьня суполцы фашысцкага ўраду і украінскіх згодніцкіх партый. Прэса КПЗУ абмежавалася амаль ня выключна украінскімі справамі, а партыйныя выдавецтвы паўтаралі толькі шаблённыя лезунгі аб супольнай барацьбе. У той час, як найбольшае адзінства ўсіх чыньнікаў рэвалюцыі гэта—умова неперамажнае барацьбы супроць вайны і фашысцкае дыктатуры. Кожны рабочы і селянін у Заходняй Украіне павінен зразумець, што вызваленьне з пад ярма фашысцкіх урадаў і польскае акупацыі, далучэньне Заходняе Украіны да УССР можа надыйсьці толькі ў выніку барацьбы, супольнае з рабочымі і сялянамі ўсяе Польшчы, таксама, як польскі

рабочы і селянін павінен зразумець, што няма яму вызваленьня без барацьбы за самавызначэньне аж да аддзяленьня народаў, прыгнечаных польскім імпэрыялізмам.

Пастановы 8-га пленуму нічога ня кажуць аб гэтай памылцы і не ўспамінаюць ані словам пра неабходнасьць адзінства КПЗУ і усяе КПП".

Атаку на адзінства камуністычнага руху Заходняе Украіны і на сувязь яго з КПП васількоўцы распачалі непасрэдна напярэдадні выбараў у Сойм. Якраз, яны выбралі для расколу момант, які вымагаў найбольшага злучэньня сіл камуністычнага лягеру і ўсяго антыфашысцкага рабоча-сялянскага блёку. Выбіраючы для свайго раскольніцкага выступленьня *найвыгаднейшы для фашыстаў момант*,—васількоўцы кіраваліся, між іншым, надзеяй, што яны здолеюць гэткім чынам унесьці дэзорыентацыю ў рабоча-сялянскія шэрагі, ды захоўваючы ад працоўных мас факт свайго разрозьненьня з рэвалюцыйным рухам Польшчы з міжнародным камуністычным рухам, яны зьбяруць на свае сьпісы галасы рабочых і сялян, правядуць у Сойм групу сваіх дэпутатаў і аж там,—у фашысцкім парлямэнце, — пакажуць свой сапраўдны твар.

Як у Нямеччыне Маслоў і Рут-Фішэр, так і ў Заходняй Украіне шумскісты, запінаючыся лезунгам рабоча-сялянскага адзінства, мелі намер дайсьці да Сойму, і там стварыць сваю фракцыю рэнэгатаў камунізму, якая мела выканаць пэўную, з фашысцкага погляду, ролю разлажэньня з сярэдзіны рэвалюцыйна-сялянскага лягеру. Пра гэта найлепш сьведчыць адказ, які адтрымалі шумскісты ад рабочых Львову і нафтавага раёну. А адозва „Світла“, што галасы пададзеныя на Валыні за сьпіс Сельробу (Правіцы)—гэта галасы прыхільнікаў шумскізму, гэта звычайнае шарлатанства. Валынскія сяляне галасавалі за сьпіс Сельробу (Правіцы) упэненыя ў тое, што гэтая арганізацыя цалкам прызнае нацыянальную палітыку УССР. Нездарма, на працягу усяе выбарчае кампаніі „Наше Слово“ і агітатар Сельробу (Правіцы) старанна захоўвалі свой шумскісцкі твар і падкрэсьлівалі салідарнасьць з палітычнай лініяй кіраўнічых органаў Савецкае Украіны.

Парваўшы з КПП і Камінтэрнам, васількоўцы з скуры лезьлі, каб пацягнуць за сабою на шлях здрады і КПЗУ, але яны пры гэтым натыркнуліся на рашучы адпор партыйных арганізацый: гэтыя арганізацыі амаль ня ў поўным складзе асудзілі ўчынак нацыялістычных раскольнікаў. Групе Васількова-Туранскага няма ужо чаго траціць. Яна імкнецца адарваць рэвалюцыйны рух Заходняе Украіны ад барацьбы пралетарыяту усяе Польшчы і выклікаць у працоўных масах Заходняе Украіны пачуцьце чужацтва і варожасьці да вялічэзнага сацыялістычнага будаўніцтва УССР і да правадыра непераможнага пралетарыяту Савецкае Украіны—КП(б)У.

Даволі ўспамянуць кампанію паклёпаў на КПП, якую нацыялістычныя рэнэгаты завуць у сваей прэсе „безпрынцыповай, апартуністычнай групкай“, і ганебныя напады на КП(б)У, абвінавачваньне яе ў тым, што яна перасьледуе камуністаў-украінцаў, спрыяе вялікадзяржаўнаму расійскаму шавінізму і г. д.

Свой нацыяналістычны сэпаратызм шумскісты пераносяць таксама і ў адносінах да Сельробу (Правіцы). Пад гэтым поглядам маем славуты артыкул пад назваю „ППС Лявіца ў ролі апякуна русацяпаў“, зьмешчаны ў XI (42) № „Нашого Слова“ ад 12 лютага 1928 г. Галоўная думка гэтага артыкулу тое, што ППС Лявіца, як арганізацыя польскага пралетарыяту, павінна займацца польскімі справамі і не датыркацца да украінскіх спраў.

„Дзеля гэтага ППС (Лявіца)—чытаем між іншым у гэтым артыкуле— замест пашырэньня сацыялізму сярод польскага пралетарыяту, замест барацьбы з фашызмам ППС—Гауснэра, бярэцца карэгаваць клясавую лінію украінскага пралетарыяту, ня ведаючы і не разумеючы, а ні жыцьця, а ні нават мовы таго пралетарыяту".

ППС Лявіца выказалася за ліквідацыю расколу ў Сельробе, і гэтага ўжо даволі для „Нашого Слова" каб даць ППС (Лявіцы) мянюшку „Нацыяналістычнае польскае арганізацыі".

Па гэтай самай лініі стварэньня прорвы паміж рабоча-сялянскім рухам Заходняе Украіны і барацьбою пралетарыяту ўсяе Польшчы ідуць патугі Крайкоускіх, накіраваныя на тое, каб зрабіць з Сельробу (Правіцы) экспазытуру шумскізму.

Чым больш рашуча працоуныя масы Заходняе Украіны адварочваюцца ад нацыяналістычных рэнэгатаў і іхных прыбочнікаў з ЦК Сельробу (Правіцы), тым больш падтрыманьня і дапамогі маюць гэтыя рэнэгаты ад УНДО-фашызму. Даволі перачытаць прэсу УНДО -радыкальнага лягеру —„Діло", „Громадський Голос", і інш.—каб пераканацца, як амаль што з кожным днем мацнее „братэрства зброі" васількоўцаў і ваяунічага лягеру украінскага нацыяналізму. Ужо ўлетку 1927 году, падаючы першыя весткі пра дзьве пазыцыі ў ЦК КПЗУ па справе шумскізму, ундоуская прэса дадавала да гэтага такі коментары:

„У цэнтральным камітэце КПЗУ была таксама і меншасьць да якой належалі галічанскія жыды .. яна дамагаецца аддаленьня Максімовіча і тэй большасьці, якую падтрымліваў ЦК КПЗУ. Інакш кажучы, жыды імкнуцца, каб увесь ЦК КПЗУ абсадзіць выключна жыдамі" („Свобода" ад 24-га ліпеня 1927 г.).

Цяпер „Діло" аддае шумскізму багата ўвагі і недвусэнсова сьцьвярджае, што у барацьбе паміж украінскімі камуністымі і „русацяпскімі камуністамі" цалкам стаіць на баку першых.

У пачатку мая м-ца г. г. ў „Ділі" зьмешчаны, між іншым, цэлы шэраг артыкулаў пад назваю „Пами́ж молатам і ковадлам"; тут даводзіцца, што ў справе адносін да УССР і КП(б)У васількоўцы паўтараюць толькі тое, што ўжо колькі год піша ундоуская прэса. Гатоўнасьць васількоўцау перайсьці на улоньне украінскае буржуазіі сьцьвярджае уся прэса ундо-пятлюра фашысцкага лягеру („Новий час", „Літературно-Науковий Вісник", „Украінський Голос", „Украинськая Нива" і г. д.).

Гэтыя выяуленьні сымпатый органаў украінскае буржуазіі па адрасу васількоўцаў рэч зусім зразумелая. І вось УНДО радыкальны лягер, як і польская фашыская прэса „Express Poranny" „Gazeta 2 Grosze", і інш. добра разумее, якую вялікую дапамогу маюць яны ад нацыяналістычных рэнэгатаў, якія дамагаюцца разрозьніць фронт працоўных мас у Заходняй Украіне і ва ўсёй Польшчы. Сымпатыі ундоўцаў да шумскісцкае групы не зьяўляюцца, як відаць, сымпатыямі проста так, плятанічнымі—наадварот, яны становяцца чым далей усе больш рэальнымі і шчыльнейшымі (платныя паведамленьні „Украінскага Банку ў „Світлі").

Украінская контр-рэволюцыя абкружае асабліва дбалай апекай ня толькі групу Васількова, але і малалікіх рыцараў „ідэй Шумскага" ў Савецкай Украіне. Адзін з правадыроў украінскае контр-рэвалюцыйнае эміграцыі Шапавал, у сваім часопісу „Нова Країна", з поўнай адкрытасьцю прызнае гэты факт. Дырэктывы яго ў гэтай справе сваім прыбочнікам да таго характэрныя, што лічым а неабходнае падаць іх тут.

„Той факт,—піша Шапавал,—што ў КП(б)У стварылася нацыянальна украінская камуністычная апазыцыя, гэта факт вялікае вагі. Усе укра-

інскія элемэнты павінны падтрымоўваць гэтую апазыцыю, і ні у якім разе не выстаўляць сваіх асобных праграм".

Дырэктыва цалкам выразная: усе украінцы контррэвэлюцыянэры, ідуць у кучы з шумскістамі, не адлучаючыся ад іх. Супольна атакуйце украінскую сацыялістычную рэспубліку і яе правадыра—КП(б)У.

А далей, Шапавал яшчэ выразьней стаіць кропку над „і". Ён піша так:

„Для ўзмацненьня уплыву украінскае камуністычнай апазыцыі ад усіх (г. зн. усіх ворагаў савецкае улады—*Ю. Б.*) патрэбен такі поступ, каб апазыцыю палічылі за выяўніка волі і інтарэсаў украінскіх рабочых і сялян. Тых украінскіх камуністаў, якія заляцаюць да Масквы, трэба байкатаваць, як здраднікаў украінскага пралетарыяту і „презренных малороссиян". Трэба прыстасаваць да іх маральны тэрар і паралізаваць іх. Украінская інтэлігэнцыя павінна адкрыта прызнаваць і бараніць сыстэму савецкае ўлады, але адначасова падкрэсьліваць, што ўладу павінны абіраць рабочыя і сяляне Украіны... Ленінізм можна зьнішчыць ленінізмам. Гэты парадокс павінны зразумець усе, хто хоча зьнішчыць дыктатуру Масквы". (Шапавал. „10 років". „Нова Україна", лістапад 1927 году).

Трэба прызнаць, што Шапаваламы дырэктывы рэнэгаты Васількоў і Туранскі з усяе сілы намагаюцца зьдзейсьніць. Зразумела, квінтэсэнцыя іхнае тэорыі і практыкі у тым, каб падробляючыся пад „стопроцантны ленінізм" прышчапляць масам чужую ім нацыяналістычную ідэалёгію, каб запінаючыся сказамі пра абарону УССР, выконваць ролю дапамагача польскага фашызму і міжнароднага імпэрыялізму, каб, дэклямуючы пра клясавую барацьбу, з сярэдзіны разразьняць рабоча-сялянскі фронт.

Якраз памыляюцца нацыяналістычныя рэнэгаты, калі думаюць, што сваймі мэтадамі бесцарамоннага ашуканства здолеюць пацягнуць за сабою рабочых. *Клясу абдурыць нельга.* Вопыт штодзеннае барацьбы з капіталам і яго зброяй, фашысцкай дзяржавай, паказвае рабочым як адзіны шлях, які вядзе да вызваленьня, супольны фронт працоўных мас усіх нацыянальнасьцяў.

Ленінскія ідэі сталі цяпер уласнасьцю шырокіх працоўных мас. Зразумела, рабочыя і сяляне здолеюць адрозьніць звычайнае шахрайства і спэкуляцыю ад ленінізму. Рабочыя і сяляне ведаюць, што да асноўных прынцыпаў ленінізму належыць цеснае адзінства рабоча-сялянскага руху ў кожнай краіне і братэрскі саюз пралетарыяту ўсяго сьвету.

У напісанай Леніным рэзалюцыі нарады бальшавікоў, якая адбылася ў 1913 г. ў Пароніне чытаем.

„Інтарэсы рабочае клясы вымагаюць злучэньня рабочых усіх нацыянальнасьцяў пэўнае краіны ў адзіных пралетарскіх арганізацыях—палітычных, прафэсыянальных, самаадукацыйных і г. д. Толькі гэткае злучэньне рабочых розных нацыянальнасьцяў у адзіных арганізацыях дае пралетарыяту магчымасьць праводзіць барацьбу з капіталам і рэакцыяй да перамогі, а таксама з агітацыяй і дамаганьнямі памешчыкаў, папоў і буржуазных нацыяналістаў усіх народнасьцяў, якія праводзяць свае антыпралетарскія дамаганьні пад штандарам „нацыянальнае культуры". Сусьветны рабочы рух стварае, із кожным днём штораз больш разьвівае інтэрнацыянальную (міжнародную) культуру пролетарыяту" (том XIX, стар. 35).

Баявое адзінства шэрагаў камуністычнае партыі—гэта асноўная ўмова перамогі пралетарскае рэвалюцыі. Ня раз пісаў пра гэта т. Ленін, у ходзе вялікіх змаганьняў сучаснага пралетарыяту СССР з

буржуазіяй і яе памоцнікамі. У сваім „Лісьце да рабочых і сялян Украіны з прычыны перамог над Дзянікіным“ Ленін падкрэсьлівае: што у галіне *„прынцыповых асноўных для ўсіх народаў аднальковых заданьняў барацьбы пралетарыяту* „належыць“ няпрыпусьцімасьць згоды з буржуазіяй і *няпрыпусьцімасьць раздрабленьня сіл*“.

Якраз на гэты асноўны пастулат ленінскае палітыкі ўдараюць васількоуцы. Дамагаючыся найбессаромным спосабам разьбіць адзінства камуністычнае партыі і рабоча-сялянскага руху ў Заходняй Украіне і усей Польшчы, васількоўцы адначасова дэклямуюць аб тым, што яны гэткім уласна спосабам кансалідуюць пралетарскі лягер і адбудоўваць яго адзінства. Падчас выбараў у Сойм, групоўка шумскістаў адарвалася ад Рабоча-Сялянскага Адзінства, і агаласіла свой канкрэнтны сьпіс нумар 36, адзінаю мэтаю якога было разьбіць рабочы фронт і вось у адозьве выбарчага камітэту гэтага сьпісу (яны называюць сябе Рабоча-Сялянскім Адзінствам Лявіцаю!) чытаем:

„З поўным пачуцьцем адказнасьці за рабоча-сялянскі рух бяромся за адбудову адзінства!!!“.

Гэткую самую блуднасьць бачым у выданьнях групы Васількова. Так, напрыклад, у заяве адрасаванай „У Выканаўчы Камітэт Комінтэрну“ і выдрукаванай у раскольніцкай „Земл і Волі“, Чытаем, што група Васількова „стаіць на тым, што трэба прыкласьці патугі для скансалідаваньня усіх камуністычных сіл у Польшчы пад агульным кіраўніцтвам КПП“.

Адно, праўда, маем сумненьне, наўрад ці у гісторыі рабочага руху можна знайсьці дакуманты, якія-б пад поглядам самага бессаромнага ашуканства маглі ісьці разам з выступленьнямі нацыяналістычных рэнэгатаў.

Прыкладаць усялякія патугі для разрозьненьня рэвалюцыйнага лягеру, пашыраць у шэрагах украінскіх рабочых і сялян недавер'е і антаганізм супроць польскага пралетарыту, выступаць супроць КПП і Камінтэрну, а адначасова дэклямаваць пра „пасьлядоўчае правядзеньне у жыцьце лініі Камінтэрну“ гэта такі сапраўды узвышша палітычнае мудрасьці дамарослых заходня—украінскіх Макіявэляў.

Аднак, на каньку ашуканства, цынізму і шантажу далека не паедзеш. Няхай васількоўцы здабываюць нямаведама якія цуды палітычнае эквілібрыстыкі: нацыяналістычнае шыла раз-по-раз будзе вылазіць з іхнага ідэалегічнага багажу. У барацьбе з нацыяналізмам і іхным апартунізмам узмацнее сувязь КПЗУ з усёю КПП, здабудзе трываласьці адзінства рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Украіне і яго братэрская сувязь з працоунымі масамі Польшчы і Заходняе Беларусі, бо і яны-ж змагаюцца за вызваленьне.

### Заданьні КПЗУ ў барацьбе з нацыяналістычнымі раскольнікамі.

Нацыяналістычная група Васількова —Туранскага ўжо знаходзіцца назамежамі камуністычнае партыі і Комінтэрну. Засуджаная пленумам Выканкому Камінтэрну, як група здраднікаў і ворагаў пралетарыяту і барацьбы за вызваленьне Заходняе Украіны з-пад ярма польскае акупацыі, яна пачала шпарка каціцца ўніз па схільнай плошчы нацыяналізму і апартунізму. Польскі фашызм ужо рыхтуецца прыгарнуць яе да свайго улоньня, як групы, якая накіравала адносіны ў заходня-украінскай камуністычнай партыі на новыя шляхі легалізацыі, разрыву з Інтэрнацыяналам і пераходу на грунт польскае дзяржаўнасьці („Express Porannу“ ад 28 лютага 1928 г.).

Але прадчасная радасьць польскага фашызму і яго ўндоўскіх прыслужнікаў. Камуністычная партыя Заходняе Украіны дала рашучы адбой групоўцы нацыяналістычных раскольнікаў. Студнёўская нарада КПЗУ засудзіла іх аднагалосна і падцьвердзіла непарушную вернасьць камуністаў Заходняе Украіны спадчыне Леніна, справе сацыяльнае рэвалюцыі і яе штабу Камуністычнаму Інтэрнацыяналу. А ўсьлед за гэтым групоўка раскольнікаў добра атрымала сабе па кіпцях ад працоўных мас Заходняе Украіны. Прэч з рукамі ад рабоча-сялянскае справы! вось які адказ далі Васількову—Туранскаму пралетары Львову, нафтаваге райёну і ўсяе Заходняе Украіны.

Вынік выбараў у Сойм паказаў, што раскольнікі апынуліся адцятымі ад асноўнага пню пралетарскае Заходняе Украіны, што гэта проста групоўка нацыяналістычных інтэлігэнтаў імкнецца разжыцца на разрозьненьні Сельробу і знайсьці сабе падпору у найбольш прыбітых, найлягчэй даступных нацыяналізму пластох працоўных. Зразумела, што Васількоў і Туранскі не зьняверацца так хутка ў сваіх імкненьнях знайсьці пэўную падпору у рабочай масе. Якраз іхная сацыяльна-палітычная роля на тым, уласна кажучы, і грунтуецца, каб за шырмаю рэвалюцыйных сказаў, пад манліваю маскаю „стопроцантнага ленінізму", завесьці частку рабоча-сялянскіх загонаў на задворкі ундо-фашызму. Гэтым якраз КПЗУ і працоўныя масы Заходняе Украіны павінны і надалей даваць *цьверды адпор* здрадніцкай і раскольніцкай працы групоўцы нацыяналістычных раскольнікаў, няўхільна перамагаць спробу групы Васількова—Туранскага „замяніць ленінскую лінію ў нацыянальным пытаньні „шумскізмам", які зьяўляецца на справе выяўленьнем украінскага фашызму" (з рэзалюцыі пленуму ЦК і ЦКК КП(б)У у сакавіку 1928 г.. „Бiльшовик України", № 6).

З гэтым шчыльна зьвязваецца правядзеньне шырокае *інфармацыйнае кампаніі*, заданьнем якое павінна быць—усебаковае выяўленьне існасьці нацыяналістычных і апартуністычных памылак, зробленых ранейшай кіраўнічай групаю ЦК КПЗУ. У ходзе гэтай кампаніі належыць узяць пад грунтоўны аналіз эвалюцыю групы Васількова—Туранскага—ад камунізму—у балота дробна-мяшчанскага нацыяналізму і выкрыць крыніцы іхнае здрады.

У сувязі з пагражаючаю, больш чым калі-небудзь, небясьпекаю украінскага нацыяналізму, партыя павінна праводзіць з поўнай пасьлядоўнасьцю *ленінскую лінію у нацыянальным пытаньні* і не дапускаць ані найменшага яе выпраўленьня. Трэба памятаць, што на грунце часткова стабілізацыі, у сувязі з антысавецкімі падрыхтоўваньнямі сусьветнага капіталу і польскага фашызму, украінскі нацыяналізм раз-по-раз будзе аднаўляць свае атакі на рабоча-сялянскі лягер, няўхільна накіроўваючыся да таго, каб запаскудзіць сьвядомасьць мас атрутаю нацыянальнае агіды. А ў сучаснай сітуацыі украінскі нацыяналізм—гэта зброя ў руках Пілсудзкага, гэта той ланцужок, якім польскі фашызм хоча закілзаць працоўныя масы Заходняе Украіны і прыкуць іх да свае калясьніцы. Рэнэгацкая група Васількова—Туранскага—гэта фарпост украінскага і польскага фашызму, найдалей высунутая ў масы яго варта.

Паклепніцкім нападам рэнэгатаў на УССР і КП(б)У партыя павінна супроцьпаставіць *шырокую кампанію ў абарону СССР*, як сацыялістычнае бацькаўшчыны міжнароднага пралетарыяту. Трэба папулярызаваць вялікія дасягненьні УССР і КП(б)У на гонях сацыялістычнага будаўніцва і росквіту украінскае культуры працоўных мас, паказваючых, як пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі ва ўсіх галінах палітычнага, грамадзкага і культурнага жыцьця паступова праводзіцца

українізацыя. Група Васількова—Туранскага, нападаючы на УССР і КП(б)У, парываючы з Камінтэрнам, прапаноўваючы прымусовую українізацыю расійскага пралетарыяту, дамагаецца на справе парваць сувязь УССР з Савецкім Саюзам, зьліквідаваць адзінства рабочых і сялян, разбурыць самыя падваліны дыктатуры пралетарыяту. Гэтым самым група Васількова—Туранскага аб'ектыўна імкнецца пахіснуць падваліны, на якія абапіраецца палітыка українізацыі і будаўніцтва украінскае сацыялістычнае культуры, аб'ектыўна пераходзіць у лягер ворагаў ня толькі УССР, але і барацьбы за вызваленьне Заходняе Украіны з-пад ярма польскага фашызму.

Трэба растлумачыць, што пастулат фэдэрацыі Сацыялістычных Рэспублік, яднаньне іх ў адзіным СССР ня толькі выплывае з асноўных прынцыпаў марксызму і ленінізму, ня толькі зьяўляецца выяўленьнем праўдзівае салідарнасьці інтарэсаў пралетарыяту ўсіх краін, але што адзінства пераможнага пралетарыяту гэта умова пасьпяховага будаўніцтва сацыялізму, магутнага росквіту гаспадарчых і культурных сіл, і абароны рэвалюцыйнае справы ад імпэрыялізму капіталістычных краін.

Абавязак КПЗУ—зрабіць больш шчыльнай ідэалёгічную сувязь з КП(б)У і ЎсеКП, няухільна перамагаць усялякія варожыя пралетарыяту плыні, якія, запінаючыся блудніцкімі лёзунгамі „незалежнае (буржуазнай) Украіны", буржуазнае „нацыянальнае культуры", імкнуцца пасеяць у працоўных масах нежаданьне і недавер'е да пралетарыяту СССР і УССР, які будуе новы сацыялістычны лад. У артыкуле пад назваю „Крытычныя заўвагі ў нацыянальным пытаньні" (1913 г.) т. Ленін дашчэнту разьбіў нацыяналістычныя погляды, якія ўведзены ў рабочыя шэрагі пад маскаю марксызму і сацыялізму. Паміж іншым, ён дае там адбой Л. Юркевічу, члену ЦК тагачаснае украінскае соцыял-дэмакратычнае партыі, які разгортваў на шпальтах кіеўскага „Дзвону" сваё апартуністычныя погляды у нацыянальным пытаньні. Тав. Ленін піша:

„У разуменьні Юркевіча, дзе аж вельмі многа сапраўдных пэрлаў нацыяналізму, трэба падкрэсьліць наступнае. Меншасьць украінскіх работнікаў,—кажа ён,—нацыянальна сьвядома, большасьць—знаходзіцца яшчэ пад уплывам расійскае культуры".

„Калі гаворыцца за пралетарыят, дык супроцьстаўленьне украінскае культуры цалкам культуры вялікарасійскай, таксама уцалку—азначае найбессаромную здраду інтарэсам пралетарыяту на карысьць буржуазнаму нацыяналізму. Усім нацыянал-сацыялістам адкажам, што у кожным сучасным народзе ёсьць два народы. У кожнай нацыянальнай культуры есьць дзьве нацыянальныя культуры. Есьць вялікарасійская культура Пурышкевічаў, Гучковых і Струвэ, але есьць таксама тая вялікарасійская культура, якую характарызуюць імёны Чэрнышэўскага і Пляханава. Гэткія самыя дзьве культуры ёсьць у украінстве, падобна як і у Нямеччыне, Францыі, Англіі, у яўрэяў і інш. Калі большасьць украінскіх рабочых знаходзіцца пад уплывам вялікарасійскае культуры, дык мы добра ведаем, што, поруч з ідэямі вялікарасійскай папоўскай і буржуазнай культуры, тут дзейнічалі таксама ідэі вялікарасійскае дэмакратыі і сацыял-дэмакратыі. Змагаючыся з „культураю" першага роду, украінскі марксыст заўжды адмяжоўвае другую і скажа сваім рабочым. трэба як мага, усімі сіламі ахапляць, выкарыстоўваць, угрунтоўваць усялякую мажлівасьць узаемаадносін з вялікарасійскім сьвядомым рабочым, з яго літаратураю, з яго кругам ідэй,—гэтага вымагаюць асноўныя інтарэсы як украінскага, так і вялікарасійскага рабочага руху.

„Калі украінскі марксыст паддаецца *цалкам справядлівай і натуральнай агідзе* да вялікарусаў-прыгнятацеляў *у гэткай меры*, што пераносіць на пралетарскую культуру і пралетарскую справу вялікарускіх рабочых хоць-бы частку тэй агіды, хоць-бы толькі адцураньне, дык гэтым самым гэты марксыст скоціцца ў балота буржуазнага нацыяналізму. Таксама і вялікарускі марксыст скоціцца ў балота нацыяналізму—ня толькі буржуазнага, але і чорнасотніцкага,—калі хоць на адзіную хвіліну забудзе пра вымаганьне поўнага раўнапраўя украінцаў, альбо-ж іхнае права стварыць самастойную дзяржаву.

„Вялікарускія і украінскія рабочыя павінны разам, і пакуль жывуць у аднэй дзяржаве, у як мага шчыльным арганізацыйным адзінстве, згуртаванасьці змагацца за агульную, інакш, міжнародную культуру рабочага руху, адносячыся з абсалютнаю цярплівасьцю да пытаньня аб мове, на якой маецца праводзіць прапаганду, і да ўважлівасьці ў тэй прапагандзе да мясцовых ці нацыянальных асаблівасьцяў. Гэта неадменны пастулат марксызму. Усялякая агітацыя за разрозьненьне рабочых аднаго народу з рабочымі другога народу, усялякія напады на марксыцкае „асымілятарства", усялякае супроцьстаўленьне ў пытаньнях, якія датычацца да пралетарыяту, аднэй нацыянальнай культуры ў цэлым іншай, нібы адзінай нацыянальнай культуры і г. д.,—гэта буржуазны нацыяналізм, з якім, бязумоўна, патрэбна бязупынна змагацца". (Том XIX, стар. 47—48).

Даючы рашучы адпор украінскаму нацыяналізму, хоць-бы ён убіраўся ў самыя найчырвоныя кветкі, КПЗУ павінна праводзіць няўхільную, упартую *барацьбу з уплывамі на масы польскага пралетарыяту вялікадзяржаўнага шавінізму сацыял-патрыётаў з ППС* і выразных фашыстаў з-пад сьцягу самога маршала Пілсудзкага. Польская буржуазія, кідаючы польскім рабочым недаедкі са стала польскага імпэрыялізму, даючы польскім рабочым пэўныя ільготы ў параўнаньні з становішчам рабочых украінцаў, яўрэяў, беларусаў, немцаў, імкнецца зьвязаць бадай частку польскага пралетарыяту з буржуазнай дзяржаўнасьцю, зрабіць з яе зброю польскага фашызму і нацыяналізму. Таму якраз КПЗУ і уся КПП павінна праводзіць інтэнсыўную працу, каб аддаліць з пралетарскіх шэрагаў уплывы польскага вялікадзяржаўнага імпэрыялізму. Трэба паступова і сыстэматычна працаваць *над выхаваньнем польскіх рабочых у духу міжнароднага камунізму.* Трэба цалкам правесьці ў жыцьцё пастанову Другога Зьезду Камуністычнае Партыі Заходняе Украіны:

„Польскія рабочыя і сяляне павінны быць выхаваны ў тым сьветапоглядзе, што без пасьлядоўных міжнародных адносін да нацыянальнага пытаньня (у духу ленінізму) ня можа быць і гутаркі пра перамогу пралетарыяту ў гэткай краіне, як Польшча. Толькі пасьлядоўчае правядзеньне ўсею КПП, а асобна яе польскаю часткаю прынцыпу нацыянальнага самавызначэньня дае заруку ў перамозе нацыянальнае разрозьненасьці ў рэвалюцыйным руху Польшчы. З другога-ж боку рабочым і сялянам Заходняе Беларусі і Заходняе Украіны партыя павінна тлумачыць, што бяз супольнае барацьбы з пралетарыятам Польшчы, без рабоча-сялянскага ураду у Польшчы, ня можа быць гутаркі аб іхным сацыяльным і нацыянальным вызваленьні".

Мы павінны цьвёрда памятаць пра словы Леніна, напісаныя ў 1916 г.:

„Цэнтр вагі ў міжнародным выхаваньні рабочых тых краін, дзе прыгнятаюцца іншыя народы, павінен, бязумоўна, знаходзіцца ў прапагандзе і абароне гэтымі рабочымі права прыгнечаных краін на адлучэньне. Маем права і абавязак трактаваць кожнага сацыял-дэмакрата, які не праводзіць гэткае прапаганды, як імпэрыяліста і нікчэмніка.

Гэта неабходная ўмова". (Ленін. „Вынікі дыскусіі аб самавызначэньні". Том XIX, стар. 188).

Рашучы адпор, які ўся партыя дала групе нацыяналістычных рэнэгатаў у найменшай меры, ня можа паслабіць нашае *барацьбы за самавызначэньне прыгнечаных народаў аж да адлучэньня*, за вызваленьне Заходняе Украіны з-пад ярма польскае акупацыі і далучэньне яе да УССР, наадварот,—барацьба з ундо-фашызмам і яго найноўшымі агэнтамі з групы Васількова як найшчыльней зьвязваецца з нашаю барацьбою супроць нацыянальнага ўціску і за далучэньне Заходняе Украіны і Беларусі да савецкага бацькаўскага пню.

Камуністычны Інтэрнацыянал у сваей адозьве справядліва кажа, што „вызваленьне працоўных мас Заходняе Украіны з эканамічнае і нацыянальнае няволі можна мысьліць толькі у братэрскай сувязі з працоўнымі масамі Польшчы і Заходняе Беларусі, пры найшчыльнейшай салідарнасьці з працоўнымі масамі Савецкае Украіны і ўсяго сьвету. Выступаючы супроць Камуністычнага Інтэрнацыяналу, КПП і КП(б)У, група ранейшых членаў ЦК хоча зрабіць удар па рэвалюцыйнаму руху у Заходняй Украіне, аб'ектыўна выступае на шлях здрады і прадажніцтва гэтага руху, становіцца простаю зброяю украінскае контр-рэвалюцыі і польскага фашызму".

У сувязі з новым ходам барацьбы працоўных мас Заходняе Украіны за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне, КПЗУ падносіць, як адно з першаначатковых заданьняў, *як найшчыльнейшае злучэньне рабоча-сялянскага руху на акупаваных украінскіх землях з рэвалюцыйнаю барацьбою пралетарыяту Польшчы і Заходняе Беларусі.* Кожны рабочы і селянін у Заходняй Украіне павінен зразумець, што шлях да вызваленьня і злучэньня з УССР ляжыць праз перамогу над фашысцкаю уладаю у Польшчы, праз супольную барацьбу працоўных мас Заходняе Украіны, Польшчы і Заходняе Беларусі. Мы павінны як мага шырэй папулярызаваць пастанову II-га зьезду КПЗУ, дзе агалашаецца, што: „у дзейнасьці сваей партыя павінна вылучаць асноўны баявы лезунг „соцыялістычная рэвалюцыя і рабоча-сялянскі ўрад у Польшчы". Навакол гэтага лезунгу партыя павінна мабілізаваць у Польшчы працоўныя масы усіх нацыянальнасьцяў, зазначаючы ім, што толькі агульнаю барацьбою за перамогу над буржуазнаю уладаю ў Польшчы можна зьдзейсьніць далучэньне Заходняе Украіны да Украіны Савецкае".

Фашызм атакуе рабочых і сялян шырокім фронтам: ад „ясна-панувкняжат" на Несьвіжы і Дзікаве-Радзівілаў, Тарноўскіх, Любамірскіх, Сапег—аж да сацыялістаў яго маршалкаўскае мосьці і нацыяналістаў з УНДО, УСРП, Сельсаюзу і інш. Гэтаму фронту фашызму трэба супроцьпаставіць шырокі і адначасова аднастойны *анты-фашысцкі блек*, які павядзе да штурму на бастыены фашызму вялізэзную большасьць рабочых і сялян. Кансалідацыя гэтага блеку, кіраваньне яго барацьбою, узмацненьне яго актыўнасьці і баявое гатоўнасьці, пашырэньне яго аддзелаў на штораз большыя масы рабочых і сялян—вось заданьне камуністычнае партыі. А гэта мажліва толькі пры ўмове прытрымліваньня выразнае ленінскае лініі ў шэрагах гэгэмону таго блёку—камуністычнае партыі і прасякненьня ўсіх яго аддзелаў разуменьнямі неабходнасьці супольнае барацьбы за перамогу над фашызмам, за рабоча-сялянскі ўрад.

Накіроўваючыся да як найшчыльнейшага злучэньня барацьбы працоўных мас Заходняе Украіны з барацьбою пралетарыяту ўсяе Польшчы, камуністычная партыя павінна *пераносіць заданьні, якія тычацца да Заходняе Украіны, на глебу Польшчы і Беларусі і—наадварот.*

Ня можа быць жаднае значнае праявы барацьбы рабочых і сялян Заходняе Украіны, якая-б не знайшла сабе водгуку ў шэрагах пралетараў польскіх, беларускіх, яурэйскіх і нямецкіх, падобна, як і ўсе тое, што ўздымае і мабілізуе да бою працоуны народ усяе Польшчы, павінны адразу падхапіць аддзелы пралетарскае арміі, якія змагаюцца на заходня-украінскім фронце.

Уласна кажучы, у гэтай галіне багата застаецца яшчэ зрабіць. Далёка яшчэ нам да праўдзівае канцэнтрацыі барацьбы працоўных мас усіх народнасьцяў, якія знаходзяцца пад Польшчаю. Праўда, за апошні час бачым даволі значны поступ (напрыклад, акцыя ў справе Грамады). Але наогул, можна сказаць, тое, што робіць партыя ў справе адзінства барацьбы, не адпавядае а ні вялікасьці заданьня, а ні мажлівасьцям і сілам самое партыі. Досыць, напрыклад, адзначыць, што акцыя ў справе дапамогі ахвярам вададеньня ў Заходняй Украіне не знайшла сабе належнага падтрыманьня ў партыйных арганізацыях Польшчы і Заходняе Беларусі. Гэта самае можна было-б сказаць і пра тое, як уся партыя рэагавала на масавыя палітычныя працэсы, напрыклад, працэс 151 у Уладзіміры-Валынскім, працэс 57 у Луцку і г. д. З другога боку, значныя падзеі ў рабочым і сялянскім руху ў Заходняй Беларусі і Польшчы адбываліся без належнага водгуку працоуных мас, а у першую чаргу камуністычнае партыі Заходняе Украіны (даволі успамянуць пра разгром НПХ, пра вялікую земляробчую забастоўку і інш.).

Неабходная ўмова кансалідацыі ўсіх рэвалюцыйных сіл у Польшчы — *жалезнае адзінства шэрагаў камуністычнае партыі.* Пастановы II-га зьезду КПЗУ кажуць так:

„Сацыялістычная рэвалюцыя у Польшчы можа быць справаю толькі працоуных мас усіх нацыянальнасьцяў Польшчы як нацыянальнасьці пануючае, так і прыгнечаных нацыянальнасьцяу; вось-жа, перад камуністычнаю партыяю Польшчы і усімі яе арганізацыямі ва усей гастраце паўстае патрэба як найбольш зьяднаць свае шэрагі, надаць партыі маналітны характар і скаардынаваць працу. Маючы на вачох гэтую мэту, мы павінны праводзіць няухільную барацьбу з усялякімі тэндэнцыямі, якія становяцца перашкодай да маналітнасьці партыі, уносячы ў партыйныя шэрагі раскол і ўзаемнае недавер'е".

Якраз цяпер, у сувязі з раскольніцкаю працаю нацыяналістычных рэнэгатаў, трэба ня толькі ўзмацняць адзінства шэрагаў КПЗУ, але таксама *ўзмацніць сувязь КПЗУ з усёю КПП.*

Уся партыя павінна прымаць удзел у вырашэньні заданьняў, якія стаяць на парадку дня партыйнага жыцьця і рабоча-сялянскага руху наогул. У незваротнае мінулае павінны адыйсьці арганізацыйныя мэтады групы Васількова -Туранскага, якая імкнулася ўкараніць у партыі мэтад „слушать и не рассуждать", лічыла партыю сваею асабістаю ўласнасьцю, забывалася, што партыя—гэта вялікі калектыў, а ня група́ка. Асноўны прынцып арганізацыйнае пабудовы камуністычных партый — дэмакратычны цэнтралізм трэба праводзіць ва усёй яго паўнаце.

Трэба таксама ўзмацніць *сувязь КПЗУ з міжнародным рабочым рухам.* Растлумачваючы партыі і працоўным масам, наогул факт пераходу групы Васількова—Туранскага ў лягер нашых клясавых ворагаў, трэба растлумачваць, як на грунце частковай стабілізацыі капіталізму ўкрадаюцца ў рабочы рух розных краін настроі няверʼя і сумненьняў у адносінах да справы сацыяльнае рэвалюцыі, а гэтымі настроямі пажыўляюцца дробна-мяшчанскія гурткі рэнэгатаў-ліквідатараў, якія аздабляюць свой апартунізм левымі сказамі (трацкізм).

Найлепшая забясьпека партыі ад усялякіх ухілаў—узмацненьне сувязі партыі з прамысловым пралетарыятам. Націск дробна-мяшчанскае стыхіі—вось што найчасьцей зводзіць камуністычныя партыі альбо паасобныя іх часткі з рэвалюцыйнага ленінскага шляху. Так і адхіленьне з шляху камунізму ранейшае кіраўнічае групы ЦК КПЗУ мае сваею крыніцаю у першую чаргу тое, што гэтая група, вышаўшы з лягеру нацыяналістычнага, дробнага мяшчанства, надзвычайна слаба была зьвязана з буйна-прамысловым пралетарыятам.

Пашырэньне працы сярод прамысловага пралетарыяту—вось адно з галоўных заданьняў партыйнае арганізацыі ў цяперашні час. На першы плян павінна стаць *праца сярод рабочых асноўных галін прамысловасьці ў Заходняй Украіне*, інакш кажучы, сярод мэталістаў, нафтавікоў, сталяроў, дрэваапрацовачнікаў, сярод чыгуначнікаў і рабочых гарадзкіх прадпрыемстваў (электрычных станцый і т. д.). Заўсёды трэба памятаць, што першае заданьне партыі ў кожнай партыйнай акрузе—гэта стварэньне арганізацыйнае базы сярод мясцовых рабочых. Як спэцыяльнае заданьне, стаць перад партыяй *пашырэньне партыйнае працы сярод польскіх і яўрэйскіх рабочых*,—тае працы, якую запамятала і недаацэньвала група Васількова–Туранскага. Узмацненьне працы сярод прамысловых рабочых дасьць партыі магчымасьць шырока зьдзейсьніць дырэктыву Камінтэрну пра большы, чым цяпер, удзел у партыйным кіраўніцтве пралетарскіх элемэнтаў.

Камуністычная партыя павінна знайсьці сьцежку да кожнага рабочага варштату і на кожнай фабрыцы закласьці свой асяродак, павінна *стаць на чале штодзённае барацьбы рабочых мас за свой побыт*, супроць капіталістычнага уціску і фашысцкага урадавага тэрору. Усё гэта немагчыма зрабіць без *інтэнсыўнае працы ў галіне прафэсыянальнага руху*. Пашырэньне нашых уплываў у прафэсыянальных саюзах, арганізацыя саюзаў там, дзе іх няма (між іншым, саюзаў сельска-гаспад. рабочых), выжываньне з прафэсыянальнага кіраўніцтва сацыял-згодніцкіх паслугачоў фашысцкага ураду, арганізацыя ў саюзах сапраўды дзейных чырвоных фракцый,—гэтыя заданьні у цяперашняй сітуацыі набіраюць асаблівае вагі. За працу над іх выкананьнем павінна узяцца уся партыя.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на уцягненьне у *прафэсыянальныя саюзы украінскіх рабочых*, бо яны у пераважнай сваей масе стаяць па-за прафэсыянальным рухам, а гэта палягчае нацыяналістычным элемэнтам з-пад штандараў ундо-радыкалізму магчымасьць рабіць на іх уплыў. Партыя павінна паставіць сабе, між іншымі, заданьне уцягнуць у прафэсыянальны рух украінскіх рабочых, параскіданых па вёсках нафтавага раёну,—тых, што на выбарах у Сойм галасавалі за сьпіс „рабоча-сялянскага адзінства“.

Заданьне гэта можна пасьпяхова выканаць толькі у тым разе, калі ў галіне прафэсыянальнага руху мы будзем праводзіць нязьмірную барацьбу з польскім шавінізмам бюракратаў з ППС, якія ствараюць з прафэсыянальных саюзаў дапаможны орган каленізацыі, а сваей нацыяналістычнай палітыкай атручваюць рабочых-украінцаў.

Каб прыцягнуць больш шырокія колы украінскіх рабочых у прафэсыянальныя саюзы, бязумоўна патрэбна найшчыльнейшае супрацоўніцтва Прафэсыянальнага Аддзелу з Аддзелам Зямельным, бо ён мае непасрэдны кантакт з многалікімі масамі рабочых і беспрацоўных, якія знаходзяцца ў вёсцы.

Падвойваючы нашу працу сярод пралетарыяту, мы павінны адначасова аддаць максімум увагі *працы на вёсцы*, сярод зямельных рабочых і многамільённых мас безьзямельных, малазямельных сялян і сялянсераднякоў. Вельмі важная рэч — канкрэтызаваньне нашае працы ў

вёсцы, прыстасаваньне яе да штодзённых бед сялянства і зямельнага работніцтва. У нашай дзейнасьці мы павінны прышчапляць селяніну прынцыпы рабоча-сялянскага саюзу, разуменьне ролі пралетарыяту, як гэгэмона сацыяльнай рэвалюцыі. Шырокія працоўныя масы вёскі павінны зразумець, і да гэтага мы павінны накіроўвацца, што селянін ня мае зямлі, бо рабочы ня мае ўлады; а з другога боку, мы павінны як найшырэй распаўсюдзіць у рабочых масах тую ісьціну, што без прыцягненьня да актыўнага ўдзелу ў барацьбе сялянскіх мас немагчыма пераможная сацыяльная рэвалюцыя.

Асаблівую ўвагу трэба аддаць узмацненьню і пашырэньню нашых уплываў *у арганізацыях, дзе гуртуюцца сялянскія масы* (каапэратывы, асьветныя гурткі, лігі і інш.), на правядзеньне там выразнае клясавае лініі і мабілізаваньне вакол яе шырокіх мас для няўхільнае барацьбы са згодніцкім ундо-радыкальным кіраўніцтвам гэтых арганізацый.

Узмацненьне, пашырэньне, кансалідацыя антыфашысцкага блёку есьць асноўная перадумова,—якая вызначае нашую палітыку *ў адносінах да Сельробу*. Рашуча перамагаючы нацыяналістычную і апартуністычную лінію Казіцкіх і Крайкоўскіх, мы павінны выявіць, што сапраўдная барацьба з фашызмам мажліва толькі на грунце выразнае клясавае лініі. Крайкоўскія штораз усе больш спадаюць па напрамку да ундо-фашызму, але масы, дагэтуль яшчэ згуртаваныя у правіцы Сельробу, шчыра імкнуцца да рэвалюцыйнае барацьбы за рабоча-сялянскі ўрад, за самавызначэньне, аж да адлучэньня. Крайкоўскія, цягнучыся штораз далей шляхам нацыяналізму і згодніцтва, імкнуцца не дапусьціць поўнае ліквідацыі расколу ў сельробаўскім руху, але сельробаускія масы, разумеючы неабходную патрэбу супроцьставіць фашызму злучаны рабоча-сялянскі фронт, чым далей, у большым ліку ідуць і будуць ісьці пад штандары рабоча-сялянскага адзінства.

Нацыяналістычная групоўка Васількова—Туранскага імкнецца унесьці раскол і разрозьненасьць у аддзел арміі, якая змагаецца з фашызмам.

Аднак, нацыяналістычным раскольнікам не дапаможа убіраньне ў зашмальцованае адзеньне ашуканскага „левага“ сказу. Не дапамогуць брахня і паклепы, несправядліва кіданыя па адрасу КП(б)У і КПП. Не дапаможа і шуканьне падпоры і дапамогі ад фашыстаў.

Прэч з рукамі!—Вось адказ, які працоўныя масы далі нацыяналістычным рэнэгатам у часе выбараў у Сойм. Поўнасьцю вылучыць з рабоча-сялянскага руху раскольнікаў, агентаў фашызму і Ўндо гэтае заданьне рэвалюцыйныя рабочыя і сяляне Заходняе Украіны выканаюць да канца.

*(Канец).*

Ул. Хруцкі

# Да пытаньня аб індустрыялізацыі Індыі

Хуткі тэмп разьвіцьця прамысловасьці індыі, які меў месца ў ваенныя і пасьляваенныя гады, прымусіў некаторых індыйскіх і ангельскіх таварышоў зрабіць вынікі аб „новым курсе“ ангельскага імпэрыялізму ў Індыі, які грунтуецца ў дэкалёнізацыі гэтае асноўнае ангельскае калёніі. Наибольш яскрава гэта было выказана М. Роем: „якія галоўныя патрабаваньні нацыяналістычнае буржуазіі? Яны вядуць да трох палажэньняў: індустрыялізацыі краіны, фіскальнае аўтаноміі і мытніцкае апекі. Усе гэтыя запатрабаваньні былі задаволены ў зьвязку з тым, што брытанскі капіталізм імкнуўся перамагчы пасьляваенны крызіс шляхам перабудоўлі эканамічнага базісу імпэрыі“ (М. Рой. „Будущее индийской политики“ 1926 г., ст. 33) і РП Даттом: „Новая палітыка ставіць сваею задачаю індустрыялізацыю Індыі пад брытанскім кантролем і для прыбыткаў брытанскіх укладчыкаў“ (Р. П. Датт „Вопросы индийской революции“. 1927 г., ст. 9) і яшчэ „Цяпер прамысловае разьвіцьце Індыі складае краякутны камень палітыкі брытанскага ўраду“ (там-жа, ст. 30.).

У далейшым гэты пункт погляду зьявіўся на VI кангрэсе Камуністычнага Інтэрнацыяналу у вядомай дыскусіі на гэтую тэму. Комплекс поглядаў, якія разьвіты прыхільнікамі „тэорыі дэкалёнізацыі“ на VI Кангрэсе Камінтэрну, прышоу у асноўным да наступнага:

1 Спроба зацьвердзіць тэорыю, па якой аграрныя калёніі ў эпоху фінансавага капіталу робяцца аб'ектам індустрыялізацыі.

2. Адмаўленьне ацэнкі калёній, як аграрнага прыдатку сусьветнага капіталізму („Міровая деревня“) і

3. Сьцьверджаньне, што ангельскі капітал праводзіць індустрыялізацыю Індыі.

Пададзеныя тры палажэньні зьяўляюцца: 1. Тэарэтычным абгрунтаваньнем дэкаленізацыі; 2--выцякае з яго пазыцыя, якая занята прыхільнікамі гэтае тэорыі пры выпрацоўцы тэзісаў па каленіяльнаму пытаньню, і 3 —тым эмпірычным сьцьверджаньнем, якое на жывым прыкладзе Індыі павінна было-б паказаць правільнасьць тэорыі, якая разглядаецца. Затым у першую чаргу мы пачынаем з разгляду становішча ў Індыі.

---

Сусьветная вайна і выкліканыя ёю эканамічныя зьмены (парушэньне сусьветнага таваразвароту, зьмяншэньне ангельскае канкурэнцыі і г. д.), а таксама і шэраг уступак, на якія павінна была пайсьці ангельская буржуазія перад рэвалюцыйным рухам, што разгортваецца у Індыі (ліберальныя рэформы Монтэгю-Чэльмсфорда), спрыялі буйному разьвіцьцю індыйскае прамысловасьці. Гэта разьвіцьцё праявілася у павялічэньні прадукцыі тэкстыльнае прамысловасьці, росьце здабытку вугалю і жалеза, павялічэньне даўжыні чыгуначнае сеткі і росьце ліку прамысловых прадпрыемстваў і занятымі ў іх рабочымі,

*Табліца № 1*

| Гады | Выпуск | |
|---|---|---|
| | Пражы (тыс. квінт) | Тканіны (тыс. ярд) |
| 1912 | 5581 | 1136152 |
| 1923 | 6302 | 1725218 |

*Табліца № 2*

| Гады | Здабыта вугалю (у тыс. тон) |
|---|---|
| 1912-13 | 16208 |
| 1920-21 | 19302 |
| 1921-22 | 19011 |
| 1922-23 | 19658 |
| 1923-24 | 21000 |

*Табліца № 3*

| Гады | Прадукцыя мэталяў (тоны) |
|---|---|
| 1913 | 370845 |
| 1924-25 | 1502000 |
| 1925-26 | 1666000 |
| 1926-27 | 1860000 |

*Табліца № 4*

| Гады | Даўжыня чыгун. сеткі (у мілях) |
|---|---|
| 1911 | 33000 |
| 1921 | 37000 |

*Табліца № 5*

| Гады | Лік фабрык | Занята ў іх рабочых (мільёны) |
|---|---|---|
| 1911 . . . . . . | 7113 | 2,5 |
| 1921 . . . . . . | 15606 | 4,5 |

што справаджаецца такімі паказальнікамі высокае прамысловае кан'юктуры, як узмоцнены прыцек новых укладаў у прамысловыя прадпрыёмствы і падвышэньне індэксаў прамысловых папераў.

*Табліца № 6*

Дынаміка ўкладаў індыйскага капіталу.

| Гады | 1914 | 1917 | 1918 | 1919 | 1920 |
|---|---|---|---|---|---|
| | (У процантах) | | | | |
| Урадав. паперы . . . | 100 | 70 | 67 | 74 | 62 |
| Банкі . . . . . . . | 100 | 106 | 112 | 116 | 137 |
| Муніц. пазыкі . . . . | 100 | 89 | 84 | 84 | 81 |
| Джут. фабрыкі . . . | 100 | 311 | 467 | 383 | 568 |
| Бавaўн. папяр. фабрыкі. | 100 | 132 | 162 | 167 | 386 |
| Шарсьцян. фабрыкі . | 100 | 106 | 125 | 125 | 187 |
| Вугольныя кап. . . . | 100 | 136 | 134 | 157 | 149 |
| Чайныя плянтацыі . . | 100 | 137 | 125 | 123 | 136 |
| Мукамольн. справу . | 100 | 137 | 206 | 238 | 406 |
| Жалеза і сталь . . . | 100 | 332 | 295 | 284 | 207 |

*Табліца № 7*

| ГАДЫ | Паперы, якія прыносяць цьвёрды % | Прамысловыя паперы. |
|---|---|---|
| | (У процантах) | |
| 1914 | 100 | 100 |
| 1915 | 96 | 101 |
| 1916 | 87 | 130 |
| 1917 | 73 | 158 |
| 1918 | 74 | 194 |
| 1919 | 77 | 216 |
| 1920 | 65 | 313 |
| 1921 | 65 | 311 |
| 1922 | 63 | 267 |
| 1923 | 72 | 176 |
| 1924 | 71 | 151 |

Пасьляваенны прамысловы ўздым бліжэйшым чынам адбіўся таксама на павялічэньні індыйскага прамысловага экспарту

*Табліца № 8*

| Гады | Прамысловы экспарт у % да ўсяго экспарту |
|---|---|
| Да вайны | 23,1 |
| 1926-27 | 28,3 |

*Табліца № 9*

| Гады | Мэтал.-экспарт (у тонах) |
|---|---|
| Да 1921 г. | 127000 |
| 1926-27 г. | 382000 |

і скарачэньні прамысловага імпарту з іншых дзяржаў, пры чым у першую чаргу з Англіі.

*Табліца № 10*

| Гады | Прам. імпарт у % да ўсяго імпарту | Імпарт жалеза і сталі (у тонах) |
|---|---|---|
| Да вайны | 76,6 | 1028000 |
| 1926-27 г. | 72,8 | 750000 |

*Табліца № 11*

| Гады | Доля Англіі | |
|---|---|---|
| | У гандлю жалезам і стальлю | Ва ўсім індыйскім імпарце |
| Да вайны | 59,8% | 64,1% |
| 1926-27 г. | 50,0 „ | 47,8 „ |

Прыведзеныя лічбы досыць красамоўна гавораць аб тым, што Індыя у выніку вайны ня толькі кампэнсуе скарачэньне ангельскага прамыслoвага імпарту, але і выступае ўжо ў якасьці канкурэнткі Англіі ў шэрагу галін. Колькі-небудзь адчуваных вынікаў для ангельскае прамысловасьці гэта канкурэнцыя зрабіць не магла, дзякуючы параўнаўча невялікае колькасьці прамысловае прадукцыі Індыі (выключаючы тэкстыль), але большыя патэнцыяльныя магчымасьці, якія закладзены ў індыйскай прамысловасьці, яе высокая прыбытковасьць і пэрспэктывы росту ўкладаў капіталаў, ставілі пад пагрозу бліжэйшую будучыню брытанскае прамысловасьці і прымушалі Манчэстэрскіх фабрыкантаў і прадстаўнікоў цяжкое індустрыі, якая усё ўзмацняецца, з трывогаю

пазіраць у будучыню. У выніку брытанскі імпэрыялізм, у асобе кансэрвацыйнага ўраду Балдуіна-Біркэнхэда, абрушваецца на Індыю з палітыкаю задушыць яе прамысловае разьвіцьцё. Вось далёка няпоўны пералік авантур цьвёрдалобых кансэрватараў, якія праводзяць палітыку брытанскага імпэрыялізму, што заключаецца ў тым, каб задушыць індыйскую прамысловасьць:

1. Біль аб валюце штучна ўзьнімае на вонкавым рынку курс рупіі і, такім чынам, падаражае індыйскі экспарт на 12 проц., як сказаць іншымі словамі, на корані падрывае індыйскі экспарт, а бязумоўна і капіталанакапленьне.

2. Біль аб прывілегаваным тарыфу для брытанскага мэталёімпарту, што забівае індыйскую мэталургію, якая разьвіваецца.

3. Палітыка аддачы перавагі ангельскай прадукцыі перад індыйскай для чыгунак Індыі.

4. Увядзеньне апекавальнага тарыфу на ацынкованае жалеза.

5. Адмаўленьне ў стварэньні „Імпэрскага Камітэту Прамысловасьці".

6. Адмаўленьне ў дапамозе новым прадпрыёмствам.

7. Адмаўленьне ў падтрыманьні старых прадпрыемстваў, якія раней субсыдаваліся ўрадам.

8. Увядзеньне акцызу на запалкі.

9. Палітыка абмежаваньня прадукцыі тэкстыльнае прамысловасьці Індыі выпрацоўкаю грубых гатункаў пражы і тканіны і г. д.

Біль аб валюце, штучна ўзьняўшы курс рупіі да 1 шылінгу 6 пэнсаў, зьявіўся тым рашучым ударам ангельскага імпэрыялізму па прамысловым разьвіцьці Індыі, які адразу падрэзаў індыйскі экспарт і дэзарганізаваў прамысловасьць, выклікаўшы жорсткую дэпрэсію ўсяго эканамічнага жыцьця краіны, якая ня спыняецца і па гэты дзень.

Падвышэньне цэн на 12,5% выклікала скарачэньне закупак індыйскае сталі і жалеза Амэрыкаю на 74%, Нямеччынаю—на 62,9%, скарачэньне экспарту марганца на 50%, хрому—на 40% і вугалю на 82%, калі параўнаць з даваенным часам. Рэзкае скарачэньне рынкаў для індыйскае прамысловасьці выклікала ў сваю чаргу скарачэньне вытворчасьці адпаведных галін, а апекавальныя мерапрыемствы ураду (Біль аб апекаваньні брытанскага імпорту мэталяў), адмаўленьне ў субсыдыях індыйскім прадпрыёмствам яшчэ ўзмацнілі гэтыя тэндэнцыі, прыводзячы частку да зруйнаваньня, а частку паставіўшы перад пэрспэктываю зруйнаваньня і ліквідацыі, большасьць буйнейшых прадпрыёмстваў Індыі. Ліквідаваліся: „Поўвысьпяная паравозабудаўнічая кампанія", „Паўднёва-Індыйскія чыгуначныя майстэрні", „Кампанія вытворчасьці сталёвага дроту" і шэраг іншых больш дробных канцэрнаў. Перад пэрспэктываю зруйнаваньня апынулася друкарска-літэйная вытворчасьць, цэмантная прамысловасьць. Ліквідуюцца ўсё новыя і новыя прадпрыёмствы ў баўнянай, скуранай і некаторых іншых галінах. У выніку становішча, якое стварылася, мы бачым падзеньне прамысловых акцый:

*Табліца № 6*

| | |
|---|---|
| „Тата-Айрэн Уоркс" (буйнейшае мэтал. прадпрыём. Індыі з 55 тыс. рабочых) | са 100 рупій за акцыю да 53 |
| „Кампанія вытвор. стальн. вырабаў | да 8 рупій |
| „Руса Энджынірынг" | да 19 „ |
| „Кумардубі Энджынірынг" | да 42 „ |

і адліў капіталаў з прамысловасьці ў гандаль, банкоўскую справу і арганізацыю пазыковых кампаній па выдачы дробных пазык (таб. 12-13).

*Табліца № 12*

З ліку зарэгістраваных акцыянэрных кампаній даводзілася:

| | 1921 г. | 1927 г. |
|---|---|---|
| | У процантах | |
| Прамысловых . . . | 55 | 14 |
| Банкі і крэдыт. т-вы. | 25 | 47 |
| Гандлёвыя прадпр. . | 18 | 39 |
| Іншыя . . | 2 | — |

*Табліца № 13*

| Гады | 1914 | 1921 | 1922 | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Індэкс капіталаў зарэгістраван. кампаній за кожны год . . . | 100 | 221 | 121 | 51 | 40 | 31 | 45 | |
| Індэкс зарэгістраваных кампаній | 100 | 292 | 201 | 139 | 124 | 115 | 133 | 151 |

Пагубныя вынікі валютнае палітыкі брытанскага імпэрыялізму адбіліся таксама і у галіне экспарту раней танных бавоўны і пшаніцы, скарацушы вываз бавоўны ў параўнаньні з 1926 г. на 110.000 тон і прывеушы да скарачэньня плошчы пасеваў з усімі вынікамі, якія выходзяць адсюль: удару па сялянстве, уплыў на ахоп унутранага рынку. Замест вывазу таннае бавоўны ў Амэрыку і Японію, Індыя пачынае прывозіць яго з Амэрыкі (табл. 14).

*Табліца № 14*

| Гады | Увоз хлапка з Амэрыкі (у тонах) |
|---|---|
| 1926 год (1-я палова) | 13 000 |
| 1927 год (1-я палова) | 243 000 |

Экспартны гандаль галоўнейшых партоў вывазу бавоўны і пшаніцы Калькуты і Бамбэя скарачаюцца, першага на 13 проц. і другога— на 31 проц. Добрае сальдо гандлёвага балянсу Індыі зьмяншаецца на 361 мнл. рупій.

Пададзеных лічбаў і фактаў досыць для таго, каб з поўнаю ўпэўненасьцю адкінуць сьцьвярджэньне аб індустрыяльнай палітыцы брытанскага імпэрыялізму ў Індыі і наадварот прызнаць, што гэта палітыка грунтуецца ў тормазе і зруйнаваньні індыйскага прамысловага разьвіцьця ў мэтах адбудаваньня пахіснутага вайною індыйскага рынку для збыту ангельскае прамысловае прадукцыі.

Але можа быць тут справа ня толькі ў сучаснай палітыцы ангельскага імпэрыялізму, можа быць папярэднія гады ангельскага ўладарства і асабліва лібэральнага кіраўніцтва індустрыялізавалі Індыю? Зьвернемся да фактаў: прыведзеныя лічбы (табл. 1—5) кажуць толькі аб росьце бавоўняна-папяровае вытворчасьці, здабычы руды і вы-

плаўцы мэталяў, якія характарызуюць прамысловае разьвіцьцё Індыі ў ваенныя і пасьляваенныя гады, і досыць прачытаць наступнае азначэньне індустрыялізацыі, дадзенае тав. Сталіным: „перарабіць нашу краіну з аграрнае ў індустрыяльную, здольную вытвараць сваімі ўласнымі сіламі неабходнае абсталяваньне,—вось у чым сутнасьць, аснова нашае гэнеральнае лініі. Мы павінны паставіць справу так, каб думкі і імкненьні гаспадарнікаў былі накіраваны ў гэты, менавіта, бок, у бок абяртаньня нашае краіны з краіны, якая ўвозіць абсталяваньне ў краіну, якая вытварае гэтае абсталяваньне. Бо ў гэтым гарантыя таго, што наша краіна ня будзе абярнута ў прыдатак капіталістычных краін. („Сталін—з справаздачы на XV зьезьдзе“), як нам стане зусім яскравым, што прамысловае разьвіцьцё Індыі, якое наглядалася за апошнія 10—15 год, не зьяўлялася тым індустрыяльным разьвіцьцем, якое вызваляе краіну ад эканамічнае залежнасьці і грунтуецца на разьвіцьці вытворчасьці і сродкаў вытворчасьці. Затым па карані памылковай зьяўляецца спроба абгрунтавацца прызнаньнем індустрыялізацыі ў Індыі, захаваны тэзіс аб пераабяртаньні калёніі ў дамініен, што, па думцы прыхільнікаў „Тэорыі дэкаленізацыі“, мабыць павінна азначаць палітыка-эканамічную незалежнасьць.

### Аб ролі экспарту капіталаў.

Сутнасьць поглядаў, якія разьвіты прыхільнікамі „тэорыі дэкалёнізацыі“, дайшла да сьцьвярджэньня, што капітал, які разьмешчаны ў калёніях у пагоні за прыбыткам, індустрыялізуе гэтыя калёніі. „Калі параграф 6 тэзісаў гаворыць аб абяртаньні калёній у крыніцу таннага харчаваньня і сыравіны для капіталістычных краін, дык гэта верна толькі у адносіне да першых стадый капіталізму і зусім няправільна ў *эру* імпэрыялізму, экспарту капіталу і *індустрыялізацыі* некаторых краін, якія служылі раней крыніцамі сыравіны“. І далей, аспарваючы палажэньне аб тэндэнцыях буйных імпэрыялістычных дзяржаў, прыстасоўваць калёніі да запатрабаваньня уласнае прамысловасьці. „Між тым, Ленін у сваей кнізе аб імпэрыялізьме менавіта паказваў прызначэньне ў эру фінансавага капіталу, разьмяшчэньне капіталу ў калёніях у здагоне за больш высокім прыбыткам, гэта цягне за сабою працэс індустрыялізацыі калёніі. („Ротштэйн—з прамовы на VI Кангрэсе“).

Больш правільнае марксыцкае азначэньне дадзена тав. Даттам, які адзначае, што Англія ня можа прыпыніць няунікненую індустрыялізацыю Індыі і таму хоча ўзяць яе у свае рукі для таго, каб выкарыстаць яе для свае ўласнае выгады. („Бэннэт—з прамовы на VI Кангрэсе)“.

„Памойму, абяртаньне аграрных калёній у аб'екты індустрыялізацыі зьяўляюцца адным з законаў эпохі імпэрыялізму („Кокс—з прамовы на VI кангрэсе)“ і ішла па лініі крытыкі калёніяльных тэзісаў, якія прапанаваны кангрэсу“.

„Тэзісы кажуць аб палітыцы клясычнага капіталізму ў калёніях, калі апошнія былі крыніцамі сыравіны, зьяўляліся аграрным прыдаткам, але цяпер у эру фінансавага капіталу гаворка павінна ісьці аб новай форме калёніяльнае палітыкі імпэрыялізму, тэзісы даюць няправільны гістарычны аналіз і няверны малюнак сучаснага становішча ў калёніях, яны ня ўмеюць ўжыць і модыфікаваць законы Маркса да новае эпохі фінансавага капіталу і экспарту, капіталу як спэцыфічнае адзнакі яе. Замест дыялектычнага мэтаду яны прыбягаюць да эклектыкі“. (З прамоў Бэннэта, Родштэйна, Гэллера і Кокса на VI Кангрэсе).

І далей прыхільнікі „новае тэорыі“ спрабавалі цытатаю з Маркса і не абгрунтаванымі спасылкамі на Леніна (бо Ленін нідзе не гаворыць аб

індустрыялізацыі калёній ва ўмовах капітал. імпэрыялізму) абгрунтаваць няўнікненасьць індустрыялізацыі калёній. Зьвернемся да гэтае-ж цытаты: „Калі хутка ў сыстэму шляхоў зносін краіны, якая мае вугаль і жалеза, уведзены машыны, дык ужо немагчыма затрымаць яе разьвіцьця. Чыгуначная сыстэма Індыі папярэднічае ўзьнікненьню сучаснае прамысловасьці. („Маркс, з „Нью-Іорк-Дэйлі Трыбюн". 1853 год").

Ці можна зрабіць з гэтае цытаты вывад, што Маркс тут гаворыць аб індустрыялізацыі Індыі? Не, ні ў якім разе, бо гэта супярэчыла-б усёй рэвалюцыйнай сутнасьці Марксавага вучэньня.

Варта толькі зьвярнуць увагу на дату Марксавага артыкулу (1853 г.), як нам стане ясным, што тут гаворка можаісьці толькі аб пераходзе да плянамернае капіталістычнае эксплёатацыі, якая зьвязана з вядомым ростам вытворчых сіл (пабудова дарог), такім чынам, і пад выразам: „узьнікненьню сучаснае прамысловасьці" трэба разумець не прадбачваньне Марксам на 75 год уперад індустрыялізацыі Індыі, а паказаньне на капіталістычнае разьвіцьцё Індыі, штуршок, якому дае пабудова дарог. Але гэтага разьвіцьця не адкідае ніхто, яго адзначаюць і тэзісы Камінтэрну (§ 1), аб ім піша і Гільфэрдынг, які не спаткаў у гэты час, як вядома, супярэчаньняў у Леніна.

„Раней адчыненьне новых калёній і рынкаў адзначала раней усяго адчыненьне новых сродкаў спажыцьця; насупроць, у сучасны час новы капітал зьвяртаецца, галоўным чынам, да тых галін, якія даюць сыры матар'ял для прамысловасьці. Аднача́сова з пашырэньнем айчызнавае прамысловасьці, якая абслугоўвае патрабаваньні экспарту капіталу, экспартаваны капітал зьвяртаецца да вытворчасьці сырых матар'ялаў для гэтае самае прамысловасьці". (Гільфэрдынг, фінансавы капітал, ст. 357).

„Пакуль экспарт капіталу у сутнасьці служыў таму, каб у адсталай краіне, папершае, стварыць сыстэму транспарту і, падругое, разьвіцьпрамысловыя галіны, якія вытвараюць сродкі спажыцьця, ён паскараў капіталістычнае разьвіцьцё гэтае краіны" (Гільфэрдынг, фінансавы капітал).

Яго пацьвярджае і жывая сапраўднасьць тэй-жа Індыі, у поўнай згодзе з прагнозам Маркса, якая разьвівае капіталістычную прамысловасьць па здабытку прамысловае сыравіны і вытворчасьці паўфабрыкату. Але зьвернемся да лічбаў: Гэорг Пэйш у выніку досьледу дынамікі экспарту капіталу дае для Індыі з Цэйлонам наступныя лічбы:

*Табліца № 15.*

### Замежныя ўклады ў Індыі.

(у тыс. фунтаў стэрлінгаў).

| | | |
|---|---|---|
| Урадавыя пазыкі | 178995 | 92% |
| Чыгункі | 136519 | |
| Чай і кофэ | 19644 | |
| Муніцыпальныя | 3522 | |
| Банкі | 3400 | |
| Гандлёва-Прамысловыя ўстановы | 2467 | |
| Электрычнасьць (асьвятленьне і энэргія) | 1763 | |
| Фінансаваньне і ўклады ў С-Г | 1853 | |
| Газа і вадаправоды | 659 | |
| Жалеза, вугаль і сталь | 803 | |
| Руднікі | 3531 | |
| Аўтотранспарт | 90 | |
| Нафта | 3184 | |
| Гума | 4610 | |
| Тэлеграф і тэлефон | 43 | |
| Трамваі | 4136 | |
| | 365219 | |

Лічбы зусім абвяргаюць новаствораную тэорыю індустрыялізуючае ролі экспарту капіталу. Але гэтыя сумарныя лічбы і можа быць дынаміка гадавых інвэстыцый пакажа нам іншы малюнак?

*Табліца № 16.*

| Гады | Ангельск. Інвэстыцыі У Індыю і Цэйлон (у тыс. фун. стэрл.). |
|---|---|
| 1911-13 (сярэд) | 1398 |
| 1924 | 5375 |
| 1925 | 3257 |
| 1926 | 1597 |
| 1927 | 876 |

Не! з году ў год сума ўкладаў, якая прагрэсыўна зьмяншаецца, не дае да гэтага падстау.

Эклектыкамі, якія ня ўмеюць прыстасаваць законы Маркса да новае эпохі, такім чынам зьявіліся ніхто іншы, як нашы „дэкалёнізатары", якія робяць сваім сцьвярджэньнем індустрыялізацыі досыць грубую памылку.

У сьвеце разгледжаных фактау становіцца яскравым памылковасьць адмаўленьня калёній, як аграрнага прыдатку, як „сусьветнае вёскі".

Самі таго не прыкмячаючы, таварышы тут нападаюць у Марксавую клясыфікацыю грамадзкага падзяленьня працы у выглядзе „агульнага" падзяленьня, якая ужываецца на вялізарнай пашыранай аснове сусьветнае гаспадаркі. (Маркс, „Капітал", том I, ст. 262. Бухарын „Империализм и мировое хозяйство", изд. Пролетарий, 1923 год, разьдзелы, якія трактуюць аб дыспрапорцыянальнасьці разьвіцьця).

Які-ж вынік мы можам зрабіць пасьля разгляду асноўных палажэньняў „тэорыі дэкалёнізацыі" на індыйскім прыкладзе. Першае запытаньне, якое у гэтым выпадку мы павінны былі-б сабе задаць, павінна быць такім.

У якой адносіне знаходзіцца гэта тэорыя да разьвіцьця рэвалюцыйнага руху ў Індыі, якімі-б уяўляліся-б нам бліжэйшыя пэрспэктывы разьвіцьця гэтага руху, калі-б мы паглядзелі на яго вачыма „тэорыі дэкалёнізацыі". Не падлягае сумненьню, адказ на так пастаўленыя пытаньні павінен быць адмоуны, бо якія б ні былі агаворкі і папраукі, але самы факт прызнаньня індустрыялізацыі калёній, што нагадвае і падвышэньне жыцьцёвага ўзроўню каленіяльных мас, зьяўляецца ў тэй-жа час адмаўленьнем бліжэйшых рэвалюцыйных пэрспэктыў.

З другога боку, мы павінны аглянуцца на нашых ворагаў—міжнародных сацыял-дэмакратаў -і паглядзець. ці не сыгналізуецца нам з боку іх якая, кольвек небясьпека. І сапрауды -варта толькі прагледзець праект каленіяльнае рэзалюцыі да кангрэсу II Інтэрнацыяналу, які адбываўся паралельна з нашым кангрэсам, як мы знойдзем небясьпечную блізкасьць прыхільнікаў індустрыялізацыі каленій да сацыялдэмакратаў у сэнсе прызнаньня імпэрыялізму прагрэсыўнаю сілаю, бо зноў-жа факт дагаварэньня да тэорыі, калі індустыялізацыя становіцца адным з закону імпэрыялізму (глядзі прамову Кокса), ёсьць у той-жа

час пабочным прызнаньнем імпэрыялізму за фактар прагрэсу, а гэта апошняе і ёсьць „сьвятое сьвятых“ каленіяльных поглядаў II Інтэрнацыяналу.

У сілу выкладзеных прычын „тэорыя дэкалёнізацыі“ становіцца ў простае супярэчаньне з Ленінскаю ацэнкаю сучаснага капіталізму, які загнівае, з поглядамі Леніна па каленіяльным пытаньні наогул і на магчымасьць некапіталістычнага разьвіцьця калёній у прыватнасьці.

*Зайвагі: Табліцы №№ 1 і 2* дадзены па вестках ЦСУ, зборнік „Статистика мирового хозяйства“. бюлетэнь ЦСУ Саюзу № 119

*Табліцы № 3, 4 і 5* па дадзеных Клера Ліса Рафаіл „Проблемы Индийской Революции, 1928 г., і А. Мухарджы „Экономическое положение Индии и английская политика“. Плановое хозяйство. №№ 2. 3. 1928 г

[illegible] М. Рой. „Новая Индия“, 1923

[illegible] 7, 8 і 9. Генин Бюллетень ЦСУ № 119, статья „Проблемы Индустриализации Индии“.

[illegible] *№№ 10, 11 і 12.* Па дадзеных А. Мухарджы „Экономическое положение Индии [illegible] политика“

*[illegible]цы № 13, 14 і 15.* Райбоун „Экспорт капитала в Индию“, „Мировое хозяйство и мировая политика“ № 3, 1928 г

*[illegible]іца № 16*—„Мировое хозяйство и мировая политика“—хроніка міравое гаспадар[illegible]

Р. Кугель

# Ленин о Бунде

Развитие капитализма в России создало не только рабочее движение, но и национальное движение угнетенных царизмом невеликорусских народов. Партия пролетариата, перед которой, помимо прочих проблем классового движения рабочего класса, встала национальная проблема, должна была дать свое решение этой проблемы в связи с вопросом о борьбе за социализм.

Как в общих вопросах борьбы за социализм шла борьба двух линий революционной и оппортунистической, —так и в национальном вопросе мы наблюдаем эти две линии борьбы.

Мы в этой работе остановимся на одной разновидности оппортунизма в национальном вопросе, на Бунде, этой оппортунистической организации в еврейском рабочем движении. На примере с Бундом мы попытаемся показать суть оппортунизма в национальном вопросе, как ее вскрыл и разоблачил тов. Ленин.

## I. Исторические и социальные условия, породившие национализм в еврейском рабочем движении

Еврейское рабочее движение в начальный период своего возникновения было проникнуто духом интернационализма. Поворотный пункт в истории еврейского рабочего движения, когда националистическая идеология начинает просачиваться в ряды еврейских организованных рабочих, связан с историческим переходом от пропагандистской кружковщины и к массовой агитационной работе.

Перед социал-демократами, совершившими этот переход, встала сложнейшая проблема, заключавшаяся в том,—как сочетать принципиальную революционную выдержку со стихийностью массового движения. Попытка решить эту проблему была сделана в знаменитой брошюре „Об агитации“ Кремером, который впоследствии был видным вождем Бунда и его теоретиком.

В этой брошюре мы находим следующие строки:

> „Народная масса вовлекается в борьбу не рассуждениями, но об‘ективной логикой вещей, самим ходом событий, наталкивающим ее на борьбу“ [1]).

Мы видим здесь явную тенденцию противопоставить об‘ективную логику у вещей человеческим рассуждениям, переоценку стихийности массового движения и недооценку роли социалистического сознания. Есть ли здесь решение проблемы стихийности и сознательности? Конечно, нет. Проблема „разрешается“ тем, что сознательность полностью уничтожается. Таким образом, получается суб‘ективизм наизнанку. Суб‘ективисты школы Лаврова-Михайловского со своим учением „критически-мыслящих личностях“ уничтожили или недооценили

---

[1]) Плеханов т. XII, стр. 75.

об'ективную логику вещей, а авторы брошюры „Об агитации“ признали об'ективную логику вещей, но совершенно выбросили за борт роль сознательности.

Правильное решение этой проблемы дал марксизм только в лице Плеханова и Ленина. Марксисты базируют свою тактику, свои перспективы на учете об'ективной логики вещей. Но марксисты также знают, что рассуждения людей очень часто, если не всегда, отстают от хода развития общественных отношений. Какой же вывод делают отсюда марксисты? Они делают тот вывод, что для того, чтобы сознание массы пришло в соответствие с ее классовым положением, необходима гигантская работа передовых личностей, передовых представителей класса, об'единенных в партию и „вносящих“ сознание в массу. Такой вывод неизбежно приводит к взгляду на партию как на авангард класса. Такой вывод как раз и сделали большевики.

Авторы брошюры „Об агитации“, недооценив роли „человеческих рассуждений“, также неизбежно должны были притти к преклонению перед стихийностью и к приспособлению к ней. Отсюда—идеология „хвостизма“, „экономизма“.

Вот это преклонение перед стихийностью рабочего движения необходимо иметь в виду при изучении процесса зарождения национализма в Бунде. Бунд преклонялся перед стихией. Когда в массах еврейского пролетариата стала шириться „экономическая“ борьба, Бунд преклонился перед экономической стихией,—перед экономизмом. Когда белый террор царского правительства вызвал террористическое настроение, Бунд на своей 5-й конференции в августе 1902 г. большинством голосов принимает резолюцию в пользу террора [1]).

Как мы уже указывали, национализм в Бунде зарождается при переходе от кружковщины к массовой работе. Мартов в своей знаменитой речи, произнесенной им на майском собрании агитаторов в г. Вильно в 1895 г., пытается теоретически формулировать значение этого перехода для еврейского рабочего движения. Он указывает, что сущность этого переворота заключается в том, что „мы свою программу, свою тактику, свою борьбу приспособили к массе, в том,... что об'ектом нашего воздействия, который мы имеем ввиду, как в нашей будничной работе, так и в нашей праздничной (первомайской) агитации, является не *рабочий интеллигент* (наш курсив), выделяющийся из своей среды своими умственными способностями, своей потребностью в просвещении, но средний массовый работник со средними потребностями, средней нравственностью и с средним уровнем развития“. Перемена об'екта социалистического воздействия—переход к работе в массах—повлекла за собой и перемену орудия связи с массой. Еврейский язык—язык массы должен был заменить русский язык, на котором раньше велась работа с отдельными кружками. Но переход к еврейскому языку как орудию социал-демократической работы среди еврейских рабочих, не определяет сути поворота. Последний связан *с переменой взглядов на роль еврейского рабочего движения.*

„В первые годы нашего движения—говорит Мартов—*мы всего ожидали от движения русского рабочего класса* и на самих себя смотрели как на *придаток* (наш курсив) к обще-русскому рабочему движению“.

[1]) Тов. Ленин спрашивает „что общего между экономизмом и терроризмом?“ И отвечает: „у экономистов и современных террористов есть один общий корень: это именно преклонение перед стихийностью. Экономисты преклоняются перед стихийностью „чисто рабочего“ движения, террористы—перед стихийностью самого горячего возмущения интеллигентов“. Ленин, т. V, стр. 179.

Это было прежде. А теперь

„поставив в центр программы массовое движение, мы должны были приспособить нашу пропаганду и агитацию к массе, т.-е. сделать их более еврейскими“.

Но что значит „сделать движение более еврейским?“ Работа с массами на еврейском языке? Нет Это по Мартову значит, что освобождение еврейского пролетариата, как еврейского, дело его собственных рук. Мартов убежден, что нельзя

„ожидать освобождения еврейского пролетариата от экономического, политического и гражданского порабощения ни от русского, ни от польского движения“.

И еще

„когда русскому пролетариату придется жертвовать некоторыми из своих требований для того, чтобы добиться хотя чего-нибудь. Он скорее пожертвует такими требованиями, которые касаются исключительно евреев, например, свободы религии или равноправия евреев“.

Отсюда Мартов делает вывод:

„Мы должны решительно признать, что наша цель, цель действующих в еврейской среде социал демократов, состоит в том, чтобы создать специально еврейскую рабочую организацию, которая явилась бы руководительницей и воспитательницей еврейского пролетариата в борьбе за экономическое, гражданское и политическое освобождение“ [1]).

Переход от кружковщины к массовой работе заставил перейти и к языку массы. Это было необходимо в целях проникновения в гущи еврейских трудящихся.

Но откуда явилась мысль, что с точки зрения интересов еврейских рабочих необходима перемена принципиальных взглядов на роль и место еврейского пролетарского движения в обще-революционном движении российского пролетариата? Откуда взялось это недоверие к классовой солидарности русского и еврейского пролетариата.

Обратимся к известным „запискам социал-демократа“ Мартова. Там мы читаем следующее:

„В мае 1895 года эта идея (о необходимости для еврейских рабочих сложится в особую национально-пролетарскую партию—Р. К.) лишь бродила в воздухе в наших кругах; на нее мы наталкивались чисто эмпирически, просто потому, что все попытки наши завязать тесную организационную связь с социал-демократами Москвы, Петербурга, Киева и т. д. наталкивались на слабость местных движений, кружковый характер марксистских групп, преобладание в их деятельности чисто местных интересов, тогда как сами собой, органически на почве параллелизма задач и единства методов, а еще более на почве однородного массового профессионально-экономического движения, уже слагались элементы партийно-организационного об‘единения, групп работавших среди еврейского пролетариата. Я не был бы достоин своих 22 лет и репутации стремящегося к последовательному мышлению не лишенного боевого темперамента человека, если бы не поспешил теоретически „округлить“ этот эмпирический факт и наскоро сколотить и обосновать учение о необходимости организационного обособления различных национальных проле-

[1]) Все цитаты взяты из приложения к „материалам по истории еврейского рабочего движения „— поворотный пункт в истории еврейско-рабочего движения. 1906 г.

тарских движений в пределах одной страны. В виду, однако, полного отсутствия в нашей среде склонности апеллировать к какой бы то ни было культурно-национальной самобытности я мог для обоснования задачи образования обще-еврейской социал-демократической организации прибегнуть лишь к довольно вульгарному доводу о том, что специфическое еврейское бесправие, от которого все более страдает еврейский пролетариат, не найдет в общероссийском пролетарском движении достаточно стойкого борца" [1]).

Мартов, следовательно, склонен об'яснить националистическое ядро его исторической первомайской речи лишь незрелостью своей марксистской мысли. Но достаточно ли это об'яснение? Дает ли оно удовлетворительный ответ на вопрос об исторических и социальных корнях поворота от интернационализма к национализму?

Ведь можно поставить следующий вопрос: а не отразил ли Мартов вольно или невольно некоторые стихийные настроения умов в еврейской среде? Нам кажется, что да. Мы считаем, что националистическую струю в еврейское рабочее движение внесли, с одной стороны, вновь вступившие в движение широкие слои еврейских рабочих [2]), а с другой - еврейская интеллигенция, работавшая в еврейском рабочем движении и чутко отразившая националистические настроения в еврейской среде.

Другими словами новый „тон" в еврейской социал-демократической работе об'ясняется историческими условиями того времени, новыми веяниями в еврейской среде.

О том, какое общественное настроение было в еврейской среде к концу 90-х годов, хорошо рассказывает еврейский историк—националист С. М. Дубнов.

„В обществе,—пишет он о конце 90-х годов—возникали только смутные настроеням, неясные порывы к возрождению на деле бессильные, лишенные творческой энергии. Но мало-по-малу из хаоса смутных общественных настроений стали прокладываться пути в направлениях различных, но об'единенных общим стремлением—изнутри возродить еврейский народ в национальном и социальном отношениях. Поворотным пунктом является здесь 1897 год. В этот год... стали определяться... течения еврейской национально-политической мысли. Послышалась целая гамма общественных лозунгов, свидетельствующая об одном: что настал конец периода общественной прострации, что смутный порыв к освобождению и возрождению превратился в сознательное стремление, идущее по определенным путям".

Как мы видим в еврейской среде в силу целого ряда причин поднялась сильная волна национализма.

Можно ли считать, что еврейская интеллигенция, которая работала в еврейской рабочей среде, осталась в стороне от общего под'ема националистической стихии? Конечно, нет. Сама кость от кости еврейской крупной и мелкой буржуазии она идейно была так или иначе с ней связана, чутко откликалась на те процессы, которые происходили в ее среде. Кроме того, необходимо учесть те основные причины, которые толкали еврейскую интеллигенцию в еврейское рабочее движение. Что же толкало еврейскую интеллигенцию в еврейское

[1]) „Записки социал-демократа" Мартов. стр. 247—248.

[2]) Годы 1893—97 были годами стачечной волны, в которую были втянуты широкие массы еврейских рабочих многих крупных и мелких городов. Бухбиндер. „История еврейского рабочего движения". Стр. 57.

на гэтых прадпрыемствах. Але справа ў тым, што павялічэньне процанту партпраслойкі ідзе нераўнамерна, прычым у больш буйных прадпрыемствах процант партпраслойкі яшчэ досыць нізкі, так:

| | | |
|---|---|---|
| На ф-цы „Чырв. Бярэзіна" партпрасл. н[illegible] 1. 7. 28 г. складае | | 15,56 проц. |
| „ імя „Домбаля" [illegible] | „ | 11,79 |
| [illegible] „Камінтэрн" | | 16,2 |
| [illegible] Барыс[illegible] | | 18[illegible] |
| [illegible] | „ | 2[illegible] |
| [illegible] „Рабо[illegible]" | „ | 26 |
| [illegible] | | [illegible]3 |
| [illegible] | „ „ | [illegible]2 „ |
| [illegible] | „ „ | 41,45 „ |

Надта нізкаю зьяўляецца партпраслойка сярод будаўнікоў, дзе яна складае усяго 4,[illegible] проц. да агульнага ліку рабочых. Гэта у значнай меры тлумачыцца сэзонным характарам работы будаўнікоў.

Такое становішча сьведчыць аб неабходнасьці асобліва напружанай работы па вярбоўцы у партыю беспартыйных рабочых на гуце імя „Домбаля", ф-цы „Чырв. Бярэзіна" і зав. „Камінтэрн", дзе гэтае пытаньне павінна стаяць у асяродку увагі парткалектываў. Таксама і іншыя прадпрыемствы павінны пытаньням росту партарганізацыі прыдаць значна больш увагі, чым прыдавалі да гэтага часу.

## II. Як партарганізацыя кіравала пытаньнямі росту партыі

*1. Кіраўніцтва Гаркому КП(б)Б* гэтай галіной работы выражалася у абмеркаваньні пытаньня аб становішчы партасяродку ў камсамоле, дзе дадзены падрабязговыя дырэктывы ячэйкам КПБ і Гаркому ЛКСМБ. Дырэктывы аб вярбоўцы ў партыю і аб росьце арганізацыі дадзены пасьля абгаварэньня пытаньня аб масавай рабоце партарганізацыі, аб рабоце з беспартыйным актывам, аб рабоце у цэху і аб кастрычнікавым заклiку. Усе гэтыя пытаньні абгаварваліся сумесна з сакратарамі партячэек на пленумах гаркому альбо на пашыраных нарадах. Дырэктывы дадзены досыць ясныя і практычныя.

Недахопам зьяўляецца тое, што гэтае пытаньне (аб росьце) ня было абгаворана асобна.

*2. Кіраўніцтва партячэек ростам* у большасьці выпадкаў было недастатковым. Асноўным недахопам гэтага кіраўніцтва зьяўляецца надта агульны характар усіх пастаноў аб росьце. Напрыклад, па справаздачы бюро 1-й цэхячэйкі (на „Домбалі", дзе маецца пад 450 беспартыйных кваліфікаваных рабочых) прынята наступная пастанова: „Узяць курс на узмацненьне росту партыі за лік беспартыйных".

Ячэйцы ст. Барысаў па справаздачы бюро пры апошніх (вясковых) перавыбарах прынята такая пастанова: „Не паслабляць росту ячэйкі за кошт рабочых". На ф-цы „Рабочы" па справаздачы бюро прыняты наступны пункт: „Пры прыеме у партыю таго ці іншага рабочага, добра вывучыць яго, а ня імкнуцца да павялічэньня колькасьці". Некаторыя ячэйкі па справаздачах бюро пры вясковых перавыбарах, у рэзалюцыю нічога ня уносілі аб росьце (цэхячэйкі „Чырв. Бярэзіна", „Прафінтэрн" і некаторыя інш.).

Агульны характар усіх вышэйпаказаных пунктаў рэзалюцыі не давау магчымасьці праверыць іх выкананьне, і яны ў значнай меры засталіся на паперы.

Пытаньні росту амаль што нідзе ня ставіліся знарок, а калі ставіліся, дык не давалі належных вынікаў. Напрыклад, на зав. „імя Дом-

баля“ ў студзені м-цы 28 году ставілася пытаньне на сходах усіх цэхячэек. Даклад рабіў тав. Лінг (сакратар парткалектыву). Па гэтаму дакладу ячэйкі прымалі наступныя пастановы: „Даручыць бюро ячэйкі на падставе пастановы Бюро ЦК УсеКП(б) распрацаваць плян па ўцягненьню рабочых у партыю“. Гэтага даручэньня ніводнае з бюро цэхячэек ня выканала, і ўсё гэтае абгаварэньне сышло на тое, што пагаварылі і разышліся.

Ненармальным зьяўляецца таксама, што нават ёсьць ячэйкі, у якіх з сакавіка 1928 году не пададзена ніводнае заявы аб прыеме ў партыю ня толькі ад беспартыйных, але і ад камсамольцаў (яч. ф-кі „Прафінтэрн“). Толькі парткалектыў зав. „Камінтэрн“ мае дадатны вопыт і вынікі гэтае работы. На справаздачна-перавыбарчым сходзе пастанова аб росьце калектыву мае практычны характар (даручана фракцыям непартыйных арганізацый дапамагаць высьвятленьню беспартыйнага актыву і вярбоўцы яго у партыю, даручана індывідуалам і ўсім камуністам узмацніць індывідуальную сувязь з беспартыйнымі, намечана больш правільнае разьмеркаваньне партыйцаў у вытворчасьці, сярод груп беспартыйных рабочых).

У пачатку верасьня м-ца бюро парткалектыву знарок абгаварыла пытаньне аб росьце. Выстаўлен лёзунг: „Кожны партыец-актывіст павінен завербаваць аднаго беспартыйнага ў партыю. „Цэхячэйкам прапанована прадугледзець у сваіх плянах работы рэальныя магчымасьці вярбоукі рабочых у партыю за пэуны пляновы пэрыяд і потым праверыць рэальнае выкананьне гэтага. Намечана правядзеньне гутарак з групамі беспартыйных рабочых, якія блізка стаяць да партыі, з мэтаю выяўленьня прычын, што перашкаджаюць рабочаму ўступіць у партыю.

Цэхячэйкі зав. „Камінтэрн“ практычна падыйшлі да пытаньня выяўленьня сваіх рэзэрваў. З гэтаю мэтаю сьпіс беспартыйнага актыву, які намячаецца да ўцягненьня ў партыю, абгаварваецца на сходах ячэйкі. Выказываюцца за і супроць і пасьля дагаворанасьці пачынаецца „апрацоўка“ намечаных усімі шляхамі: праз прыцягненьне на партсходы, праз індывідуальную сувязь, праз уцягненьне у сетку партасьветы і правядзеньне нарад з імі.

На пляновы пэрыяд намячаецца прыкладная колькасьць для уцягненьня у партыю. Так па пляну цэхячэйкі лесапільнага цэху намечана уцягнуць 6 чал., з намечаных 3 ужо прыняты ячэйкаю. Па пляну цэхячэйкі фанернага цэху намечана ўцягнуць 4—5 чал. (за 3 м-ца).

Такі-ж самы мэтад работы намечан і на „Чырв. Бярэзыне“, дзе 24 га верасьня 1928 г. на нарадзе сакратароу цэхячэек пастаноулена выявіць і абгаварыць па цэхячэйках сьпіс беспартыйных, якія намечаны да ўцягненьня ў партыю. На ф-цы „Рабочы“ намячаўся сьпіс, але гэта нідзе не занатована і ня прынята рэальных мер.

*3. Работа нізавых партзьвеньняў* у адносіне да гэтага недастатковая. З вынікаў агляду работы у цэху відаць, што толькі на зав „Імя Домбаля“ работа індывідуалаў дала некаторыя вынікі.

*4. Прычыны недастатковага прыцёку рабочых у партыю ў апошнія м-цы*, апрача нездавальняючага кіраўніцтва большасьці партячэек гэтаю справаю, тлумачыцца рознымі прычынамі. Некаторае тлумачэньне дае апытальны ліст, які быў раздадзены парткалектывам зав. „Імя Домбаля“ больш актыўным рабочым. Апытальны ліст уключае пытаньні:

1) Чаму ты ня ідзеш у партыю?
2) Ці здаволен ты працай сваёй цэхячэйкі?
3) Ці адчуваеш ты дапамогу з боку партыйцаў?
4) Як вядуць сябе асобныя партыйцы?

Па апытальнаму лісту дадзена магчымасьць падпісаць ці не падпісаць. Перад раздачай лістоў праводзіліся гутаркі аб значэньні гэтае анкеты. З раздаых 100 лістоў запоўнілі і зьвярнулі парткалектыву 20, з іх 11 падпісаных і 9 не падпісаных. На першае запытаньне 10 чал. адказваюць: не падрыхтаваныя, ня досыць сьвядомыя, ня досыць пісьменныя, 1 не адказаў зусім,—тлумачыць тым, што быў у партыі, але несправядліва выключан. Адзін рабочы-актывіст піша: „Лічу, што малая розьніца паміж мною і партыйцам, а у партыю ня іду па стане здароўя". Яшчэ 2 чал. пішуць, што ня ідуць у партыю па сямейных абставінах і па гадох. Адзін адказвае: „Ня іду ў партыю, бо вы, партыйцы, мне яшчэ не растлумачылі, што такое партыя".—„Лепш быць беспартыйным і добра разумець задачы партыі".—„Я 11 гадоў быў рабочым ад варштату, а пры савецкай уладзе паставілі мяне служачым, я у партыю ўступіў-бы, але лічу, што мяне, як служачага, ня прымуць". -„Ня іду ў партыю, бо там многа кар'ерыстаў, а справядліваму чалавеку сярод кар'ерыстаў цяжка работаць".

На астатнія пытаньні рабочыя даюць розныя адказы, большасьць адгукаецца добра пра работу цэхячэйкі, але некаторыя адказваюць, што яе ня бачылі, сакратара ня ведаюць, альбо—наогул цяжка судзіць беспартыйнаму пра ячэйкавую работу. У некаторых апытальных лістох есьць абяцаньне у хуткім часе падрыхтавацца і ўступіць у партыю.

Есьць некалькі варожых адказаў і указаньні аб няправільных учынках паасобных камуністаў.

У асноўным гэтыя апытальныя лісты пацьвярджаюць, што недастатковы рост тлумачыцца слабою работаю нашых ячэек. Шэраг адказаў аб недастатковай падрыхтоўцы сьведчыць аб неабходнасьці ўзмацніць уцягненьне беспартыйных у школы палітграматы і аб узмацненьні работы школ па надбліжэньні і вярбоўцы рабочых у партыю.

Пленум гаркому распрацаваў практычныя дырэктывы усім партячэйкам. Яны сыходзяцца на тым, каб паставіць пытаньні росту партарганізацыі у асяродку ўвагі. Барысаўская арганізацыя, як пралетарская (85 проц. рабочых), павінна дапамагчы таму, каб удзельная вага рабочых у КП(б)Б падвысілася. Распаўсюджваючы дадатны вопыт асобных ячэек ува ўсей арганізацыі, уносячы плянавасьць, арганізацыя ідзе да ажыцьцяўленьня лёзунгу: „Кожны рабочы-перадавік у шэрагі партыі".

**Н. Калінін**

# Пра работу сярод сэзоньнікаў

*(Аршаншчына)*

Сэзонная работа ў гэтым годзе пачалася з некаторым спазьненьнем, дзякуючы чаму цягнуцца будзе даўжэй. Не уважаючы на гэта, мы ўжо цяпер можам падагуліць, што зрабілі, і выявіць тыя недахопы, якія заўважваюцца і да сучаснага моманту у рабоце гаспадарчых, саюзных і іншых арганізацый.

На будаўнічай рабоце ў гэтым годзе па няпоўных вестках у нашай акрузе занята на 1-га жніуня м-ца блізка 7.700 раб. Павялічэньне супроць мінулага году на 3191 альбо 89,1 проц. На будучы год будоўля бэконнага камбінату ў Воршы павялічыць колькасьць рабочых сэзоньнікаў.

У гэтым будаўнічым сэзоне мы пачалі рыхтавацца даволі своечасова. Прэзыдыум АСПС яшчэ у сакавіку месяцы разглядау падрабязны плян работы сярод сэзонных рабочых. Пры Інспэкцыі Працы была склікана нарада усіх гаспадарнікау, якія выконвалі розныя сэзонныя работы. На гэтай нарадзе быу распрацованы цэлы шэраг практычных мерапрыемстваў па абслугоўваньню сэзонных рабочых. Галоўная ўвага нарады была зьвернута на своечасовае прыстасаваньне кватэр на мясцох работ. Побач з гэтым трэба адзначыць, што, не ўважаючы на пастановы нарады, гаспадарчыя арганізацыі ўсё-ж ня былі падрыхтаваны да гэтага, як, напрыклад: Бел. Дзярж. Буд. разьмясьціў сэзонных рабочых у бараках, не прыстасаваных да жыльля на вучастку Арэхі. МББ к часу прыезду рабочых не падрыхтавала сяньнікоў, ня былі таксама абсталяваны памяшканьні. На некаторых работах несваячасова былі зроблены расцэнкі, што выклікала лішняе непаразуменьне сярод сэзонных рабочых.

Саюзам будаўнікоў была склікана нараду кіраўнікоу гаспадарчых установ, на якой было адзначана, што пастановы нарады пры Інспэкцыі працы ня поўнасьцю выконваліся, што выклікала справядлівыя нараканьні рабочых.

На ўсіх сэзонных работах своечасова былі арганізаваны рабочыя камітэты і розныя пры іх камісіі. Усяго заарганізаваных рабочых камітэтаў на сэзонных работах 9. З іх па саюзу будаўнікоў 6 рабачкомаў і 2 профупаўнаважаных, па саюзу сельгаслесрабочых 3 рабачкомы. У склад рабачкомаў і ўпаўнаважаных быў уцягнуты значны процант рабочых сэзоньнікаў (на 32 чал. агульнага складу рабачкому па саюзу будаўнікоў было ўцягнуто 18 чал.).

У Выдрыцы працуе абсталяваная харчэўня на 200 чал., крама, з чэрвеня пачала працаваць хлебапякарня. На чыгунцы сэзонныя рабочыя здавальняюцца хлебам ТПО. Перабояў у здавольваньні хлебам рабочых ня было, выключаючы ў лета 2 дні, у якія выдадзена на кожнага хлебам па 600 гр. Скаргаў з боку саюзных рабочых на нездавольваньне хлебам таксама ня было, бываюць выпадкі нараканьня на

ня зусім добрую якасьць хлеба. (Наша акруга ня была падрыхтавана да масавае выпечкі хлеба, галоунае—ня было добрых пекароў і абсталяваных хлебапякарняў).

Рабочыя на торпараспрацоуках у Шабанох задавальваюцца хлебам з Дубровенскае спажывецкае каапэрацыі, якая мае свае аддзяленьні ў Шабанох з харчэўняй і хлебапякарняй. Гэтыя аддзяленьні адначасова абслугоуваюць і сялян. Бывалі вялікія чаргі ў крамах. Рабочы вымушаны быу часам доўга чакаць, назіраліся інагды выпадкі выдачы сырога хлеба. Кепска абстаяла справа на Чапаленцы, Горацкага раёну. Ня зусім добра абстаяла справа з водпускам другіх тавараў і харчоў, было, напрыклад, бруднае сала, алей з газаю і г. д. Саюзныя арганізацыі своечасова прымалі крокі да зьнішчэньня гэтых недахопаў. У пачатку мая месяца на вучасткі Шабаны быў камандырован старшыня саюзу Сельгаслесрабочых, у чэрвені месяцы была накіравана цэлая камісія з акруговым Інспэктарам Аховы Здароўя: інспэктар працы, санітарны інспэктар і цэлы рад іншых працаунікоў якія маюць дачыненьне да справы сэзонных рабочых.

На пачатку сэзонных работ кепска абстаяла справа з мэд. дапамогай У Выдрыцы быў адзін фэльчар, які абслугоуваў і Арэхі. На торпараспрацоуках быу адзін фэльчар, які абслугоўваў і сельсавет. Такая мэд. дапамога была нездавальняючай. АПБ ставіла пытаньне перад Інспэкцыяй Аховы Здароуя, каб у Выдрыцы арганізаваць урачэбны пункт, а на вучастку Арэхі фэльчарскі, прыняў належныя крокі да далейшага абслугоуваньня сэзонных рабочых у мясцовасьцях аддаленых ад урачэбнага пункту. Гэтыя прапановы Інспэкцыі Аховы здароуя былі выкананы своечасова, а таксама арганізаваны ўрачэбны пункт у Шабанох, які ня зусім забясьпечан мэдыкамэнтамі і інструмэнтамі да сучаснага моманту На большасьці работ установлены аптэчкі. На сэзонных работах былі прыежджыя рабочыя з мясцовасьцяй, заражаных сыпным тыфам. Каб гэтая хвароба не распаусюджвалася на работах, чаго ў гэтым годзе магчыма было чакаць, своечасова высылаліся дэзынфэкцыйныя матар'ялы у Шабуны (торпазавод). Частка сэзонных рабочых, якая прыехала у Арэхі раней, хварэла на малярыю, а кепскія ўмовы працы садзейнічалі аднаўленьню хваробы, ад якой адзін рабочы памер Для папярэджаньня гэтых выпадкаў былі выклікаены з Менску, спэцыялісты якія рабілі працівамалярыйную прышчэпку рабочым, дзякуючы своечасоваму прыняцьцю гэтых мер, хвароба была ліквідавана. Санітарныя умовы працы на сэзонных работах не заусёды былі здавальняючыя ў рабочых пасёлках. Часам вельмі брудна ў бараках. Падлога бывае ня мытая, сяньнікі ня вытрасены ад пылу. Салома мяняецца рэдка. Ложак брудны, асабліва ў рабочых гарбароў, якія працуюць з коньмі (у жыльлёвы барак цягнуць сена і г. д.). Саюзныя і гаспадарчыя арганізацыі недастаткова вялі растлумачальную работу. На ўсіх работах пры рабочых камітэтах зарганізаваны камісіі па Ахове Працы. Праца некаторых камісій вядзецца слаба (за 5 мес. 2 разы абглядалі кватэры торпазаводу). На ўсіх работах маецца пераваранaя вада, мыла, палаценца. Спэцвопратка выдаецца ня зусім своечасова. Бываюць выпадкі, калі гаспадарчыя органы купляюць не дапасованыя да рабочага рэчы (маленькія лапці і чахлы на торпазаводзе).

Кепска абстаяла справа на выпадак няшчасьцяў на некаторых работах. Па няпоўных вестках—цяжкіх няшчасных выпадкаў 28, лёгкіх 27. У вестках з работ, якія дасылаюцца, Інспэкцыі Працы пішуць, што пераважная большасьць няшчасных выпадкаў здарылася па віне рабочых (39), па віне адміністрацыі (16).

На сэзонных работах няшчасныя выпадкі разьмяркоўваюцца так:

| | Цяжкіх | Легкіх | Па віне адміністр. | Па віне рабочых |
|---|---|---|---|---|
| Асінторфзавод | 22 | 19 | 9 | 31 |
| Асінбуд. | 1 | 2 | 2 | 1 |
| Бел. Дзярж. Буд. | 1 | 2 | 1 | 2 |
| Аршанская | 1 | 3 | 1 | 3 |
| Розныя працы | 3 | 1 | 2 | 2 |
| | 28 | 27 | 16 | 39 |

Прычына такое вялікае розьніцы ў колькасьці няшчасных выпадкаў на прадпрыемствах тлумачыцца адсутнасьцю адказнае асобы за тэхніку і небясьпеку на Асінторпазаводзе, недастатковым вядзеньнем барацьбы з боку Інспэкцыі Працы адносна прыцягненьня адміністрацыі да адказнасьці за няшчасныя выпадкі, кепскім вывучэньнем прычын няшчасных выпадкаў, асабліва мала зьвернута ўвагі на раскарчоўку балот у Шабунах. Ненармальнае таксама зьявішча, што у пераважнай большасьці вестак аб няшчасных выпадках пішуць **„па віне рабочага"**. Такое разуменьне няшчасных выпадкаў ня толькі адміністрацыяй, але і саюзамі як быццам фармальна здымае адказнасьць з гаспадарчых і саюзных органаў за калецтва рабочага, па сутнасьці-ж адмовіцца ад адказнасьці нельга, бо пераважная большасьць няшчасных выпадкаў па віне адміністрацыі, а частка па віне рабочага. Трэба разьбірацца, у чым віна рабочага, а ў чым віна адміністрацыі. Маляру адміністрацыя сказала: „Ня лезьці на дах мулярыць без вяроўкі", ён не паслухаў адміністрацыі і палез, упаў і моцна пазьбіўся. Тут віна рабочага, які яўна ня выканаў загаду адміністрацыі. На торпараспрацоўках шмат бывае параненьняў сякерамі і рыдлёўкамі, тут можа быць віна рабочага (неасьцярожнасьць) і віна адміністрацыі (не агледжаны інструманты, ня добра расстаўлены рабочыя). На будаўнічых работах бываюць такія выпадкі: рабочы нясе цэглу на 2-гі паверх, пасьлізнуўся, упаў і моцна пазьбіўся. У нас звычайна такія выпадкі пішуць па неасьцярожнасьці рабочага, а тут навочна відаць віну адміністрацыі, якая не сачыла, наколькі ў парадку лесьвіца і сходкі. Можна прывесьці шмат гэтакіх выпадкаў.

Праведзена значная культурная праца сярод сэзонных рабочых па асобных саюзах. Саюзам будаўнікоў зарганізавана 4 лік. пункты, якія ахапілі 90 чал. Адчынена 2 клюбы (Асінсбуд і Арэхі). Чырвоных куткоў адчынена 4, бібліятэк—стацыянарак 3, перасовак 11, кіно 1, радыёпрыёмнікаў 2. Акрамя гэтага праводзіцца галосная чытка газэт на ўсіх работах за выключэньнем 14-га вуч. Беламеса, за раскіданасьцю рабочых. Праведзены 4 вечары запытаньняў і адказаў. Праз спэцыяльных таварышоў на масавых сходах і асобных гутарках з рабочымі ў чырвоных кутках і інтэрнатах праведзена работа па растлумачэньню сярод апошніх аб мерапрыемствах будаўніцтва ў вёсцы, аб калектывізацыі сельскае хлебазагатоўчае гаспадаркі, аб каапэрацыі і г. д. На чыгунцы, на працягу лета, давалася памяшканьне клюбу на правядзеньне масавае работы сярод сэзоньнікаў. Сэзонныя рабочыя параў-

нальна добра забясьпечаны бібліятэкаю. Праўда, быў недахоп у сэнсе падбору літаратуры на нацыянальн. мовах з прычыны прыезду рабочых з Украіны і РСФСР. Для зьнішчэньня гэтых недахопаў у будучым годзе патрэбна высьветліць праз Біржу Працы, колькі будзе рабочых прывезена з іншых мейсц рэспублікі, а таксама па магчымасьці выпісваць газэты з тых мясцовасьцяй, адкуль былі ўзяты на працу рабочыя, каб даць гэтым магчымасьць рабочаму ведаць, што робіцца ў яго акрузе і нават на весцы. Для правядзеньня фізкультурнае работы дадзена спортпляцоўка. Адзін раз у месяц дэманструецца кіно-карціна. На торпазаводе у Шабанах ставілася кіно 6 раз. Працаваў лікпункт, на якім ліквідавана 24 няпісьменных, праведзена 16 гучных чытак у бараках пастаўлена 5 спэктакляў, прачытана 6 лекцый.

### Праца вытворчых нарад і камісій

На усіх сэзонных работах арганізаваны вытворчыя камісіі і нарады. Удзел сэзоньнікаў у іх слабы. Прысутных на вытворчых нарадах 15% агульнага ліку рабочых. На торпазаводах проц. прысутнічаньня рабочых большы. Нарады бываюць ня добра падрыхтаваны, пытаньні не прапрацованы камісіяй. Есьць выпадкі, калі на агульным сходзе ставіцца даклад загадчыка гаспадаркі. Нарады скликаюцца вельмі рэдка (за 5 мес. 3. Асіпаўскі торпазавод). Асноўная прычына гэтага зьявішча сэзонныя работы і іх бягучасьць. У падрыхтоўчай рабоце ня было поўнага выяўленьня кваліфікаванае рабочае сілы і якія прафэсіі і кваліфікацыі магчыма атрымаць на мясцовым рынку. Пры правідловым вучоце рабочае сілы магчыма-б было набраць недахоп рабочых з мясцовага бядняцкага сялянства. Дзьве арцелі тарпянікаў, навербаваных на мясцовым рынку, у працы сябе апраўдалі Былі выпадкі, калі заворганы недастаткова зьвярталі ўвагу на набор рабочых у першую чаргу батракоў і беднякоў. (Тарпаразработка Шабуны).

### Вывады

Абслугоўваньне сэзонных рабочых у нашай акрузе у гэтым годзе значна палепшылася, асабліва бытавыя умовы, кватэрныя, харчаваньне і Ахова Працы, дзякуючы чаму ня было вялікіх канфліктаў паміж рабочых і адміністрацыі. Палепшылася і пашырылася культабслугоўваньне сэзонных рабочых. Была жывая сувязь акруговыхь саюзных арганізацый з мейсцамі. Праводзілася работа па вывучэньні настрояў рабочых. Трэба сказаць, што значная частка сэзонных рабочых разьбіраецца ў пытаньнях палітычнага зьместу (калектывізацыя сельскае гаспадаркі, павялічэньне ўраджайнасьці і т. д.). Разам з тым шмат сэзоньнікаў палітычна-культурна адсталых (Арцель 62 чал. амаль кожны мае абразок).

Саюзныя арганізацыі павінны будуць больш разгарнуць культурна-выхаваўчую працу, асабліва антырэлігійную прапаганду сярод сэзоньнікаў.

На падставе вопыту праведзенае працы сярод сэзоньнікаў у гэтым годзе саюзным і іншым арганізацыям своечасова падрыхтавацца да сустрэчы абслугоўваньня гэтых груп рабочых у будучым будаўнічым годзе.

---

С. Докучиц и А. Лебедев

# Коммунисты на сельском хозяйстве

Недавно проведенное Полоцким окружкомом КП(б)Б специальное обследование работы коммунистов на сельском хозяйстве дало чрезвычайно интересный материал. Этот материал с достаточной ясностью подчеркивает задачу необходимости усиления нашего повседневного внимания такому важному участку работы парторганизации, как работа коммунистов на сельском хозяйстве.

По Полоцкому округу непосредственно работает на сельском хозяйстве 212 членов и кандидатов КП(б)Б, что составляет 11 проц. по отношению к составу районных парторганизаций. Значительная часть коммунистов-крестьян, молодые по партстажу, а кандидатский состав в большинстве с просроченным стажем. Из 60-ти обследованных хозяйств—38 самостоятельные. В общем числе в обследованных хозяйствах имеется б. рабочих—12 проц. и б. батраков—13 проц., осевших во время революции на сельском хозяйстве.

По материалам обследования 4-х районов округа (Полоцкий, Волынецкий, Ветринский, Ушачский) видно, что по социально-экономическим формам хозяйствования, среди партийцев-крестьян преобладают единоличные, распыленные хозяйства, с нерентабельной производительной затратой труда, с низким агро-культурным уровнем. Хозяйства в большинстве организованы после революции (55 проц.). В хозяйствах партийцев имеется некоторый под'ем по линии развития товарности, применения машин, минеральных удобрений, переход на многополье и применение травосеяния. Все хозяйства пользуются минеральными удобрениями, 86 проц., применяют травосеяние, 42 проц. перешло на многополье, 14 проц. на четырехполье, остальные 44 проц. хозяйств ведут трехпольный севооборот. Развитие технических культур недостаточно, из 60 обследованных хозяйств только 8 применяют тех. культуры. Обеспеченность этих-же хозяйств скотом характеризуется следующими цифрами: имеют лошадей по одной 49 хозяйств или 81 проц., по две —10 хозяйств или 17 проц.; имеют коров по одной—24 хозяйства, по две—26 хозяйств и по 3-4—9 хозяйств. Как общее явление, правильного ухода за скотом нет. Несмотря на значительное кредитование, хозяйства партийцев почти ничем не выделяются из общей массы крестьянских хозяйств. Метод ведения хозяйства не организован, бессистемный. Связь с агрономами держится случайно.

Рассматривая пути развития хозяйств коммунистов с социально-классовой точки зрения необходимо отметить, что обеспеченность с.-х. машинами тем больше, чем экономически сильнее и крупнее хозяйства коммунистов, что среди коммунистов преобладают середняки (68 проц.), бедняков имеется 25 проц. и крепких середняков—7 проц. Обследование выявило, что группа бедняков неуклонно уменьшается и готовится к переходу в середняцкую группу. Имеется часть хозяйств деревенских партийцев, которые перерастают в зажиточные. Росту этих хозяйств способствует увеличение товарности, применение наемного

труда и служебный заработок (Полоцкий и Ушачский районы). В противоположность этим растущим хозяйствам имеются хозяйства разоряющиеся, благодаря незаинтересованности коммунистов-крестьян в их развитии. Ярким показателем этого служит следующий пример: в Полоцком районе один партиец имеет 7 дес. земли, инвентаря никакого не имеет, имеет постройки, одну корову, сам и жена служат, получают жалование в размере 70 р., держит прислугу, землю обрабатывает на арендных условиях, налога не платит, состоит в группе бедноты, предполагает организовать на своей земле артель с таким расчетом, чтобы продать постройки и самому уехать в город.

Из числа обследованных хозяйств 70 проц. считают, что коллективное хозяйство наиболее для них приемлемо. Однако, несмотря на это, к концу 1927 г. в 31 колхозе, имевшихся по округу, было только 21 ч. коммунистов. После XV партс'езда число колхозов по округу увеличилось на 43 единицы, а коммунистов в них за это время вступило только 10 чел. Приведенные цифры говорят о том, что до сих пор большинство коммунистов-крестьян не выполняют еще роли организаторов коллективного хозяйства Такое положение в значительной мере об'ясняется тем, что РК и ячейка достаточно серьезно не заостряли перед этими коммунистами практических форм вопроса коллективизации вообще и коллективизации хозяйств коммунистов-крестьян в частности.

В области партпросвещения среди деревенских партийцев имеются некоторые достижения. 68 проц кончили школу-передвижку. Также имеются заметные успехи в деле выписки газет—96 проц. партийцев выписывают газеты. Зато в области сельско-хозяйственных и кооперативных знаний деревенские коммунисты являются совершенно отсталыми. Сельско-хозяйственная литература не читается, наблюдается слабое участие в различного рода с.-х и кооперативных кружках. Отсюда, как выводы: коммунисты в сельско-хозяйственных знаниях редко выделяются из общей массы крестьянства.

Участие коммунистов-крестьян в членстве потреб. и сел.-хоз. кооперации достаточное. Не состоят членами потребкооперации только 5 проц. и сел-хоз. кооперации 10 проц. Внесли полный пай: по потреб. кооперации 38 проц., по с.-х. кооперации 32 проц. Несмотря на невнесение полного пая все хозяйства пользовались кредитом. Недостаточное участие принимается в деле организации первичных видов коллективов и товариществ (в Сестренском с.-с. на 9.000 населения, которые обслуживает ячейка, нет ни одного машинного и мелиоративного товарищества). Благодаря этому положению имеются случаи распада коллективных об'единений уже существующих.

Обследование хозяйств коммунистов-крестьян свидетельствует о недостаточном внимании райкомов и парт'ячеек повседневному руководству работой коммунистов на сельском хозяйстве. Директивы окружкома по работе среди коммунистов, занятых в сельском хозяйстве, райкомами и ячейками слабо выполняются. Имеется ряд райкомов и ячеек, не обсуждавших совершенно этого вопроса. Совещания коммунистов-крестьян, проводимые некоторыми райкомами, в большинстве случаев не давали этим партийцам четкой установки в их работе на сельском хозяйстве. 90 проц. коммунистов-крестьян имеют партийную и общественно-политическую нагрузку, но эта нагрузка не урегулирована и равномерно не распределена, имеются случаи, когда члены партии несут по 10 и более нагрузок, не связанных с сельским хозяйством. Необходимость выполнения нагрузок связана с отрывом от сельского хозяйства, фактически же многочисленные нагрузки не выполняются. Остальная часть партийцев совершенно не имеет никаких нагрузок и не-

втянута в практическую работу парт'ячеек, особенно это относится к кандидатскому составу. По целому ряду причин в ячейках (Волынецкий р.) наблюдаются, на почве служебного заработка, между коммунистами-крестьянами и служащими случаи антагонизма.

В значительной части коммунисты-крестьяне не удовлетворены своим хозяйством и работой в деревне. Во время обследования хозяйств деревенских партийцев на вопрос- удовлетворяет-ли их работа на сельском хозяйстве—77 проц. ответили отрицательно, выразив желание получить платную работу или уехать в город на фабрики и заводы.

Исчерпав в настоящей статье имевшийся в нашем распоряжении материал по вопросу работы коммунистов на сельском хозяйстве, считаем необходимым сделать несколько замечаний по существу освещенного нами вопроса. Обычным для подобного рода статей является писание выводов. Мы не сочли нужным этого делать, ибо выводы для читателя вполне ясны. Поэтому в начале настоящий статьи мы и ограничились общими замечаниями по существу освещенного вопроса, будучи одновременно уверенными в том, что читатели, особенно коммунисты-крестьяне не замедлят дать (на основе имеющегося опыта) свои практические предложения по вопросу улучшения работы коммунистов на сельском хозяйстве и увязке этой работы с партийно-общественной работой и с делом коллективизации деревни.

Н. Ц. Кавалеўскі

# Пытаньні каляктывізацыі вёскі

*(Бешанкавіцкі район, Віцебскай акругі)*

Рашэньні XV-га зьезду ЎсеКП(б) і XI-га зьезду КП(б)Б па пытаньню каляктывізацыі вёскі знайшлі свае праламленьне ў рабоце Бешанкавіцкага раённага камітэту КП(б)Б, а таксама савецкіх устаноў раёну.

Усю цяжкасьць гэтае работы павінны былі перанесьці нашы вясковыя партыйныя ячэйкі ў час правядзеньня вясеньняй сяўбовай кампаніі, а таксама і на працягу ўсяго лета.

Праводзіць гэтую работу асабліва было цяжка ў сёлетнім годзе, пры такіх аб'ектыўных умовах, якія былі: недахоп хлеба, зацяжная вясна, што адбілася на селяніне на трыманьні жывелы за атсутнічаньнем корму, што да некаторай ступені перашкаджала ў правядзеньні плыннае работы ў галіне каляктывізацыі.

Але-ж на сеньнешні дзень можна сьмела падвесьці першыя вынікі гэтае работы. Аб выніках гавораць наступныя лічбы: калі ў раёне мелася каляктываў: у 1925 годзе—1, у 1926 годзе—1, у 1927 годзе—2, дык на 1 верасьня 1928 году—18.

Гэтыя лічбы ўжо паказваюць, што ў гэтым годзе, як ніколі, мы маем шпаркі рост у сэнсе каляктывізацыі гаспадарак раёну.

Калі паставіць пытаньне, чаму да гэтага часу так мізэрна праходзіла работа па каляктывізацыі сялянскіх гаспадарак у Бешанкавіцкім раёне, дык трэба адказаць, што партарганізацыя, таксама як і савецкія ўстановы, амаль што не займаліся гэтым пытаньнем. Толькі пасьля пастаноў зьезду партыі і канфэрэнцыі, якія завастрылі ўвагу на пытаньні правядзеньня каляктывізацыі, пачалася шырокая напружаная работа раённага камітэту КП(б)Б і адпаведных арганізацый.

Мала напісаць, што маем дасягненьні ў сэнсе каляктывізацыі, трэба даць аналіз, каго мы зарганізавалі, якаво эканамічнае становішча гэтых каляктываў, якая маецца база для іх далейшага разьвіцьця.

Аб гэтым гавораць наступныя лічбы:

У 18-ці каляктывах.

| Семʼяў | Душ | | Разам |
|---|---|---|---|
| | Мужчын | Жанчын | |
| 71 | 152 | 153 | 305 |

*Увага:* Тры каляктывы ў гэты лік не ўвайшло, бо адсутнічалі падрабязныя весткі.

Калі ўзяць пытаньне, хто ўвайшоў у каляктывы па заможнасьці, дык гэта пакажуць наступныя лічбы:

| Па зямлі ўвайшло семʼяў | | | | |
|---|---|---|---|---|
| [illegible] | [illegible] 2-х дзесяцін | Да 5-ці дзесяцін | Да 8-мі дзесяцін | Звыш 8-мі дзесяцін |
| [illegible] | 1[illegible] | 13 | 10 | 7 |

Гэтыя лічбы паказваюць, што 35,2 проц. увайшло зусім безьзямельных, а калі ўзяць бядняцкія гаспадаркі, дык разам з безьзямельнымі яны складуць 57,7 проц., г. зн. што бядняцкія гаспадаркі і наогул бядняк імкнецца хутчэй зарганізавацца ў калектыў.

Калі ўзяць гэтыя гаспадаркі па забясьпечаньню іх да уступленьня ў калектыў, па рабочай, буйной і дробнай жывёле, дык мы убачым вось што:

Ахоплена калектывамі гаспадарак.

| П а к о н я х | | | | П а к а р о в а х | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бяз коняй | З 1 канем | З 2-мя коньмі | З 3-мя конямі | Без кароў | З 1 каровай | З 2-мя каровамі | З 3-мя каровамі |
| 18 | 46 | 7 | — | 13 | 43 | 13 | 2 |

Гэтыя і вышэй паказаныя лічбы кажуць аб тым, што ў калектывы больш за 60 проц. уцягнута бядняцкіх гаспадароў, якім цяжка было жыць на сваёй гаспадарцы і якія не маглі абрабляць свайго кавалку зямлі, бо ня мелі рабочае жывёлы.

Частка калектываў было зарганізавана ў вёсках з гаспадарак выключна з сваёй зямлёю, а частка ў цэнтрах былых маёнткаў. У сучасны момант мы маем наступнае:

Забясьпечанасьць калектываў.

| З я м л ё ю | | | | Рабочаю і дробнаю жывелаю | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пахаці | Сенажаці | Сад, сяд ба, агарод | Няўдобнай | Коняй | Кароў | Цялят | Сьвіней | Авечак |
| 316 | 77 | 88 | 31 | 58 | 90 | 19 | 47 | 70 |

Разам зямлі—513 дзесяцін.

Разам узятыя гэтыя лічбы паказваюць, што забясьпечанасьць зямлёю больш-менш здавальняючая і ў сярэднім складае 7,2 дзесяціны на адну быўшую гаспадарку,—таксама і з жывёлаю.

Неабходна адзначыць, што з усіх гэтых калектываў зарганізавана 3 яўрэйскіх з такіх сем'яў, якія ніколі не займаліся земляробствам.

Некаторыя калектывы забясьпечылі сябе неабходнымі сельска-гаспадарчымі машынамі, што, канечна, дасьць магчымасьць хутчэй паставіць калектыўную гаспадарку на культурны лад.

Падагульваючы ўсё вышэй паданае, трэба зрабіць наступныя вынікі:—Калектывы маладыя, што патрабуе вялікае работы ад райкому і партыйных ячэек па іх замацаваньню.—Зрабіць калектывы тым асяродкам, навокал якіх павінны гуртавацца раздробленыя сялянскія гаспадаркі ў вадну буйную калектыйную сям'ю, а пры тым цягу сялян к калектывам у райёне, які маецца, пад правільным кіраўніцтвам райкому і ячэек гэтага можна дасягнуць. Своечасова забясьпечыць калектывы адпаведным агранамічным наглядам і дапамогаю ў справе вядзеньня гаспадаркі распрацаваць вытворчыя гаспадарчыя пляны, рабіць своечасовую дапамогу з боку сельска-гаспадарчай кааперацыі, забясьпечыўшы неабходнымі крэдытамі, машынамі, штучным угнаеньнем і г. д. Устанавіць правілы ўнутранага распарадку ў калектывах. Дамагацца пераходу калектываў на жывёлагадоўчае вядзеньне гаспадаркі, а гэта у умовах райёну вельмі патрэбна. Узмацніць культурна-палітычнае і сельска-гаспадарчае выхаваньне сяброў калектываў. Партыйным і камсамольскім ячэйкам, па прыкладу Навікоўскай ячэйкі КПБ, трэба стаць застрэльшчыкамі як у арганізацыі, так і ўласнага ўдзелу у калектывах.

Б. Шпітальнік

# Практыка правядзеньня самакрытыкі

*(Мазыр)*

Пастановы XV Партыйнага Зьезду і пленумаў ЦК і ЦКК УсеКП(б) і КПБ аб разгортваньні самакрытыкі знайшлі сваё практычнае праўімленьне ў працы акруговае партыйнае арганізацыі.

Уся партарганізацыя ў асноўным зразумела лёзунг партыі аб самакрытыцы і разгарнула шырокую растлумачальную работу, абгаварэньне адозвы ЦК УсеКП як сярод партыйцаў, так і шырокіх беспартыйных мас рабочых, членаў прафсаюзаў і сялян.

Пытаньне аб самакрытыцы было шырока абгаворана на сходах усіх гор'ячэек, большасьці сельячэек (80 проц.), на некаторых раипартсходах, амаль што на ўсіх прадпрыемствах акругі і на саюзных сходах, на пленумах с/саветаў і на агульных сялянскіх сходах у больш буйных вёсках.

Праведзеныя сходы выклікалі вялікую актыўнасьць сярод удзельнікаў іх. Так, на сходзе партячэйкі ф-кі „Чырвоны Кастрычнік" прыняло ўдзел у выступленьнях 17,4 проц. удзельнікаў, на сходзе гандлёва-коопэрацыйнай партячэйкі выступіла 15,4 проц. удзельнікаў, па Нараўлянскім раёне ў сярэднім на 5 сходах партячэек выступіла 25 проц. удзельнікаў.

Актыўнасьць прафсаюзных мас у абгаварэньні пытаньня самакрытыкі характарызуецца наступным:

| Назва саюзу ці прадпрыемства | Лік сходаў | Кольк. прысутн. | Лік выступ. |
|---|---|---|---|
| Саюз Дрэваапрац. . . . | 9 | 80% | 20% |
| „ Трансп. работн. . . | 2 | 85 „ | 18 „ |
| Камунальнікаў . . . | 1 | 95 „ | 10 „ |
| Нархарч . . . . . | 1 | 70 „ | 9 „ |
| Завод „Зьвязда" . . . . | 1 | 85 „ | 43 „ |
| „Пролетары" . . . | 1 | 75 ч. | 5,3 „ |
| „ „Гародчыцы" . . . | 1 | 40 ч. | 10 „ |

Характэрна адзначыць, што на больш буйнейшых прадпрыемствах актыўнасьць была большая (зав. „Зьвязда").

З пачатку правядзеньня растлумачальнае кампаніі мы сустрэліся з рознымі думкамі і „тлумачэньнямі" пытаньня самакрытыкі. Частка кіраўнікоў гаспадарчых органаў бачыла ў лёзунгу самакрытыкі вялі-

кую небясьпеку, некаторыя з іх гаварылі, што самакрытыка дрэнна адаб'ецца на гаспадарчым будаўніцтве(?!) Такі-ж настрой быў і сярод некаторых радавых партыйцаў.

Сярод часткі беспартыйнае масы і некаторых членаў профсаюзаў былі такія думкі: „Рана яшчэ пачынаць самакрытыку таму, што ў нас яшчэ ёсьць шмат недахопаў. Трэба раней зьнішчыць недахопы, а пасьля ўжо ўзяцца за самакрытыку" (чл. саюзу мэдсанпрацы). Альбо такое выступленьне настаўніка Юравіцкага раёну: „Самакрытыку трэба абмяжоўваць, бо маса наша несьвядомая". У Лельчынскім раёне члены саюзу мэдсанпрацы зразумелі самакрытыку, як *адмену выстаўленьня рэкомэндацельных сьпісаў ад імя партыі ў выбарчыя органы.*

Гэтыя настроі і „тлумачэньні" атрымалі належны адпор ад партыйнае арганізацыі і сьвядомае часткі членаў прафсаюзаў, якія правільна зразумелі лёзунг самакрытыкі і якія сустрэлі яго з упэўненасьцю, што самакрытыка зьявіцца найлепшым мэтадам аздараўленьня дзяржаўнага, савецкага і гаспадарчага апарату і значна дапаможа сацыялістычнаму будаўніцтву.

Карыстаючыся з паслабленьня работы ў паасобных ячэйках, варожыя нам элемэнты імкнуліся скарыстаць лёзунг самакрытыкі ў сваю карысьць, супроць партыі і улады. Так сярод служачай часткі чыгуначнага вузла ст. Калінкавічы (Зах. чыг.) была створана „групка", антысавецкі настроеная, якая пад відам барацьбы з грубасьцю адміністратара партыйца, праводзіла агітацыю супроць камуністаў якія працуюць у мясцкоме, у саветах, і супроць камуністаў наогул. Меўся і другі выпадак, калі кулацкая група сялян у Тураўскім раёне праводзіла агітацыю сярод сялянства супроць мерапрыемстваў партыі і савецкае ўлады.

Гэтыя моманты ў выстарчальнай меры паказваюць, як антысавецкія варожыя нам элемэнты імкнуцца выкарыстаць самакрытыку і паасобныя нашыя недахопы для сваіх карысных мэтаў і для таго, каб наогул перашкаджаць у нашай рабоце.

Характэрна адзначыць і такі момант: гаворачы аб скажэньні, пераварочваньні лёзунгу самакрытыкі некаторыя партыйцы (2 выпадкі), самакрытыку зьвялі да таго, што сталі зьбіраць праз варожы крымінальна-злачынны элемэнт матар'ялы аб асабовым жыцьці адказных работнікаў з мэтаю іх компромэнтацыі, некаторыя маладыя партыйцы, нядаўна прышоўшыя ў партыю, займаліся заглядваньнем „у гаршчок" к свайму суседу, лічачы, што гэта можна і неабходна для самакрытыкі. Быў і такі выпадак, калі Калінкавіцкім Нарсудом быў узьняты судовы процэс супроць рабочых якія на сваім агульным сходзе крытыкавалі свайго зубнога ўрача.

Усе гэтыя ненармальныя зьявішчы былі своечасова акругкомам партыі выяўлены і прыняты меры растлумачальнага характару каб ухіліцца ад іх.

Наогул-жа разгорнутая кампанія самакрытыкі дала партыйнаму камітэту магчымасьць выявіць цэлы рад ненармальнасьцяй і хвараватых зьявішчаў, якія мелі мейсца у савецкім і іншым апаратах: у Азярыцкім раёне былі выяўлены бюракратычныя адносіны з боку работнікаў Лясьніцтва да насельніцтва; злачынная дзейнасьць 2-х старшынь с-савету; у Тураўскім раёне былі выяўлены растраты і павышэньне цэн у каапэрацыі, растрата адным сельсаветам сабраных сродкаў самаабкладаньня; парушэньне некаторымі ўстановамі колдагавароў; чужы элемэнт, які пралез у РВК, міліцыю і каапэрацыю. На заводзе „Зьвязда" былі выяўлены грубыя адносіны з боку тэхпэрса-

налу заводу да рабочых, слабасьць работы заўкому, яч. КПБ, п'янства сэкратара парт'ячэйкі з іншымі партыйцамі і г. д.

З усімі гэтымі ненармальнымі зьявішчамі АК вёу суровую барацьбу; зараз-жа прымаліся рашучыя меры да іх зьнішчэньня (выключэньне з партыі сэкратара яч. зав. „Зьвязда“ і перавыбары юрбо яч., перавыбары заўкому, зьняцьце з работы сэкратара Пятрыкоўскага РК КПБ, старш. РВК і перавыбары РК; адданьне пад суд тэхпэрсаналу заводу „Зьвязда“ за грубыя адносіны да рабочых і г. д.).

У выніку разгортваньня самакрытыкі і сваечасовага рэагаваньня на ненармальныя зьявішчы з боку АК і АКК апошняй за некалькі месяцаў было атрымана да 500 розных скаргаў на няправільныя дзеяньні савецкага гаспадарчага і інш. апаратаў, па якіх прымаліся адпаведныя меры.

Нельга, аднак, сказаць што самакрытыка у выстарчальнай меры разгорнута, што у самакрытыку уцягнуты шырокія партыйныя і беспартыйныя масы рабочых. Асабліва слаба гэтая справа разгарнута у весцы, дзе на практыцы спатыкаемся яшчэ з цэлым шэрагам скажэньняў клясавае лініі.

Нядаўна пры праверцы выкананьня дырэктыў АК КПБ камітэтамі ўзаемадапамогі у весцы былі выяўлены моманты, калі ў некаторых вёсках шэрагам льгот і назыкамі ад КСГУ карыстаюцца заможныя сяляне і нават былыя памешчыкі. Альбо нядаўна было выяўлена у адным сельсавеце Калінкавіцкага раёну тое, што старшыня Тварычаускага (польскага) сельсавету льготы па сельска-гаспадарчым падатку даў заможным сялянам за што ён быў зьняты з работы і працягнуты да адказнасьці.

Кастрычнікавы пленум АК КПБ па гэтым пытаньні адзначыў, што партыйнай арганізацыяй па лініі разгортваньня самакрытыкі быў зроблен толькі першы пачатак і таму у сваей рэзалюцыі сказаў: „...неабходна прыняць усе меры да накіраваньня самакрытыкі на зьнішчэньне недахопаў у рабоце на барацьбу з парушыцелямі партыйнае і савецкае дэмакратыі, на барацьбу з бюракратызмам, бесгаспадарчасьцю, злоўжываньнямі. Адзначаючы невыстарчальнасьць разьвіцьця самакрытыкі у весцы, пленум прапануе яе шырока разгарнуць у напрамку ажыцьцяўленьня рашэньняў жнівеньскага Пленуму ЦКК УсеКП(б) і верасьнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б“.

---

**Н. Клебанаў**

# Што паказалі папярэднія вынікі самакрытыкі па Бабруйскай акрузе

*(Бабруйская акруговая партарганізацыя)*

Акругкомам партыі падсумаваны першыя вынікі разгортваньня самакрытыкі. Абсьледваньне праводзілася шляхам масавае праверкі па прадпрыемствах і установах. У гэтую работу было уцятнута больш за 200 партыйцаў і рабочых. Усе гэта дало магчымасьць больш глыбока вывучыць пытаньне.

Перш за усе аб самым растлумачэньні і папулярызацыі адозвы ЦК сярод партыйнае масы, шырокае масы беспартыйных і асноунае масы сялянства. Не уважаючы на тое, што адозва была апублікавана 3-га чэрвеня, ячэйкі відавочна чакаючы дырэктыу ад акруговых і раённых арганізацый, пачалі абмеркаваньне гэтае адозвы ў лепшым выпадку у чэрвені, у значнай частцы ячэек толькі у ліпені, а у некаторых мясцох толькі у жніуні м-цы. Калі к сучаснаму моманту пытаньне гэта распрацавана амаль ва усіх партарганізацыях, дык сярод рабочых маюцца арганізацыі дзе яшчэ не абмяркоувалася гэтае пытаньне. Зусім слаба сярод сялянства. Трэба адзначыць, што у пытаньні разгортваньня самакрытыкі у вёсцы, у многіх нават адказных работнікау няма дастатковага зразуменьня; есьць думка, што самакрытыка у вёсцы павінна быць укладзена у нейкія сталыя рамкі, што у вёсцы няма умоу для разгортваньня яе і г. д. Такое становішча прывяло да таго, што ува многіх вясковых партарганізацыях адозва не абмяркоувалася. Быў нават выпадак, калі сяляне аднэй вёскі самі запрасілі ячэйку растлумачыць ім адозву ЦК. Актыўнасьць пры абгаварэньні адозвы была вялікая, загаварылі нават і такія, якія ніколі не выступалі. Рабочая маса сустрэла лёзунг ЦК аб самакрытыцы з вялікай ухвалай, з радасьцю. Вось, напрыклад, некаторыя больш характэрныя выступленьні рабочых заводу „Комінтэрн“: „Раней мы не маглі гаварыць таму, што, калі хто-небудзь што скажа, дык да яго прыдзіраліся, а цяпер можна крыць і крыць трэба здорава“. „Рабочым нічога ня трэба, акрамя таго, каб указаныя імі недахопы браліся пад увагу і своечасова зьнішчаліся“.

Трэба адзначыць, што большасьць рабочых, якія выступалі ў спрэчках, падкрэсьлівалі тое, што крытыка павінна быць здаровай. Толькі ў адным выпадку была заява, што „партыя з лёзунгам самакрытыкі значна спазьнілася, у выніку чаго былі дапушчаны Смаленская і Шахцінская справы“, у працівагу гэтаму ў служылага элемэнту адчувалася боязкасьць разгортваньня самакрытыкі, меліся перагібы і г. д.

Адным з галоўных недахопаў было тое, што ня ўсюды ўлічваліся практычныя прапановы рабочых аб зьнішчэньні тых ці іншых недахопаў. Амаль большасьць рэзалюцый мела агульны характар, як „ухваленьне“ і „неабходнасьць паглыбленьня лёзунгу самакрытыкі“.

Некаторыя ячэйкі нават фармальна адрабіліся. Так, на ячэйцы сьпірытусава-гарэлачнага заводу, тут-жа пасьля работы была зачытана адозва ЦК і бяз усякага абмеркаваньня прынята пастанова „прыняць да ведама“.

Як замацоўваецца і пераламляецца у штодзеннай практычнай рабоце лезунг самакрытыкі? Уся праведзеная работа за апошні час, як сходы, нарады партыйных прафэсыянальных і інш. арганізацый гаворыць за нябывалаю (у параунаньні з мінулым) актыунасьць партыйнае і рабочае масы. Яшчэ да адозвы ЦК, пасьля красавіковага пленуму ЦК, праведзеныя перавыбары парторганаў прайшлі пры нябывалай актыўнасьці, пад пунктам погляду здаровае і дзелавое крытыкі. У некаторых арганізацыях удзел у спрэчках даходзіў да 80—90 проц. складу прысутнічаючых, абнауленьне складу бюро ячэек і сакратароў на 40—50 проц. Партыйныя і саюзныя сходы значна ажывіліся з боку якасьці іх зьместу. Рэагаваньне рабочае масы на недахопы ў нашых апаратах вялікае. Сотні рабкораускіх, тысячы селькораускіх заметак, тысячы скаргаў у РСІ і калектыўныя заявы рабочых,—усе гэта гаворыць за нябывалы зрух.

У выніках разгортваньня самакрытыкі маецца цэлы шэраг выяўленьня хваравітых зьявішчаў і злоўжываньняў у партыйных, савецкіх прафэсыянальных і гаспадарчых арганізацыях. Так, напрыклад, былі выяўлены буйныя недахопы у Асіпавіцкай партарганізацыі, на заводзе „Спартак“, Сьвіслацк. р-ну, у Боркаускай і Верайцоўскай ячэйках, у савецкім апараце Клічава, у Крынкаўскім інстытуце і г. д. Праведзена вялікая работа па ачыстцы і палепшаньню сацыяльна палітычнага складу нашага апарату, куды пазалазілі чужыя нам людзі. Шэраг арганізацый, дзе раней работа кульгала, мела недахопы, цяпер працуюць лепш. Да гэтага трэба дадаць аб павялічэньні адказнасьці работнікаў і рэагаваньне на усялякія злоўжываньні і бязьдзейнасьць. Так, напрыклад, шэраг бюро і сэкратароў ячэек пераабраны, шэраг працаўнікоў зьняты з работы за п'янства і г. д. Гарсаветам адклікаюцца 10 дэпутатаў за бязьдзейнасьць, таксама зьнята два старшыні рабачкомаў. У параунаньні з мінулым, значна павялічылася высоуваньне рабочых і работніц на адказную работу. Разгортваньне самакрытыкі прывяло да таго, што партарганізацыі дзякуючы шэрагу новых форм і мэтадаў работы, лепш зьвязаліся з рабочымі масамі; за гэта гаворыць прыцек рабочых у партыю. Так, напрыклад, па акруговай партарганізацыі ў мінулым годзе (красавік—верасень м-цы) было прынята 124 чал., а у гэтым годзе 193, па гарадзкой арганізацыі ў мінулым годзе (май верасень) 25, а ў гэтым—70 чал.—за той-жа пэрыяд.

Разам з тым абсьледаваньне выявіла шэраг недахопаў і скажэньняў у разгортваньні самакрытыкі. Перш за усё трэба адзначыць брыдкія адносіны часткі адміністратараў і гаспадарнікаў да прапаноў рабочых на вытворчых нарадах, да заметак у насьценгазэтах. Маюцца выпадкі, калі процант нявыкананых прапаноў вытворчых нарад даходзіць да 40 50. На большасьць заметак у насьценгазэтах зусім няма ніякага рэагаваньня. Гэта значна адбіваецца на ініцыятыве і актыўнасьці рабочае масы. На шмат якіх сходах рабочыя так выказваліся: „Гаворым і пастанаўляем многа, а вынікаў ня бачым“. „Колькі ні крытыкуй, а гаспадарнік робіць пасвойму“.

Лезунг самакрытыкі ў грунтоўным партарганізацыяй усьвядомлен правільна, але ў некаторае часткі маецца недастатковае разуменьне значэньня яго. Гэта выражаецца ў розных пэсымістычных настроях, як, напрыклад: „Самакрытыка можа быць толькі ў буйных цэнтрах і дзе вялікая рабочая маса“. „Колькі ні крытыкуй, а раз добрых пра-

цаўнікоў няма, нічога не паможа“. „Хай крытыкуе той, каму рабіць няма чаго,“ а не—справу трэба рабіць“. Наогул разуменьне лезунгу самакрытыкі, як кампаніі і г. д.

Некаторым тормазам разгортваньня самакрытыкі зьяўляюцца яшчэ моманты боязкасьці адкрыта выступаць сярод часткі рабочых і галоўным чынам савецкіх служачых. Не зважаючы на указаньне ў адозьве ЦК аб зьнішчэньні нетаварыскіх мэтадаў палемікі, у асаблівасьці да рабочых, усё гэта мае яшчэ вялікае мейсца. У шэрагу выпадкаў, таварышоў, якія выступаюць, абсякаюць, перапыняюць (сьпіртусова-гарэлачны завод), падводзяць пад рубрыку „бузацёраў“ і „недавольных“ (чуг.-ліц. завод), а ў Жлобіне на запытаньне аднаго рабочага адказны работнік-адказаў: „дзесяць разумных інагды ня могуць адказаць аднаму дураку“. У Рагачове на фабрыцы ім. „Сталіна“ і заводзе „Халтурына“, пры зьвяртаньні рабочых з рознымі указаньнямі на розныя недахопы, атрымоўваюць такія адказы, як: „кінь твае контр-рэвалюцыйныя штукі,“ „я за гэта адказваю“ і г. д. Мае мейсца і простае тармажэньне разгортваньня самакрытыкі, зас рашваньне, зацісканьне і моманты хаванага прасьледваньня. Вось некалькі фактаў: на адным прадпрыемстве два рабочых напісалі ў сьценгазэту заметку пра дырэктара; пры выбарах гэтых таварышоў у заўком, не ўважаючы на пастанову фракцыі, дырэктар (партыец) за іх не галасаваў. На чыгунналіцейным заводзе, калі па дакладу дырэктара пачаліся спрэчкі і дырэктара за недахопы ўзялі „у абарот“, дык ён у заключным слове выняў кнігу (празваную рабочымі „чорнай“) і сказаў: „вось вы мяне крылі, а у мяне запісаны усе вашыя грахі“. У Рагачове на ф-цы „Сталін“ аднэй звольненай (няправільна) і зноў пастаўленай на работу работніцы старшыня заўкому награзіў, каб яна надалей маўчала, а заг. гаспадаркай Жукаў на вытворчай нарадзе адмовіўся адказаць на запытаньні рабочых. На сьпіртусова-гарэлачным заводзе, калі рабочы-партыец абвінавачваў сэкратара ячэйкі ў нячуласьці, дык бюро пастанавіла аб перамяшчэньні яго на другі завод. У аднэй з савгаскіх ячэек гаспадарнік выступае і гаворыць, што „крытыка павінна быць правільнай на 100 проц., інакш мы будзем прыцягваць да адказнасьці“. У Чырвона-Бераскай ячэйцы наглядаліся моманты зацісканьня. Часта прасьледваньне рабкораў праводзіцца шляхам выкрываньня псэўдонімаў і інш. мэтадамі.

Разам з гэтым трэба адзначыць шэраг выпадкаў падстасоўваньня сябе пад рабкораў і злоўжываньняў гэтым. Есьць прыклады, калі некаторыя пісалі, ведаючы свае парушэньні, толькі дзеля таго, каб потым выехаць за кошт прасьледваньня іншага.

У заключэньні трэба адзначыць, што, не ўважаючы на адзначаныя недахопы, папярэднія вынікі паказваюць вялізарнае значэньне самакрытыкі ў аздараўленьні нашае работы і прыцягненьні да яе рабочых але таксама трэба адзначыць, што шырокія колы рабочых яшчэ не закрануты, ня ўцягнуты ў гэтую работу, а тым часам есьць паасобныя моманты такіх настрояў, як: „мы ўжо пагаварылі і досыць“ і г. д.

# У ЦК КП(б)Б

## Часовае палажэньне аб рабоце парт-арганізатараў

*(Прынята бюро ЦК КП(б)Б 22|X—1928 г.).*

(Цэхарганізатары, зьменарганізатары, групарганізатары).

1. З мэтаю палялшэньня зьместу ўнутры-партыйнае работы, устанаўленьня большае сувязі з беспартыйнымі рабочымі і ўсебаковага абслугоўваньня усімі відамі масавае работы, патрэб і запытаньняў партыйнае масы і беспартыйных рабочых, а таксама для большага уцягненьня шэрэнговых партыйцаў і рабочых у актыўную работу ва усіх арганізацыях (саветы, каапэрацыя, прафсаюз, вытворчыя нарады і г. д.), у вытворчых ячэйках уводзіцца інстытут партарганізатараў.

Партарганізатары вылучаюцца па тэрытарыяльна вытворчаму прынцыпу і ў адпаведнасьці з сыстэмай разьмеркаваньня рабочае сілы на вытворчасьці з прысваеньнем наступных назваў:

а) цэхарганізатары вылучаюцца на прадпрыемствах з наліччам розных цэхаў, пры адсутнасьці цэхавых ячэек, а таксама і на прадпрыемствах, дзе адна цэхячэйка аб'яднае некалькі цэхаў;

б) зьменарганізатары – вылучаюцца ў майстэрнях, на заводах і фабрыках пры зьменнай сыстэме працы (абслугоўвае зьменных рабочых);

в) групарганізатар вылучаецца ва усіх астатніх выпадках у савецкіх установах і арганізацыях, брыгадах, у асобных майстэрнях, працкалектывах і г. д.

> *Увага.* У савецкіх ячэйках партарганізатары ўводзяцца ў тых выпадках, калі адна ячэйка абслугоўвае некалькі ўстаноў, альбо у найбольш буйных установах з вялікай колькасьцю служачых.

2. Партарганізатары вылучаюцца Бюро ячэек (цэхячэек) і зацьвярджаюцца агульнымі сходамі ячэек (цэхячэек) з найбольш аўтарытэтных, палітычна падрыхтаваных і вытрыманых сапраўдных сяброў партыі, якія працуюць у гэтым цэху, зьмене, брыгадзе і г. д., на тэрмін поўнамоцтва бюро ячэйкі.

> *Увага.* У асобных выпадках, з дазволу бюро ячэйкі, групарганізатар можа быць перабраны і раней.

3. Работа партарганізатара зьяўляецца грунтоўнай парт. нагрузкай і, як правіла, партарганізатар павінен быць аслабанен ад шэрагу дадатковых нагрузак, асабліва ад сумяшчэньня яе з работаю прафдэлегата і агітпроп. арганізатара.

### Работа партарганізатараў.

1. Партарганізатар зьяўляецца паліткіраўнікам і арганізатарам парт. і паліт. работы ў сваёй групе, праводзіць усю работу ў поўнай адпаведнасьці з дырэктывамі бюро ячэйкі і рашэньнямі вышэйстаячых партыйных арганізацый, інфармуе і растлумачвае камуністам сваёй групы пастановы бюро ячэйкі райкому і інш. парторганаў, вядзе

сыстэматычны нагляд за выкананьнем партрашэньняў камуністымі сваёй групы, інфармуе бюро і сакратара ячэйкі аб найбольш важных пытаньнях, якія высоуваюцца рабочымі на вытворчасьці, і патрабуюць рэагаваньня. Асабліва важнай задачай партарганізатара зьяўляецца ўтварэньне ў партгрупе моцнага актыўнага партасяродку (групарганізатар, групагітатар, індывідуал, зборшчык), згуртоуваючы навакол гэтага асяродку партгрупу і беспартыйны актыў і праз іх ажыцьцяўляе ўплыу партыі на ўсю беспартыйную рабочую масу.

2. Партарганізатар у неабходных выпадках можа склікаць нарады сваей групы па пытаньнях, якія ўзьнікаюць у групе камуністых ці групе рабочых, патрабуюць арганізаванае думкі ўсіх камуністаў гэтае групы, а таксама для прапрацоукі паасобных заданьняў бюро ячэйкі.

3. Партарганізатар вывучае кожнага камуністага сваёй групы, разьмяркоўвае прыблізна нагрузку паміж сяброў партгрупы для канчатковага зацьвярджэньня на Бюро ячэйкі.

4. Дае практычную дапамогу камуністам свае групы (парадаю, указаньнем, прыкладам) у выкананьні ускладзенай на іх партнагрузкі (савецкая, каапэрацыйная, грамадзкая), уцягвае камуністаў, а праз іх і беспартыйных рабочых, у школы палітграматы і інш. віды вучобы.

5. Правярае выкананьне камуністымі свае групы парт абавязкаў, вядзе вучот наведваньня партыйных і рабочых сходаў камуністамі групы, прыймае, разам са зборшчыкам, партадлічэньні, своечасовыя меры да пайсканьня партадлікаў.

6. Партарганізатар у сваей рабоце ўстанауляе сувязь з арганізатарам камсамолу, дапамагае апошняму у правадзімай рабоце, прыцягвае на нарады партгрупы камсамольцаў, асабліва пры вырашэньні пытаньняў, зьвязаных з неабходнасьцю іх удзелу. Партарганізатар усямерна садзейнічае жан. арганізатару і жан дэлегаткам у справе правядзеньня работы сярод жанчын гэтае групы.

7. Партарганізатар вядзе вучот беспартыйнага рабочага актыву, садзейнічае устанауленьню сувязі паміж камуністымі свае групы і актыунымі беспартыйнымі рабочымі, арганізоувае работу з актывам, уцягвае апошніх (беспартыйны актыў) у актыуны ўдзел па правядзеньню усіх мерапрыемстваў парт. ячэйкі, усямерна набліжае беспартыйны актыу да партыі і ўцягвае яго ў шэрагі партыі.

8. З мэтаю своечасовага рэагаваньня на пытаньні, узьнікаючыя ў рабочай масе, партарганізатар зьвяртае асаблівую увагу на задачу ўстанаўленьня асаб стае сувязі і сталых зносін сяброу партгрупы з беспартыйнымі рабочымі, вядзе сыстэматычны вучот настрояў і ставіць перад Бюро цэхячэйкі ўсе пытаньні, якія патрабуюць хуткага вырашэньня.

## Кіраўніцтва работаю партарганізатараў з боку ячэйкі і райкому.

1. Партарганізатар працуе пад кіраўніцтвам ячэйкі і рэгулярна, ня менш аднаго разу за тры месяцы, дае справаздачу перад ячэйкай (ці бюро ячэйкі) аб сваёй рабоце.

2. Па дакладах партарганізатараў, якія заслухоўваюцца на бюро, ячэйка ня выносіць агульных рэзалюцый, а дае 2—3 канкрэтных заданьні партгрупе, устанаўляе тэрмін іх выкананьня.

*Увага.* Пры заслухоўваньні дакладу партарганізатара на бюро ячэйкі, пажаданы ўдзел усіх камуністаў яго групы.

3. У штодзённай рабоце партарганізатар кіруецца плянам работы ячэйкі і асобнымі ўказаньнямі бюро і сакратара ячэйкі.

4. Партарганізатары прыцягваюцца на пасяджэньні бюро партячэек.

5. З мэтаю прапрацоукі найбольш важных пытаньняў, якія датычацца усіх груп паргыйцау і усяе рабочае масы цалкам (перавыбары ФЗК, перазаключэньне каляктыуных умоу, перавыбары дэпутатаў Гарсавету і інш.), а таксама для абмену вопытам работы, інфармацыі партарганізатарау аб важнейшых рашэньнях парторганаў і г. д. ячэйка склікае ня менш аднаго разу ў паўтара месяца нараду партарганізатараў.

6. З мэтаю падняцьця культурна-палітычнага ўзроўню, партарганізатары ўцягваюцца у розныя віды вучобы і гурткі (агітатараў, самаадукацыі, палітыкі) і забясьпечваюцца з боку ячэйкі папулярнаю літаратураю па пытаньнях мэтодыкі масавае работы на прадпрыемствах.

7. Агульна-заводзкія ячэйкі для прапрацоукі паасобных пытаньняў агульна-заводзкае работы склікаюць агульна-заводзкую нараду партарганізатараў (1—2 разы за 6 месяцаў).

*Увага.* Пры заслухоўваньні на пасяджэньні Бюро агульна-заводзкага каляктыву дакладу аб рабоце цэхячэйкі, мэтазгодна практыкаваць пастаноуку садакладу 1—2 парт. арганізатараў аб рабоце іх груп.

8. Райкомы пэрыядычна склікаюць нарады партарганізатараў для інструктаваньня іх па канкрэтных пытаньнях работы, а таксама для высьвятленьня перад партарганізатарамі паасобных пытаньняў палітыкі партыі, заслухоўваюць паасобныя даклады сакратароў ячэек аб рабоце партарганізатарау і партгруп, прыцягваюць партарганізатарау на нарады сакратароу ячэек.

9. Ніякіх пратаколаў і справаводзтва партарганізатар не вядзе.

З мэтаю вучоту штодзеннай работы партгрупы, партарганізатар вядзе дзеньнік, у які заносіць усе важнейшыя моманты ў яго рабоце.

---

# Пастанова сакратарыяту ЦК КП(б)Б аб становішчы і задачах антырэлігійнае работы ў БССР ад 6-XI—1928 г.

Заслухаўшы даклад аб становішчы і задачах антырэлігійнае работы ў БССР, Сакратарыят ЦК КП(б)Б канстатуе, што:

а) антырэлігійная работа ня толькі не здабыла належнага разьвіцьця, але ж мае аслабленьне нават у такіх цэнтрах як Менск, Віцебск, Гомель. Праводзіцца яна ў відзе кампаній, бяссыстэмна, ад выпадку да выпадку, без належнага ўвучоту абставін і настрояў мас, без дастатковага арганізаванага замацаваньня поспеху кампаніі. У сэктанцкіх жа раёнах і раёнах нацменшасьцяў, а асабліва ў весцы, яны амаль што зусім не праводзіліся.

Дырэктывы партыі аб узмацненьні антырэлігійнае работы засталіся нявыкананымі з боку, у першую чаргу, партыйных і камсамольскіх арганізацый.

б) Саюз „Бязбожнікаў“ пасьля маторнае ўзнаўленьне арганізацыйна не асьлабляецца і масавай арганізацыяй яшчэ не зьяўляецца, бо ў яго шэрагах мае пераважна служачых і вучняў, колькасьць-жа беспартыйных жанчын і моладзі зусім нязначная (дастатковага вучоту няма). Актыў бязбожнікаў ня ўлічан і работы з імі амаль ніякае не вядзецца.

в) Рэлігійныя арганізацыі (асабліва каталіцкія і сэктанцкія) узмацнілі сваю работу, пасьпелі ва многіх мясцох памацнець, узмацніць свой уплыў, часам вельмі актыўна скарыстаць мэтады нашае работы і нашы цяжкасьці па соцыялістычным будаўніцтве.

г) Аслабленьне антырэлігійнае работы садзейнічала: слабасьць парткіраўніцтва, недаацэнка і ігнараваньне задач па барацьбе на антырэлігійным фронце, недастатковасьць кваліфікаваных прапагандыстаў-антырэлігійнікаў.

З прычыны гэтага Сакратарыят ЦК КП(б)Б лічыць антырэлігійную работу ў БССР нездавальняючай і прызнае неабходным у самы кароткі тэрмін правядзеньне наступных мерапрыемстваў:

1. Узмацніць парткіраўніцтва саюзам „Бязбожнікаў“ і арганізацыямі, якія вядуць антырэлігійную работу.

Лічыць канечна патрэбным абгаварыць пытаньне аб становішчы і задачах антырэлігійнае работы на Пленумах РК партыі і камсамолу і на агульных сходах ячэек з пункту погляду ажыцьцяўленьня барацьбы на антырэлігійным фронце і большага ўцягненьня ў шэрагі Саюзу Бязбожнікаў рабочых і работніц з прадпрыемстваў, узмацненьня і стварэньня ячэек бязбожнікаў у мясцох найбольшага разьвіцьця рэлігійнага руху і сэктанцтва.

2. У дапамогу Саюзу Бязбожнікаў ячэйкам партыі і камсамолу вылучыць таварышоў-партыйцаў, маючых вопыт масавае работы, для сталага вядзеньня антырэлігійнае работы і ўлічваць іх работу, якія, як партнагрузку, праводзіць з імі сыстэматычную работу. Акрамя таго выдзяліць кадр прапагандыстаў антырэлігійнікаў, скарыстоўваючы іх, галоўным чынам, на рабоце ў гуртках і сэмінарыях па падрыхтоўцы і выхаваньню шырокага антырэлігійнага актыву.

3. АПА ЦК уключыць у сетку партасьветы элементы антырэлігійнае прапаганды.

АПА ЦК і Саюзу Бязбожнікаў стварыць кароткатэрміновыя курсы ва ўсебеларускім маштабе для падрыхтоўкі кадраў антырэлігійнікаў.

4. Антырэлігійнай рабоце неабходна даць характар шырокага масавага руху, уцягваючы ў яго культурныя сілы, савецкі актыў.

Даручыць фракцыі ЦСПСБ сумесна з адпаведнымі савецкімі арганізацыямі (Наркамзем, Наркамздраў) прафэсыянальнымі, кооператыўнымі і добраахвотнымі грамадзкімі арганізацыямі (Шэфтаварыства, Чырвоны Крыж, ДН, Асо-Авіяхім) намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па ўвязцы работы элемэнтамі антырэлігійнасьці (работа гурткоў, бытавыя ўстановы, гурткі Чырвонага Крыжу, Асо-Авіяхіму і інш.).

гурткі Чырвонага Крыжу, Асо-Авіяхіму і інш.).

5. Камсамолу і фракцыям кооперацыйных, прафэсыянальных і грамадзкіх арганізацый пэўных прадпрыемстваў і палітасьвет установаў, устанавіць плянавасьць у антырэлігійнай рабоце па іх лініі і цьвёрдыя асыгнаваньні на яе.

6. Палітпрасьвету і Культаддзелам Профсаюзаў стварыць цэнтры вядзеньня антырэлігійнае прапаганды ў клюбах і хатах чытальнях, уключаючы ў пляны работы клюбаў і хат-чытален антырэлігійную прапаганду, снабжаючы бібліотэкі-чытальні пэрыодычнай і непэрыодычнай антырэлігійнай літаратурай, прадстаўляючы ячэйкам СБ памяшканьні ў час заняткаў, куткоў бязбожнікаў, насьценгазэт, антырэлігійных вечараў, дакладаў.

7. У праграмах Камвузу, БДЗ, Унівэрсытэту, Тэхнікумаў, рабфаку і савпартшкол, уключыць антырэлігійныя элемэнты і мэтодыку антырэлігійнае работы, арганізуючы антырэлігійную работу.

Наркамасьветы ў школах, дзетдамох і дзетсадох замест безрэлігійнага выхаваньня забясьпечыць баявое антырэлігійнае выхаваньне

Ва ўсіх буйных прамысловых і культурных цэнтрах зарганізаваць антырэлігійныя музэі, кабінэты і выстаўкі Абгаварыць пытаньне аб арганізацыі ў Менску Цэнтральнага Антырэлігійнага Музэю.

8. Белдзяржвыдавецтву правесьці ў жыцьцё пастанову АПА Нарады аб выданьні антырэлігійнае літаратуры і разам з другімі кнігаправодзячымі арганізацыямі прыняць усе меры да забесьпячэньня мест дадатковай колькасьцю літаратуры і навучальных падручнікаў, згодна праграм заняткаў антырэлігійных гурткоў, а таксама прасунуць у вёску антырэлігійную масавую літаратуру і пэрыодычныя выданьні

9. Паставіць задачу перад Белдзяржкіно аб стварэньні антырэлігійнага фільму па мясцовых матэрыялах, а таксама здабыць антырэлігійныя фільмы іншых кінаорганізацый.

10. Паставіць перад Дзяржтэатрам у бліжэйшы час, унесьці да пастаноўкі рэпэртуару пьесы з антырэлігійным зьместам.

11. Усім органам друку узмацніць антырэлігійную прапаганду на старонках друку, прыцягваючы да гэтага рабкораў і селькораў, арганізуючы іх работу ў гэтым напрамку.

Усім мэтадычным і кіруючым часопісам профсаюзаў і Наркамасьветы сыстэматычна асьвятляць пытаньні антырэлігійнае прапаганды

12. Менскай і Гомельскай радыё-станцыі працягваць арганізацыю цыклю антырэлігійных вечароў, лекцыі, прызначаючы увагі мастацкім антырэлігійным вечаром (музыка, вершы і г. д.).

13. Політаддзелам вайсковых часьцей абмеркаваць пытаньне аб узмацьнені антырэлігійнай прапаганды ў Чырвонай арміі шляхам паглыбленьня гутарак на антырэлігійныя пытаньні у політзанятках, арганізацыі ячэек СБ і антырэлігійных курсаў для адпускнікоў

14. НКУС і ЦСУ распрацаваць матэрыялы дынамікі рэлігійных абшчын і правядзеньне ў жыцьцё новага быту

Г. т. Ашаровічу, Сэрбэнту, Ратнэру, Віткоўскаму, Валабрынскаму, якія высунуты на работу ў ЦСПСЬ Бел. і не вядуць там ніякае работы,—паставіць на від за невыкананьне партыйных даручэньняў

Даручыць АПА ЦК перагледзець склад Цэнтральнага Савету Саюзу Бязбожнікаў пашыраючы яго за лік таварышоў ужо праводзячых сабе на гэтай рабоце, за лік рабочых і работніц з прадпрыпрыемства, членаў саюзу і за лік тэорэтычна падрыхтаваных прапагандыстаў-антырэлігійнікаў партыйцаў.

15. Саюзу Бязбожнікаў узяць курс на ператварэньне Саюзу ў моцную масавую арганізацыю, дапускаючы адначасна стварэньне ячэек СБ толькі там, дзе ячэйкі могуць быць забясьпечаны кіруючымі сіламі

16. Саюзу Бязбожнікаў, разам з профсаюзнымі арганізацыямі разгарнуць працу па ўцягненьню ў актыўную антырэлігійную работу культурныя сілы (професуру, дактароў, аграномаў, школьных і політасьветработнікаў)

17. Саюзу Бязбожнікаў з адпаведнымі арганізацыямі распрацаваць пытаньне пастаноўкі антырэлігійнае работы па лініі кооперацыі, асабліва жыльлёвай, профсаюзаў, шэфтаварыстваў, сярод жанчын і нацменшасьцяй.

18. Фракцыі ЦСПСБ узмацніць жывую сувязь з мясцамі і інструктаваньне мясцовых саветаў, прыцягваючы для гэтае работы інструктараў як цэнтральных так і акруговых арганізацый, практыкаваць выклік мясцовых работнікаў з дакладамі Лічыць неабходным скліканьне акруговых канфэрэнцый СБ і Усебеларускага зьезду.

Фракцыі ЦСПСБ узмацніць работу сярод нацменшасьцяй арганізуючы для работы сэкцый адпаведных нацменшасьцяй ячэйкі і сэмінарыі для гурткаводаў, прыцягваючы для гэтае работы ўсе антырэлігійныя сілы данае нацыянальнасьці і, у першую чаргу, партыйцаў, якія ўмеюць весьці работу

19. Фракцыі Савету СБ прыступіць да вывучэньня работы і мэтадаў прыцягненьня насяленьня на свой бок рознымі рэлігійнымі групамі, асабліва сэкстантамі і сыстэматызаваць вынікі работы.

20. Фракцыі СБ узмацніць сваю работу па ўцягненьню сваіх членаў ў актыўную антырэлігійную работу, выхоўваючы іх з добрых прапагандыстаў, прызначаючы больш увагі практычнай масавай культурнай рабоце, пераходу на палепшаныя формы сельскагаспадарчай і калектывізацыі, арганізацыі і пабудовы грамадзкіх калодзежаў пажарных дружын, пабудова грамадзкіх лазьняў У прадпрыемствах і ў установах удзельнічаць у барацьбе з п'янствам, арганізуючы правядзеньне новага быту і удзельнічаючы ў арганізацыі для гэтага адпаведных дапаможных мерапрыемстваў, дзетпляцоўкі, ясьлі, грамадзкае харчаваньне, прачашныя і г. д.

21. Лічыць неабходным мець па аднаму платнаму працаўніку на акругу, падбіраючы іх з кваліфікаваных прапагандыстаў-антырэлігійнікаў. Аб каштарысе абгаварыць пытаньне асобна

# КРЫТЫКА І БІБЛІОГРАФІЯ

## Так ли?

*(По поводу рецензии на изданные „Материалы к пятилетнему перспективному плану народного хозяйства БССР на 1927-28—1931-32 г." в журнале „На аграрном фронте" стр. 123—125 П. Пинчук).*

Тов. П. Пинчук в своей рецензии от начала до конца проводит мысль, как будто „перспективный план сельского хозяйства заранее умерщвляет задачу коллективизации...", что составители его пессимистически утверждают о невозможности коллективизации..., что „все основные мероприятия, изложенные в перспективном плане, исключительно направлены к развитию индивидуального крестьянского хозяйства", и, наконец, делает генеральный вывод, что „раздел перспективного плана о сельском хозяйстве пронизан мелкобуржуазной концепцией создания идеального крестьянского мелкого хозяйства...".

Так ли это? Нет ли здесь сгущения красок пера одностороннего фельетониста? Действительно ли насквозь эти материалы (а не план—его нет и не было—М.) пропитаны духом „пессимизма", „мелкобуржуазности" и т. д.

Чтобы дать на все это ответ и рассеять сгущенный туман, придется, поневоле, по частям разобрать главнейшие места „обвинения". Тов. П. Пинчук на первом месте выставляет фразу, взятую из 38-й стр. опубликованных материалов, где говорится так: „особых перспектив на *значительное* (подчеркнуто нами - *М.*) увеличение площади совхозов и колхозов не может быть. Все *эти* (подчеркнуто мною --*М.*) хозяйства были организованы на земле государственного фонда"... „дальше берется там же, что „в настоящее время весь этот фонд исчерпан и дальнейших возможностей образования из *него* (обращаю также внимание на слово *„него"—М.*) совхозов или колхозов не имеется".

Для об'ективности т. П. Пинчук обязан был привести абзац до конца, а там напечатано так: „возможно увеличение числа колхозов за счет наиболее слабых совхозов, что и учитывается Госпланом при построении перспектив этого вида хозяйств", а дальше на стр. 38-й говорится, что „источником расширения земельной площади обобществленных хозяйств могут быть земли, вновь вовлекаемые в сельскохозяйственную эксплоатацию в результате мелиоративных работ. Можно допустить, что на образованном путем мелиорации болот колфонде, возможно будет организовать ряд колхозов (приблизительно около 120, т.-е. рост около 30%) с частичной добавкой уже эксплоатируемой земли и 1—2 совхоза с хозяйствами лугового типа".

Таким образом, мы видим, что материалы намечают возможности использовать наиболее слабые совхозы и мелиоративные земельные фонды под коллективы, что, конечно, не возбраняется при увеличении и усилении колхозовского строительства.

А что это признать великими возможностями невозможно, определяют вышеприведенные фонды, о том же, что они невелики, говорят следующие данные: „у трудовых землепользователей находилось в 1927 году 6.405,9 тыс. десятин или 96% земель сельско-хозяйственного

значения; в государственном земельном фонде—163,7 тыс. десятин или 2,45%, и в лесном—103,7 тыс. десятин или 1,55%" (стр. 19).

Вот почему и *особых* перспектив на *значительное* увеличение площадей не может быть, если говорить о вышеприведенном источнике, а об этом и только об этом, здесь идет речь, и не надо понимать под ним что-нибудь другое, хотя-бы крестьянские земли.

Таким образом, т. П. Пинчук не прав, желая фразу „особых перспектив... не может быть" обратить в фразу „особые перспективы... может иметь", это уже выявляет лишний оптимизм и недостаточное знание условий сельского хозяйства БССР и говорит, что он не вполне разобрался в тех материалах, о которых так много „лестных" слов было им пущено.

Дальше т. П. Пинчук на 39-й стр. пользуется фразой, что 689 совхозов и колхозов (из коих колхозов 430—*М.*) „не приобретают в течение предстоящего пятилетия особого значения, как фактор непосредственного обобществления сельского хозяйства" (если оно остается в таком состоянии,— *М.*). Так голо приведенная фраза, конечно, может создать несколько одностороннее впечатление, если при этом рассматривать вопрос только с точки зрения общественного значения, но если мы скажем и то, какое место они занимают в валовой и товарной продукции сельского хозяйства, а в 1927-28 году к общей валовой продукции сельского хозяйства продукция колхозов составляет лишь 2,16%, то слова „особое значение" уже должны получить несколько другой оттенок. Если же мы потрудимся прочесть дальше, то увидим, что не забыто в материалах ни первое, ни второе определения, и, что „они (совхозы и колхозы—*М.*) займут все же довольно крупное место в общем хозяйственном строительстве, особенно в деле индустриализации сельского хозяйства" и „наконец, они будут всегда иметь (т.-е. для пятилетнего плана сельского хозяйства *М.*) крупное значение и сумеют в полной мере выявлять преимущество крупного обобществленного хозяйства перед мелким индивидуальным и служить исходным пунктом для развертывания процесса непосредственного обобществленного хозяйства" (стр. 40).

Таким образом, несмотря на то, что приведенные материалы и определения были напечатаны до XV-го с'езда ВКП(б) и до опубликования постановления „О коллективных хозяйствах", мы можем отметить, что в создании коллективных хозяйств „материалы" все же требуют в дальнейших работах усиленного темпа развития коллективизации сельского хозяйства. Так, примерно, на стр. XXIV констатируется та большая роль кооперированных крестьянских дворов в деле поднятия сельского хозяйства, но одновременно критически—открыто указывает, что „коллективизация сельского хозяйства не имеет столь значительного темпа", как это было бы необходимо. На стр. 1-й дальше говорится, что „производство сельского хозяйства Белоруссии, которое основывается на деятельности около 800 тыс. единоличных крестьянских хозяйств, обобществление которых далеко еще недостаточно". Иными словами, о чем все это говорит? Оно говорит о том, что, учитывая особенности сельского хозяйства БССР, политику и систему сельско-хозяйственных мероприятий, одной из основных задач является: „усиление обобществленных элементов в сельском хозяйстве и всемерное содействие хозяйственному устройству деревенской бедноты при проведении всех сельско-хозяйственных мероприятий" (стр. 19).

Итак, мы не видим из этих цитат, чтобы эта установка здесь расходилась с общей установкой по коллективизации сельского хозяйства, другое дело, если бы т. П. Пинчук указал, что цифровые лимиты

недостаточны, мы бы тогда с т. П. Пинчуком согласились, но об этом как раз мало говорится. И это понятно, так как и т. П. Пинчуку должно быть ясен вопрос, о какой пятилетке (материалах), идет здесь речь, т.-е. не о той, которая теперь составляется по директивам XV-го с'езда ВКП(б)—о пятилетке на 1928-29—1932-33 г., а о тех материалах, которые перспективно освещали совершенно другой отрезок времени и изданы до директив XV-го с'езда ВКП(б).

Остановимся еще на одном „тяжелом" обвинении, что авось „материалы" пошли против тракторизации. Такое впечатление может создаться потому, что на стр. 32 говорится: „что нет также перспектив на распространение в ближайшие годы среди крестьянских хозяйств тракторов, так как легкость обработки почвы и некоторая пересеченность почвы дают возможность удовлетвориться применением лишь лошадиной рабочей силы, а необходимость применения ее и для других потребностей хозяйства—молотьбы, работы с соломорезкой, а также для личных раз'ездов, лесных заработков—делает ее по существующим условиям хозяйства незаменимой". По определению П. Пинчука эта фраза сотворила великий „грех" и „забыли" то, что „трактор содействует обобществлению мелких крестьянских хозяйств..." и „выгодное использование возможно только в целом коллективе крестьянских хозяйств". Здесь хотелось бы т. П. Пинчуку еще раз указать, неужели нельзя было из 32-й стр. привести еще две строчки, говорящие, что: „Перспектива тракторизации на ближайшее пятилетие в БССР строится на применении их в совхозах, колхозах...". Значит в чем же расхождение, уместна ли здесь ироническая фраза П. Пинчука „о крестьянской некультурности и керосиновой лампочке" и т. д. и если так т. П. Пинчук пойдет дальше в своих опытах, то надо опасаться, чтобы действительно не очутиться в об'ятиях „мелко-буржуазной концепции".

Пропускаем ряд мелких мест из-за ограниченности времени и места. Остановимся еще на одном из последних моментов—о выгодности и невыгодности коллективизации хозяйств.

В рецензии т. П. Пинчука имеется следующее место, что „в целях уменьшения удельного веса совхозов и колхозов в перспективном плане имеется даже утверждение, что продуктивность их ниже продуктивности единоличных хозяйств и желая доказать, что это не так, приводит табличку Белсельсоюза за 1926-27 операционный год, что урожай коллективных хозяйств с десятины дает:

| | | | |
|---|---|---|---|
| ржи . . . | 54,7 пуд., | а крест. хоз. | 42,8 пуд. |
| ячменя . . | 32,3 „ | „ „ „ | 37,6 „ |
| картофеля | 543,2 „ | „ „ „ | 534,2 „ |

Этой табличкой т. П. Пинчук желает нам доказать, как определить продуктивность сельского хозяйства.

Нам всем известно, что продуктивность сельского хозяйства определяется не только урожайностью ржи, пшеницы и картофеля, но и другими показателями и при этом нельзя обойти такие важные моменты в сельском хозяйстве, как животноводство, технические культуры и т. д. Таким образом мы видим, что в методологии подсчетов у т. П. Пинчука не все в порядке в его доказательствах, но это другой вопрос. Теперь по существу—о чем действительно говорят материалы. Они говорят следующее, что в 1927-28 г. на 1 десятину земли сельско-хозяйственного пользования падает валовой продукции в довоенной оценке по совхозам и колхозам 62,1 руб., а по единоличным хозяйствам 64,6 руб. (стр. 38). Дальше на стр. 39-й показано, что в дальнейшем

темп развития совхозов и колхозов быстро обгоняет индивидуальные хозяйства и валовая продукция уже на каждую десятину поднимается в колхозах до 92 руб. (в довоенной оценке) против 76 руб. в крестьянских хозяйствах. Из этого мы ясно видим, что нет той тенденции показать невыгодность колхозов, в которой так „беспристрастно" старается нас убедить т. П. Пинчук.

Таким образом, не останавливаясь на разных столь же необоснованных моментах и намеках, мы должны сказать, что темп коллективизации сельского хозяйства, как в наших предварительных материалах, так и в пятилетке по сельскому хозяйству, которая теперь составляется и которая уже получила соответствующее освещение, должное место отведено коллективизации сельского хозяйства. Одновременно не забыта полная оценка роли и задач, которые все еще остаются и в громадном размере перед индивидуальным сельским хозяйством.

Совхозы и особенно колхозы будут победоносно развиваться и устранять все те недостатки и трудности, с которыми им придется встречаться, создавая своей работой большие стимулы для индивидуальных крестьянских хозяйств для перехода к обобществленным формам производства в сельском хозяйстве.

М.

# „Більшовік України“. Політико-економічний журнал ЦК КП(б)У №№ 14, 15-16, 17, 18—1928 г.

Часопіс нашае братэрскае кампартыі Украіны—гэта часопіс, ад якога можна шмат чаму навучыцца. Бо, калі узяць толькі рацэнзуемыя нумары „Більшовіка України“, няма амаль што ніводнага важнага палітычнага ці эканамічнага пытаньня, на якім гэтая часопіс не загастрала-б увагу шырокіх колаў кампартыі „Більшовік України“ абгаварвае палітыка-эканамічныя пытаньні ня толькі Савецкае Украіны, але высоўвае і абгаварвае шэраг пытаньняў палітыка-эканамічнага становішча свайго капіталістычнага суседа - фашысцкае Польшчы і Заходняе Украіны. Часопіс шмат увагі зварочвае на ухілы, якія існавалі і яшчэ існуюць у кампартыі Заходняе Украіны (шумскізм, васількоўшчына). Таму можна сказаць, што „Більшовік України“ на справе дапамагае партыі у мабілізацыі грамадзкае думкі партыі вакол важнейшых пытаньняў сацыялістычнага будаўніцтва, у выпраўленьні тых ці іншых ухілаў ад правідловага шляху, якія яшчэ ёсьць у савецкім апараце, дапамагае партыі высьвятляць праблемы барацьбы з ухіламі ўнутры партыі, і міжнародныя праблемы.

Трэба адзначыць, што „Більшовік України“ правідлова адводзіць шмат месца пытаньням будаўніцтва народнае гаспадаркі.

Так, у рэцэнзуемых нумарох часопісі мы маем 3 артыкулы, якія абгаварваюць пытаньні будаўніцтва сельскае гаспадаркі Украіны, з іх 2 артыкулы высьвятляюць пытаньні калектывізацыі вёскі — гэта тав. Адзінцова: „Будаўніцтва і абслугоўваньне калгасаў“ (№ 14) і тав. Зарывайка: „Сельска-гаспадарчая машынабудаўніцтва і калектывізацыя вёскі“ (№ 15-16). Тав. Адзінцоў у сваім артыкуле дае падрабязны аналіз будаўніцтва калгасаў, дае лічбы іх значнага росту (11.344 калгасаў) і адначасова падкрэсьлівае іх хворыя бакі. Паказваючы, што за апошнія гады на Украіне распалася да 2.000 калгасаў, аўтар вызначае прычыны гэтага зьявішча, якія, бязумоўна, павінны зацікавіць і нас. Прычынамі распаду часткі калгасаў зьяўляюцца: адсутнасьць земляўпарадкаваньня, невялікі памер зямельнае плошчы пад калгасамі, неарганізаванасьць унутранага распарадку калгасаў, заслабое абслугоўваньне і дапамога калгасам. З гэтага трэба і нам зрабіць адпаведныя вывады.

Пытаньням хлебазагатовак прысьвечаны 2 артыкулы передавая у 14-м нумары (прамова тав. Чубара на Пленуме ЦК і ЦКК КП(б)У) і тав. Нурынава „Вынікі хлебазагатовак 1927-28 г. і пэрспэктывы хлебазагатовак і хлебазвароту УССР у 1928-29 г.“ (нумар 15-16). Тав. Чубар падкрэсьлівае прычыны хлебазагатоўчага крызысу і недахопы партыйных і савецкіх арганізацый, якія выявіліся пры правядзеньні хлебазагатоўчае кампаніі і якія выразіліся ў замене партыйных мэтадаў адміністрацыйным газартам. Зразумела, гэтакія выпадкі дрэнна адбіваліся на палітычным становішчы вёскі. Усяго на Украіне зага-

тоулена 260 міл. 810 тысяч пудоў замест 265 міл. пудоў па пляну. Тав. *Чубар* падрабязна вызначае задачы, якія цяпер стаяць перад партыяй у хлебазагатоўчай кампаніі

Можна сказаць, што артыкул тав. Нурынава зьяўляецца працягам прамовы тав. Чубара. Тав. Нурынаў падрабязна гаворыць аб выніках хлебазагатовак (розных культур) па асобных акругах і падкрэсьлівае асабліва вялікую ролю ў хлебазагатоўках каапэрацыі, якая загатовіла 70,6% ўсяго хлеба. Вось у каго трэба вучыцца нашай каапэрацыі!

З артыкулаў, якія абгаварваюць пытаньні прамысловасьці, трэба адзначыць артыкулы: *Адрыянава*—„Сабекошт прадукцыі прамысловасьці" (№ 14), дзе аўтар дае аналіз вынікаў зьніжэньня сабекошту па асобных галінах прамысловасьці, *Гуцуляка* —„Перад новым гаспадарчым годам" (№ 17), дзе аўтар гаворыць аб становішчы прамысловасьці і сельскае гаспадаркі і аб пэрспэктывах іх далейшага разьвіцьця, *Саверджына* аб прыватнай прамысловасьці Украіны. На жаль, мы доўга шукалі ў 17 нумары часопісі артыкул *Іванова* „Становішча і бліжэйшыя пэрспэктывы жалезна руднай прамысловасьці УССР", але ніяк ня маглі яго знайсьці. У „зьмесьце" паказаны гэты артыкул, але ў часопісі яго няма. (За тое аддзел „Крытыка і бібліяграфія" дадзены 2 разы). Асабліва цікавы артыкул даў тав. Мінаеў (№ 17), які расказаў нам аб тым, якія групы насельніцтва карыстаюцца машынамі. На жаль і гэты артыкул зьмешчан ня цалкам—няма апошніх 4-х старонак.

Партыйным праблемам часопіс прызначыла 2 артыкулы тав. *Прасьвірніна* „Пра хворыя зьявішчы ў партыі і пра барацьбу зімі" (№ 15-16) і „Пра ўдзел партыйных ячэек у рацыяналізацыі" і артыкул тав. *Малінава*: „Пра сыстэму праверкі выкананьня пастаноў партыі" (№ 17). Як тав. *Прасьвірнін*, дык так і тав. *Малінаў* правільна ставяць пытаньне, але трэба усё-ж сказаць, што пасьля шахцінскае справы, пасьля дырэктыў адпаведных вышэйшых парторганаў можна было чакаць ад „Більшовіка України" больш увагі высьвятленьню хворых бакоў партыі і мерапрыемствам па іх зьнішчэньню.

Нацыянальнае пытаньне на Украіне мае вялікае значэньне. Таму можна было чакаць, што „Більшовік України" прызначыць адпаведную увагу высьвятленьню гэтага пытаньня, але, на жаль, не. Толькі ў 14 нумары ёсьць артыкул тав. *Сапава* аб яўрэйскім нацыянальна-тэрытарыяльным раёне, у той час, калі аб нацыянальных пытаньнях у Заходняй Украіне ёсьць 2 артыкулы тав. Вінярскага і інш. артыкулы. Мы ня хочам гэтым сказаць, што аб пытаньнях угнячэньня нацыянальных меншасьцяй у Заходняй Украіне і задачах кампартыі, у сувязі з гэтым, ня трэба пісаць. Бязумоўна, аб гэтым трэба пісаць, але ў кіруючым органе партыі патрэбна больш высьвятляць нацыянальныя пытаньні ў УССР, вопыт работы нацыянальных саветаў, вопыт культурнага абслугоўваньня нацыянальных меншасьцяў і г. д., тым больш, што па гэтых пытаньнях у асобных мясцох былі няправільныя ухілы.

Але, што добра пастаўлена ў часопісі,—гэта высьвятленьне ўхілаў у кампартыі Заходняе Украіны, нацыянальнае палітыкі фашысцкае Польшчы і наогул высьвятленьне асобных палітыка эканамічных бакоў становішча Польшчы і Заходняе Украіны. Пра гэта маюцца 2 артыкулы тав. *Вінярскага* (мы аб іх казалі вышэй), яго-ж артыкул аб новых момантах у эканамічным становішчы Польшчы і Заходняе Украіны (№ 14), артыкул *Сахацкага*: „Барацьба польскага фашызму з Беларускаю Грамадою" (№ 14), артыкул тав. *Хвіля*: „Блюдалізы графаў Бобрынскіх" (№ 18) і перадавая ў 18 нумары.

Таксама добра высьветлена работа VI кангрэсу Камінтэрну. Тут мы маем перадавую ў нумары 15-16: „VI кангрэс Камінтэрну аб міжнародным становішчы“, артыкулы Шмідта—„Пытаньні вайны на VI кангрэсе Камінтэрну“ і *Мінгуліна*—„Нацыянальна-каленіяльныя пытаньні на VI-м кангрэсе Камінтэрну“ (№ 17), артыкулы *Скрыпніка*—„VI кангрэс Камінтэрну“ і *Алексіна*—„Характарыстыка сучаснага капіталізму на VI кангрэсе Камінтэрну“ (№ 18). Такім чынам, усе галоўныя пытаньні, якія прапрацованы VI кангрэсам Камінтэрну, падрабязна высьветлены ў часопісі.

Часопісі трэба больш увагі зьвярнуць асьвятленьню і барацьбе з хворымі бакамі партыйнага жыцьця і савецкага апарату, больш месца прызначаць нацыянальным пытаньням на Украіне і абавязкова даць больш матар'ялу аб культурна-асьветнай рабоце.

Усё тое, на што мы паказалі, гаворыць аб тым, што „Більшовік України“ добра выконвае сваю ролю кіруючага партыйнага друкаванага органу. Пажадаем „Більшовіку України“ і надалей добра выконваць гэтую сваю ролю.

**М. Г.**

---

Адказны рэдактар *Я. Гамарнік.*

Рэдкалегія { *В. Стасевіч.* *А. Сянькевіч.*

# ЗЬМЕСТ



## НАША ТРЫБУНА



## НА МЯСЦОХ



## У ЦК КП(б)Б



## КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ





